ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

28 лютага 1997 г. | № 9/3885 | Кошт 3 000 руб.

# 65

## *гадоў назад, 26 лютага 1932 года, выйшаў першы нумар "ЛіМа"*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

## Калектыву рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"

Ад імя Урада Рэспублікі Беларусь рады павіншаваць "ЛіМ", газету творчай інтэлігенцыі рэспублікі, з 65-гадовым юбілеем.

За гэтыя гады на старонках "ЛіМа" адлюстроўваліся здабыткі беларускай культуры, абагульняліся асноўныя этапы яе развіцця.

Кіраўніцтва краіны робіць і будзе рабіць усё магчымае, каб падтрымаць нацыянальную культуру.

Дзяржава разлічвае на больш актыўную падтрымку і паразуменне дзеячаў культуры і мастацтва, бо канчатковая мэта ў нас адна — дабрабыт краіны, народа, развіццё і ўмацаванне духоўных каштоўнасцей.

Жадаю рэдакцыйнаму калектыву газеты плёну ў творчасці, здароўя і асабістага шчасця.

**Намеснік Прэм'ер-міністра**
**Рэспублікі Беларусь**
**У. В. РУСАКЕВІЧ**


*Галоўны рэдактар Н. Пашкевіч намесніку Г. Бураўкіну: "А заўтра выпускаем 2001-ы нумар..." (1965 г.)*

# *І люстэрка, і рупар*

Думаю, што ў жыцці кожнага беларускага інтэлігента абавязкова нешта звязана з "ЛіМам", як даўно і ласкава называем мы газету "Літаратура і мастацтва". Аднаму яна велікадушна даверыла свае старонкі для творчай заяўкі; другога — вельмі дарэчы, хай, можа, зусім сціплай па памерах і ацэнках рэцэнзіяй, падтрымала ў цяжкія хвіліны; а трэцяга (бывала і такое) — балюча і несправядліва пакрыўдзіла неразуменнем, а то і заліхвацкім разносам. Было. І засталося на палосах штотыднёвіка, нярэдка пажоўклых і запыленых, каб назаўсёды захаваць для цікаўных даследчыкаў адзнакі і галасы таго часу, праз які пранесены ён халодным люстэркам гісторыі і ахрыплым рупарам улады.

У маёй біяграфіі таксама ёсць "лімаўскі перыяд", калі пяць гадоў працаваў я ў рэдакцыі спярша загадчыкам аддзела літаратуры, а пасля намеснікам галоўнага рэдактара. Рамантычныя і няпростыя то былі дні. Яшчэ гайдаў вершаліны роздуму вецер рэфарматарскага дваццатага з'езда партыі, але ўжо слаўся понізу і гусцеў балотны туман брэжнеўскага застою.

Для мяне, маладога журналіста, была выдатнай прафесійнай і жыццёвай школай праца пад кіраўніцтвам дасведчанага і да жорсткасці патрабавальнага Нічыпара Пашкевіча, побач з засяроджаным, інтэлігентным Анатолем Вярцінскім, нястомным і універсальным Міколам Гілём, вопытным і разважлівым Уладзімірам Мехавым, сціплым і шчырым Уладзімірам Круком... І сёння ў душы маёй цёпла і радасна жыве адчуванне сям'і пры ўспамінах аб лімаўскіх буднях і святах, аб наіўных юначых парываннях і сур'ёзных ідэалагічных выпрабаваннях. Успамінаю як падарунак лёсу падборкі цудоўных вершаў Аляксея Пысіна, які тады як паэт нібы нарадзіўся нанова, першыя публікацыі Жэні Янішчыц, Алеся Разанава, Раі Баравіковай, дыскусіі аб шляхах развіцця беларускага рамана, вострыя аж да гнеўнасці, але надзіва тонкія і праніклівыя рэцэнзіі Рыгора Бярозкіна, поўныя нязлоснага гумару і высокага мастакоўскага майстэрства шаржы Міхася Лісоўскага... Прыкрасць і крыўду і сёння абуджаюць у душы несправядлівыя, а то і абразлівыя павучанні важных службовых асоб і афіцыйных газет пасля споведных палемічных артыкулаў Віктара Каваленкі, пасля апавядання Івана Чыгрынава "Жыве ў крайняй

*(Працяг на стар. 3)*

# *Будзьма разам!*

*Здаецца, зусім нядаўна мы ламалі галовы над тым, чым аздобіць юбілейны нумар, прысвечаны 60-годдзю газеты, фатаграфаваліся ўсёй рэдакцыяй на лютаўскім холадзе, таньчылі полечку ў Доме літаратара...*

*Час праляцеў незаўважна, і вось — новы, ужо не круглы юбілей штотыднёвіка: 65 гадоў.*

*З аднаго боку, можна было б і праігнараваць дату. Што такое паўдзесятка гадоў для газеты! Што магло перамяніцца — у грамадскай атмасферы і ў самой рэдакцыі?*

*Не скажыце, не скажыце... Час бывае няспешным і цягучым, а пасля як разгоніцца ў раскоўзанай каляіне, як загрыміць, як выб'ецца на цалік...*

*І ўжо што там будзе праз колькі месяцаў — не тое што гадоў! — аднаму Богу вядома.*

*Дык пакуль мы ёсць і пакуль патрэбны грамадству, адзначым свае неафіцыйныя 65. А каб лепш усвядоміць і асэнсаваць усе этапы і вехі "ЛіМа", у тым ліку сённяшні, мы сабралі на юбілейных 24-х палосах многіх былых лімаўскіх супрацоўнікаў.*

*Але гэта, дарагія чытачы, і ваша свята. Таму яшчэ раз паўторым наш звыклы заклік, які амаль што стаўся дэвізам: "Будзьма разам!"*

# Не прарочылі — проста мелі рацыю

Анатоль ВЯРЦІНСКІ

***І ў некаторых момантах спрабавалі дайсці да сутнасці, выявіць ісціну, акрэсліць тэндэнцыю.***

***Сёння, у святле апошніх падзей, гэта добра бачна.***

*Момант першы.* Чытач, спадзяюся, помніць лімаўскую дыскусію, прысвечаную стану беларускай мовы. Ён, можа, нават помніць, што дыскусія пачалася ў верасні 86-га года друкаваннем ліста віцебскага настаўніка і пачынаючага літаратара Франца Сіўко і разгорнутага рэдакцыйнага каментара да ліста. Ды, відаць, мала хто згадае, якую назву меў той каментар. Мне ж асабіста ён вельмі добра помніцца. Бо не адразу знайшлася. Бо прыйшлося разам з Міколам Гілём і Кастусём Тарасавым (апошні ў асноўным рыхтаваў матэрыял) нямала памазгаваць, каб знайсці адпаведны загаловак. Перабралі некалькі варыянтаў і спыніліся напрэшце вось на гэтым: **"Закон і вакол закона"**. Зрабілі, словам, акцэнт на юрыдычна-прававым аспекце тэмы, звязалі драматычны лёс нацыянальнай мовы і культуры з узроўнем законнасці ў краіне, а дакладней — з беззаконнем, з прававым нігілізмам.

І, як паказаў час, як сведчаць апошнія падзеі, мы мелі рацыю, мы не памыліліся.

*Момант другі.* Задумваем і, не адкладваючы ў доўгую шуфляду сваю задуму, праводзім на пачатку снежня 89-га года "круглы стол" на тэму: "Перабудова і правы чалавека". Для ўдзелу запрашаюцца дэпутаты, юрысты, пісьменнікі, журналісты, прадстаўнікі зацікаўленых ведамстваў. Размова носіць дзелавы, аналітычны, па-сапраўднаму дыскусійны характар. Востра ставіцца пытанне аб становішчы з правамі і асноўнымі свабодамі чалавека ў рэспубліцы, аб яўнай неадпаведнасці гэтага становішча сусветным стандартам, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Хельсінкскаму Заключнаму акту, Венскаму выніковаму дакументу. Некаторыя ўдзельнікі дыскусіі — Станіслаў Шушкевіч, Вольга Іпатава, Юрый Хадыка, Святлана Алексіевіч, Юрый Дракахруст і іншыя — паказваюць і на канкрэтныя прычыны такой сітуацыі. "Каб мець уладу, неабавязкова, відаць, быць адукаваным чалавекам, — гаворыць С. Шушкевіч. — З гісторыі мы ведаем, што Чынгіс-хан не ўмеў нават паставіць свой подпіс, але ўладай валодаў велізарнай. Гэта, мне здаецца, добра засвоілі многія прадстаўнікі наменклатуры. Яны лічаць неабавязковым для сябе ведаць міжнародныя пагадненні, якія тычацца правоў і свабод чалавека, маўляў, сыдзе і так. Самі не хочуць ведаць і народ трымаюць у няведанні. Каб знайсці Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека, я падняў на ногі мала не ўсіх супрацоўнікаў нашай універсітэцкай бібліятэкі. Ледзь знайшлі. Аказваецца, пра гэты дакумент, па словах бібліятэкараў, ніхто ніколі дасюль не пытаўся. Чаму за сорак з лішнім гадоў пасля прыняцця Дэкларацыі яе ў нас ніводнага разу не выдалі масавым тыражом?"...

Перачытваю падрыхтаваную Мі-



хасём Замскім справаздачу з таго "круглага стала", што была змешчана пад загалоўкам "Кожны чалавек мае права" ў апошнім нумары "ЛіМа" за 1989 год, а мімаволі суадношу з сённяшнімі рэаліямі (пераслед студэнтаў, якія ладзілі пікет у Дзень абароны правоў чалавека, арышт грамадзян за тое, што распаўсюджвалі... Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека і да т. п.) і думаю: мелі ўсё ж мы, лімаўцы, рацыю, слушна арыентаваліся ў ідэалагічных прыярытэтах.

*Момант трэці.* Недзе восенню 88-га года нехта прыносіць у рэдакцыю асобнік выпуску "Праграмы радыё Ватыкана". Праграмы надрукаваны на шмат якіх мовах, адрасаваная беларусам — на мове беларускай. І тут жа, бачу, надрукавана "Малітва за Беларускі Народ" (усе словы з вялікай літары). Прачытаў раз і другі малітву, паказаў калегам, і асяніла раптам думка: а ці не надрукаваць яе ў тыднёвіку нашым? Хай сабе і атэістычным, свецкім, хай сабе і савецкім, пазначаным інтэр-пралетарскім дэвізам ("Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!"). Хай сабе... Ды вельмі ж добрыя, вельмі ж душэўныя і ўзнёслыя словы былі ў малітве. "Сусветны Уладару, Прадвечны Божа, Ты ўвесь свет стварыў і законы для ўсяго ўстанавіў, кожнаму месца і мэту назначыў... Мы, дзеці Беларускага Народу, як маглі слухаліся Тваіх загадаў, але з слабасці чалавечае часта падалі і зневажалі Цябе сваімі грахамі. Цяпер молім Цябе шчыра: даруй нам нашы грэшныя правіны, нашу нядбайлівасць у адносінах да сябе саміх і да іншых... Дай нам еднасць у веры, згоду ў сямейным і грамадскім ды палітычным жыцці... Пашлі Беларускаму Народу святых і вялікіх слугаў сваіх, якія праведным, пабожным і мудрым жыццём і дзейнасцю вялі б Народ да лепшае долі..." Пэўна, грэшна было б не давесці да ўвагі чытача гэтыя словы, і мы надрукавалі (перадрукавалі, дакладней) малітву.

І калі я сёння сустракаю на старонках друку вершы-малітвы, вершы-песнапенні (часам тэксты друкуюцца разам з нотамі) у імя Беларусі, беларускага народа, калі чытаю творы-літанні той жа Антаніны Хатэнкі, я не без гонару думаю: "ЛіМ" таксама мае дачыненне да гэтай боскай справы, да гэтай новай традыцыі.

*Момант чацвёрты.* Я ўжо загаварыў пра колішні сусветна-пралетарскі дэвіз. Мы былі, зноў-такі, аднымі з першых у змаганні з гэтым сакральным рэліктам ваяўніча-класавага падыходу. Колькі было прыкладзена намаганняў, колькі выказана аргументаў для таго, каб некаму даказаць, некага пераканаць і, нарэшце, у адзін цудоўны дзень зняць з газетнай паласы баявы заклік і замяніць потым яго на купалаўскае: "Людзьмі звацца!"

Карыстаючыся выпадкам, яшчэ раз выказваю шкадаванне, што купалаўскі дэвіз быў чамусьці зняты і прапаную вярнуць яго. Акрамя агульнавядомых доказаў на карысць гэтага, нагадаю: Янка Купала стаяў ля вытокаў свабоднага беларускага друкаванага слова.

---

# Не хістацца!

Рыгор БАРАДУЛІН

З першых дзён сваіх у Менску сутыкнуўся я з "ЛіМам", якім смела й прынцыпова кіраваў Васіль Вітка. Адно не мог я ўцяміць, хто да каго падобны — Васіль Вітка да Фёдара Цютчава ці наадварот.

Гэта ва універсітэцкім скверыку, тады яшчэ не канчаткова адрэдагаваным, Анатоль Клышка, які ўжо грунтоўна друкаваўся, казаў: "Павалаку артыкул у ЛіМ".

У "ЛіМе" друкаваліся мае фактычна першыя вершы.

У "ЛіМе" Анатоль Клышка надрукаваў маё школьнае мармытанне пра Максіма Багдановіча. Ён жа даручыў было мне для "ЛіМа" праверыць па Менску, дзе няправільна па-беларуску напісаны кінаафішы, дзе іх зусім няма па-беларуску. Хвалі адбеларушвання сталіцы Беларусі як падымаліся, так і ападалі. Бо савецка-партыйныя наглядатаі ад ідэалогіі давалі разгуляцца смелым намерам па нашай пасляўцы: разгуляйся, як сабака ў торбе.

У рэдакцыі "ЛіМа" пісалі мы з незабыўным Станіславам Шушкевічам навагоднія эпіграмы ў нумар — эпіграмы з рэгламентаванай калючасцю.

У рэдакцыі "ЛіМа" можна было захмялець не толькі ад добрай чаркі, але і ад душэўнай гутаркі з Міхасём Стральцовым: прасвятлець ад далікатнай шчырасці Варлена Бечыка; паразумнець ад мудрай заўвагі ці парады Рыгора Бярозкіна.

У "ЛіМе" як на папраўча-працоўных работах на нізавой пасадзе шчырэў апальны Васіль Сёмуха, цярпліва слухаючы жахі Алеся Бажко пра шпіёнаў ды дыверсантаў, пра агентаў Ватыкана, пра ідэалагічных ворагаў савецкае ўлады.

Гэта ў "ЛіМе" працаваў хударлявы Уладзімір Крук, які мог прыйсці дадому да маладога паэта — п'янага, як казаў Уладзімір Караткевіч, у драбадан — ды зняць каўбоя рыфмаў у сваю газету цверазюткім, як зімовы досвітак.



Быў некалі анекдот, як камуніст запаўняў анкету з пытаннем, ці былі ў яго хістанні. Той напісаў, што хістаўся разам з генеральнай лініяй. Гэтак і "ЛіМ" хістаўся з генеральнай лініяй, з лініяй часу. Бываў ён і шалёна савецкім, і палітычна адліжным, і перабудовачным, і сямейна-кланавым, і смелым, і разгубленым... Усё, як у людзей.

Галоўнае, што "ЛіМ" заставаўся нацыянальным, беларускім, калі льга так сказаць, чалавекам.

Каб не быць надаядлым успаміншчыкам, проста хачу павіншаваць шаноўны "ЛіМ" з добрай нагодай і з новым рэдактарам — лірычным дэмакратам:

*Хай і ў рэдактара, і ў "ЛіМа"*
*Не ападае тое, што*
*Падняць загадам немагчыма!*
*Сто год!*
*І два разы па сто!*

І "ЛіМу", і новаму рэдактару жадаю роўна трымаць генеральную лінію беларускасці! Не хістацца!

---

# Мы ў "Беларускім доме"

Яны па чарзе заходзілі ў кожны лімаўскі кабінет, прышпільвалі мікрафоны, распачыналі гаворку... Яны — гэта вядучы Сяргей Тарасаў, рэжысёр Галіна Сакалова і аператар Валянцін Леванові́ч. Што атрымаецца з нашых кароткіх дыялогаў, вы пабачыце ў перадачы "Беларускі дом". У прамым эфіры будзе адказваць на пытанні рэдактар Уладзімір Някляеў. Нагода зразумелая: "ЛіМ" — юбіляр!

---

ЮБІЛЕЙ

# На дваіх ім — 25!

І з гэтай нагоды не так даўно была ў "ЛіМе" гаворка пра папулярны эстрадны дуэт. Сябры-прыхільнікі называюць іх "Ядзя з Сашам". Афішы прадстаўляюць больш афіцыйна: Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч. Дык вось, на тым тыдні афішы са знаёмымі імёнамі паклікалі публіку ў Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі, на сцэне якога ладзілася вечарына ў гонар 25-годдзя творчай дзейнасці гэтых многімі любімых артыстаў. І падтрымка калег, якія бралі ўдзел у канцэрце, і гарачы прыём публікі, і ўвага афіцыйных асобаў (у зале прысутнічаў і Прэзідэнт краіны) — добры стымул творчай працы Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, чые абаяльныя ўсмешкі, шчырыя песні, патрабавальны музычны і сцэнічны густ ужо чвэрць стагоддзя вызначаюць лепшыя рысы беларускай эстрады.

*Фота Г. ЖЫНКОВА*



---

ЭКСЛІБРЫС

# "Літаратура народаў свету".

*Хрэстаматыя-дапаможнік для 10 класа сярэдніх школ Беларусі. БГАКЦ Мінск, 1995.*

**Калі размова заходзіць пра замежную літаратуру, сярэдні беларус не разгубіцца. Ён адразу ж назаве Чэйза і Агату Крысці, ці які-небудзь там дзесяты том "Унесенных ветром", што прадаецца ўраздроб у электрычках ці на шматлікіх кніжных развалах.**

**Але што ж, і Чэйз і Агата Крысці, і нават дзесяты том "Унесенных ветром", складзены за два тыдні ў Мінску, дзе-небудзь на Уральскай, гэта ўсё ж лепей, значна лепей за тое, што сярэдні беларус можа пачуць ці пабачыць па Беларускім радыё ці тэлевізіі. Таму, мабыць, і купляюць, каб забыцца.**

**Але ж ёсць і іншая замежная літаратура. Ёсць літаратура, якая здзіўляе сваёй сталасцю, мудрасцю і хараством, якая пераносіць чытача ў іншы свет, у іншае вымярэнне, выхоўвае ў людзей лепшыя чалавечыя якасці, дапамагае разумець і любіць гэты свет, а таксама ставарае разнавектарнасць у культурным выхаванні чалавека, здымае рупна выхаваны ў беларусаў за два стагоддзі рабскі ўмоўны "ўсходні" рэфлекс.**

**У чалавечым выхаванні праз вывучэнне замежнай літаратуры пажадана не пераскокваць, каб не выхоўваць пасярэдзіне Еўропы азіятаў у пэўным азначэнні гэтага слова. І таму я літаральна з радасцю трымаю хрэстаматыю сусветнай літаратуры, складзеную вядомым беларускім перакладчыкам і грамадскім дзеячам Лявонам Баршчэўскім.**

**Укладальнік, адбіраючы творы ў хрэстаматыю, спасылаецца на аўтарытэт Гётэ, які "да твораў сусветнай літаратуры адносіў самыя выдатныя творы нацыянальных літаратур, якія істотна спрыяюць культурна-духоўным кантактам розных народаў і маюць непераходнае для сусветнай культуры значэнне".**

**Сабраныя пад адну вокладку беларускія пераклады і любоўнай лірыкі Сапфо, і велічных одаў Гарацыя, і знакамітая "Песня пра Раланда", і "Боская камедыя" Дантэ, і санеты Петраркі, і драматургія Шэкспіра і Мальера, і проза Бальзака і Ажэшкі, па-першае, яшчэ раз паказваюць натуральнасць перакладаў "неўміручых" на беларускую мову, і, адпаведна, ідыятызм усіх адваротных сцвярджэнняў, а па-другое, хоць на трошкі адхінаюць перад беларускім школьнікам покрыва, якое захінае такі невядомы для яго свет, як замежная сусветная літаратура.**

**ПагляДзеўшы на прозвішчы перакладчыкаў твораў з арыгінальных моваў, а гэта і сам укладальнік Л. Баршчэўскі, і Р. Барадулін, і В. Сёмуха, і З. Колас, А. Клышка ды іншыя, на якасць гэтых перакладаў прыходзіш да высновы: на сёння ў нас склалася высокапрафесійная школа перакладчыкаў практычна з усіх асноўных моваў свету. Але наколькі іхнія намаганні патрэбныя беларускай культуры, бачна па тым, як непрыкметна зніклі беларускія "Далягляды", затое нечакана буйна расквітнела рускамоўная "Всемирная литература". "Клопат" дзяржавы відавочны.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

## Увага, конкурс!

**Беларускі камітэт Коледжаў міжнароднай супольнасці (United World Colleges, UWC) аб'яўляе конкурс на паступленне ў Адрыятычны міжнародны коледж у Італіі, у Міжнародны Паўночны коледж Чырвонага Крыжа ў Нарвегіі, у Міжнародны коледж Махіндра ў Індыі, у Міжнародны коледж Уотэрфорд Камхлаба ў Паўднёвай Афрыцы і ў Міжнародны коледж Сімона Балівара ў Венесуэле.**

**Галоўная мэта Коледжаў міжнароднай супольнасці — усталяванне ідэалаў міру, талерантнасці і супрацоўніцтва паміж моладдзю розных краін праз адукацыю. У кожным з коледжаў навучаецца па 200 чалавек з 150 краін свету. Мова навучання — англійская. Кожны студэнт мусіць добра ведаць гісторыю, мову, культуру сваёй краіны.**

**Тэрмін навучання ў коледжах — 2 гады. Студэнты маюць права выбіраць накірунак навучання.**

**Выпускнікі атрымліваюць даплом міжнароднага бакалаўра, які прызнаны ў больш чым 150 краінах свету, у тым ліку ў ЗША, Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі, Францыі, Японіі, і дае права працягваць адукацыю ў вышэйшых навучальных установах гэтых краін.**

**Абітурыенты мусяць мець поўных 16 год на 1 верасня 1997 г.**

**Міжнародны коледж Сімона Балівара (Венесуэла) дае вышэйшую сельскагаспадарчую адукацыю (кіраванне сельскай гаспадаркай, фермерскі менеджмент), таму ўзрост абітурыентаў у гэты коледж — 18—22 гады.**

**Пачатак навучальнага года ў коледжах — 1 верасня 1997 г., у Міжнародным коледжы Уотэрфорд Камхлаба (Паўднёвая Афрыка) — 1 студзеня 1998 г.**

**Конкурс адбываецца ў два туры. Першы тур — завочны. Абітурыенты павінны да 24 сакавіка 1997 г. даслаць у адборачную камісію па адрасе г. Мінск 220050, вул. Кірава, 21, пакой N 6 наступныя дакументы:**

**1. Заява на ўдзел у конкурсе з указаннем свайго адраса, а таксама адраса, тэлефона і нумара сваёй школы;**

**2. Эсэ на беларускай і англійскай мовах на тэму "Якой я бачу Беларусь у III тысячагоддзі", аб'ёмам 6-7 старонак вучнёўскага сшытка.**

**Тыя, хто пройдзе завочны курс, будуць запрошаны на сумоўе, якое адбудзецца 18 красавіка 1997 г. і на якім будзе выяўляцца ўзровень ведаў абітурыентаў па беларускай гісторыі, мове і літаратуры, англійскай мове, сусветнай гісторыі і культуры.**

**Да сумоўя абітурыенты мусяць прадставіць у адборачную камісію:**

**1. Копію пасведчання аб нараджэнні;**

**2. Даведку аб стане здароўя;**

**3. Копію ведамасці аб паспяховасці за 1996—1997 навучальны год.**

**Камісіі могуць быць прадстаўлены граматы, дыпломы і іншая інфармацыя, якая сведчыць пра творчую і спартыўную дзейнасць абітурыента.**

**Камітэт шукае спонсараў для аплаты 50 працэнтаў кошту за навучанне, а таксама авіябілета для студэнта індыйскага коледжа.**

*Тэл. для даведак 226-10-73.*

## Афіша Дома літаратара

*5 сакавіка* **адбудзецца творчы вечар І. Раманчука. Прагучаць песні на вершы беларускіх паэтаў у выкананні ансамбля "Менскі гармонік".**

**Прэзентацыя альманаха Полацка-Глыбоцкай літаратурнай філіі Віцебскага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў "Край" запланавана на** *12 сакавіка.*

*14 сакавіка* **выступае дзіцячы хор Рэспубліканскага музычнага ліцэя.**

*19 сакавіка* **мяркуецца прэм'ера дакументальных фільмаў студыі "Летапіс" "Забытыя нябёсы" і "Ля берага човен чакае мяне".**

**Літаратурна-музычная вечарына "Стаім мы перад будучыняй нашай" сумесна з Дзяржаўным музеем Янкі Купалы праводзіцца** *24 сакавіка.*

*28 сакавіка* **адзначаецца 100-годдзе з дня нараджэння драматурга В. Шашалевіча.**

УСЕ ГЭТЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПАЧЫНАЮЦЦА Ў 18 ГАДЗІН 30 ХВІЛІН.

**Пройдуць чарговыя пасяджэнні секцый: прозы —** *13 сакавіка,* **паэзіі —** *18 сакавіка,* **перакладу —** *20 сакавіка,* **секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва —** *26 сакавіка.*

*Пачатак работы секцый у 15 гадзін.*

Раіса БАРАВІКОВА

# Восень, якой не было

Спякотны дзень мінулага лета. Выратавальная прахалода метро. Стракатыя жаночыя сарафаны, разморанасць у постацях, на тварах... і раптам... "Коля! — крычу здалёк. — Коля, ты ўжо некалькі тыдняў патрэбны мне, але ёсць Бог..."

Селяшчук, бы аглушаны гэтаю маёй тырадаю, маўчыць, пасміхаецца, а я ўсё гавару: "У мяне ж кніжка, ужо ўсё абгаварылі з рэдактарам... "Сад на капялюшыку каханай", штосьці накшталт выбрана. Патрэбен слайд тваёй карціны "Восень". Эпіграфам да ўсёй кніжкі будзе вось гэтае дванаццацірадкоўе:

***Я памаўчу, ты гавары***
***сваёю шапатлівай мовай,***
***пакуль завейнасцю ліловай***
***ноч да канца не дагарыць.***

***Нішто не вернецца назад,***
***пачуцці нашы ў дымцы цьмяней,***
***а ты малюеш зноўку сад***
***на капялюшыку каханай.***

***Кране тугою краявід***
***пад Боскім зоркавым кілімам,***
***і плакаць хочацца наўзрыд***
***аб нечым тайным, немагчымым...***

Мы не бачыліся гады чатыры, але многія ведаюць, што ў мяне ёсць звычка не заўважаць часу, сціскаць яго да мінімуму. Вось і цяпер здавалася, нібыта мы зусім нядаўна развіталіся і зараз працягваем перапыненую гаворку. А гаворка сапраўды калісьці была, што некалі адну з кніжак я назаву "Сад на капялюшыку каханай". Коля тады здзіўлена адазваўся: "А ты не бачыла маю "Восень"? Гэта нешта падобнае". Тады і ўзнікла ідэя слайда на вокладку. "Дык што ад мяне трэба?" — "Слайд", — адказваю і чую, як шчыміць: "а можа, ты і шрыфты падабраў бы", але ведаю, Коля даўно не бярэ кніжак на афармленне. "Знайду я табе слайд, — кажа ён, — але наколькі я разумею, гэта не гарыць. Давай адкладзём на восень, калі аціхне ўся гэтая летняя мітусня, і ўвогуле, што мы стаім, давай пройдземся"...

Трошкі прайшліся туды-сюды па платформе метро, пагаварылі, што называецца,"за жыццё". Ну, дык восенню я табе буду званіць", — праз колькі часу кажу на развітанне. Коля згодна ківае, і ніхто з нас тым днём не ведаў, што ўжо ніякай восені не будзе. Можа, толькі на вокладцы ўсплыве слайдам... Ну, а што да ўспамінаў, дык у іх жыве

### ПАЧАТАК САДУ

1976 год. У мяне падрыхтаваны да друку рукапіс другой кніжкі вершаў "Слухаю сэрца". Ад яе залежыць, прымуць мяне ў СП ці не. Вельмі хочацца, каб яна была ўдалай ва ўсіх адносінах. Прашу ў сваёй суседкі, тады маладой мастачкі, Іры Кузняцовай пазнаёміць з кім-небудзь з маладых графікаў, хто · мог бы зрабіць выключна добрае афармленне. Яна адразу называе: "Коля Селяшчук!"

І вось наша знаёмства адбылося. Мне падабаецца Колева ціхая ўсмешка, немітуслівасць, цёплыя іскрынкі ў вачах... Ён не адмовіўся ўзяцца за мастацкае афармленне, гэта была ці не першая ягоная кніга з тых, якія ён апранаў у прыгожыя кідкія вокладкі. У той кніжцы было многа саду... На некалькіх старонках тонка выпісаныя дрэвы, кветкі, нейкія дзівосныя расліны, галінкі з яблыкамі... А на вокладцы, на сінім фоне — белы жаночы профіль у такім жа белым капялюшыку. Пытаюся ў Колі, што ж ён так засяродзіўся на садзе? "Ты лічыш, гэта дрэнна? — запярэчыў ён. — Сад — жыццё, і ў рэаліях, і ў падтэкстах, і ў філасофіі. Завязь, квеценц, плод..."

Потым мы шмат разоў вярталіся да гэтага "саду". Я тады працавала ў рэдакцыі "ЛіМа", жыла на плошчы Якуба Коласа, тут жа побач на вуліцы Казлова — Палац мастацтва, праз колькі часу насупраць яго Коля атрымаў майстэрню... Усё гэта зводзілася да таго, што мімаходзь бачыліся ледзь не кожны дзень. "Ну, што ў тваім садзе?" — часам вітаўся ён. "А-а, адна спустошанасць! — адмахвалася ці, наадварот, адказвала смехам: — Ты ведаеш, квітнее!" Аднаго лета ў доме, дзе я жыла, наладзілі капітальны рамонт. Справа дайшла да падлогі. Майстры сказалі, што ў іх ёсць толькі два колеры: цёмна-руды і зялёны. "Што вы мне параіце?" — "Ідзіце ў магазін, купіце што-небудзь жоўценькае". Выходжу на праспект, каб скіравацца да Камароўкі і купіць тое "што-небудзь жоўценькае", гляджу... Коля. Расказваю яму пра свой клопат. "Ды ты што, фарбуй у зялёны... Толькі ўяві, якая ў цябе будзе падлога! Ты ж будзеш заўсёды як у садзе, сярод травы!" Я і вярнулася, сказала майстрам: "Фарбуйце ў зялёны...". І ўжо праз нейкі час сабралася ў мяне нейкая сімпатычная кампанія, завітаў і Коля, гляну ў і рассмяяўся: "О-о, зялёная падлога!"

Я не магу сказаць, што мы былі надта блізкімі сябрамі, але нейкая пяшчотная прыязнасць была, несумненна. Колю акружалі вельмі мілыя людзі — Іра і Генадзь Грушавыя, Жэня і Ларыса Коктышы... Часам мы і збіраліся гэтым колам, да якога яшчэ далучаліся Лена Папова і Рыгор Несцераў... Мы тады не чулі слоў "карупцыя", "плюралізм", "чарнуха", але вельмі добра ведалі, што ёсць мастацтва. Чыталі вершы, смакавалі водар, які лунаў над палотнамі, што ярка выпісвала Колева майстэрства і фантазія. Праз некалькі гадоў ён пагадзіўся зрабіць мастацкае афармленне і наступнай маёй кніжкі — "Такое кароткае лета". Праўда, сказаў крыўдліва: "Баравікова, я працую на цябе — і ніякай удзячнасці, ну хаця б які верш мне прысвяціла!" Я задумалася: "У прынцыпе, варта было б... Але, ведаеш, я ж умею пісаць вершы толькі пра каханне". — "Якая розніца, напішы пра каханне... Гэта нават цікава!"

Да той Колевай просьбы я вярнулася трошкі пазней, але гэта ўжо быў іншы час. Я ўжо не жыла на плошчы Якуба Коласа і не працавала ў "ЛіМе", вядома, і з Колем бачыліся зрэдзь, час ад часу. Ужо не было той выпадковасці сустрэч. Але вось на нейкай выстаўцы мільганула яго карціна "З твайго саду да мяне на агеньчык". І нешта кранулася ў душы, зайграла нейкая пачуццёвая фантазія. Назва ягонай карціны стала эпіграфам да верша, які потым трапіў у кнігу "Адгукнуся голасам жалейкі":



***У мяне палянка ёсць за садам,***
***многа там шыпшыны і травы,***
***дам табе высокую пасаду, —***
***будзь майго бяссоння вартавым.***

***Упадзе ў траву пялёстак клейкі,***
***задрыжыць расінка на плячы, —***
***адгукнуся голасам жалейкі,***
***каб не сумавалася ўначы.***

***Перадам з душы ўтрапёнасць слову,***
***што ірвецца спуджана здалёк,***
***у шыпшыннік, пад тваю ахову,***
***быццам саду лёгкі матылёк.***

Пазваніла Колю, аддрукавала верш і нейкім момантам аддала яму. Не ведаю, якія думкі былі ў яго, але знешне быў вельмі задаволены. А потым паабяцала Таісе Бондар у часопіс "Беларусь" напісаць артыкул пра Селешчука... На жаль, гэта засталося толькі абяцаннем, затое ў кніжку "Каханне" напісаўся яшчэ адзін верш — "Даўняя мелодыя":

***Жаліцца скрыпка зусім як калісьці,***
***навошта было называць дарагім?..***
***Шэпча арэшніку тонкае лісце***
***пра тайнае нешта... у леце другім.***

***Выблісне ўся ў незабудках лагчына,***
***і бераг агучыць усплескам ракá,***
***гляджу на акно, там смяецца жанчына,***
***бы на карціне Селешчука.***

***Узнесены к небу будынак на кручы,***
***жаласна-жаласна скрыпка гучыць...***
***Хай плача, бо, можа,***
***жанчыну навучыць,***
***як тут небяспечна смяяцца ўначы.***

Не ведаю, чытаў гэты верш Коля ці не, бачыў гэтую маю кніжку ці не бачыў... На той час, калі яна выйшла, я жыла на Паўднёвым Захадзе, далёка ад цэнтра, займалася сям'ёй, бытам, гадавала маленькую дачку Лену і вельмі рэдка выходзіла, што называецца, "у свет"... Той "сад" год за годам страсаў свае пялёсткі. І вось з Італіі прыляцела нечаканая чутка, у якую немагчыма было паверыць. Тым жа вечарам пазваніў Міша Пташук: "Ведаеш, недзе напрыканцы красавіка мы выпадкова сустрэліся з Селешчуком. "Вы — Міша Пташук, — сказаў ён. — Мне пра вас вельмі многа расказвала Рая Баравікова, вельмі шкада, што не пазнаёміліся раней". І мы пешшу прайшлі з ім ледзь не ўвесь праспект Скарыны..." Талент шукае таленту. У наступным, ужо такім блізкім стагоддзі, Колю на поўны голас будуць называць Вялікім мастаком, як называюць Гою, Пірасмані, Эль Грэка... У нашым жа сённяшнім жыцці нехта пакуль невядомы — з такой жа мяккай зычлівай усмешкай будзе шукаць яго жывога...і не знойдзе. Ён у тым Садзе, адкуль не ляцяць матылькі на агеньчык... "І плакаць хочацца наўзрыд аб нечым тайным, немагчымым"...

### ЗГАДКІ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

1972 год. Масква, Літаратурны інстытут, — гэта ўжо далёкі ўспамін. Лёгенька ўзбягаю на прыступку і вось ён... мой "ЛіМ" ажно на цэлых пяць гадоў да 1977-га. Сучасныя гісторыкі тыя гады назвалі "глыбокім застоем". Але я не гісторык, для мяне добра зразумела адно: у тых гадах засталася мая літаратурная маладосць, самая-самая ранняя... Помніцца першыя лімаўскія слёзы, калі нехта не схацеў саступіць старэнькую пішучую машынку, каб аддрукаваць штосьці тэрміновае. На той жа машынцы, дачакаўшыся, калі ўсе лімаўцы пойдуць дамоў, як у падполлі, друкавала вершы, якія потым пасылала ў рэдакцыю "Маладосці" пад псеўданімам Зося Гоман (гэта стала вясёлым літаратурным анекдотам), у "ЛіМе" перажыла свой першы літаратурны поспех, калі Алесь Харытонавіч Асіпенка надрукаваў цэлую паласу маіх вершаў з такімі "дзёрзкімі" па тых часах радкамі:

***Ля крыніцы***
***бруістае вяне,***
***абранёны***
***на шчасце вянок,***
***тут калісь***
***паляналі славяне***
***на чужых***
***даўганогіх жанок...***

і мяне потым ашаламілі званкамі творчыя і не творчыя людзі...

У кожнага часу свой водар. У тым, лімаўскім, застаўся водар маіх досвітных фіялак, самых трапяткіх кветак... Адным словам, я па-ранейшаму люблю "ЛіМ" і прапаную да друку старонкі ўспамінаў з таго часу.

Валянцін АКУДОВІЧ

# Свет перад сусветам

## АДКРЫТАЕ ГРАМАДСТВА ЯК ПРАБЛЕМА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ

ЧАМУ БОЛЬШАСЦЬ беларусаў вельмі неахвотна ідэнтыфікуе сябе з нацыянальным культурным кодам ці нават увогуле адмаўляе магчымасць падобнай ідэнтыфікацыі? Мы ўсе ведаем адказ на гэтае пытанне, але фармулюем яго ў катэгорыях палітыкі, не зважаючы, што палітыка — усяго толькі адзін з мноства інструментаў, праз якія культура здзяйсняе сваю волю.

Культура — гэта найперш воля да ўлады культуры, а ўжо потым — усё астатняе. Уяўленне пра культуру, як пра нешта анёлападобнае — адносна яе рэальнай сутнасці, — не больш праўдзівае за дзіцячае ўяўленне пра дабрыню мядзведзя, якое склалася з уражанняў ад дзіцячых казак і малюнкаў да іх.

Мілажальнасць культуры — гэта казка для дарослых. Культуры больш агрэсіўныя, чым іх носьбіты — народы (гэта аднолькава пасуе і для беларускай культуры). Калі ў войнах паміж народамі хоць зрэдчас здараюцца перапынкі, то ў войнах культураў перапынкаў не бывае. І таму ў войнах культураў — культураў загінула болей, чым загінула народа ў збройных войнах народаў.

Не заўсёды і зусім неабавязкова чужая культура прыносіцца на штыках і штыкамі ўсталёўваецца. Да прыкладу руская культура з уласнай волі да панавання знішчыла іншых культураў нашмат болей, чым усе войскі Рускай імперыі знішчылі іншых войскаў. (У Расіі сталася амаль ідэаматычным выказванне: на прасторах нашай краіны жыве больш за сто народаў і народнасцяў. Не будзем звяртаць увагі на тое, што дакладную колькасць народаў і народнасцяў ніхто і ніколі ў Расіі нават не збіраўся лічыць. Звернем толькі ўвагу на тое, што для гэтых "больш за сто народаў і народнасцяў" дамінуючай, а пераважна і адзінай культурай з'яўляецца руская).

Дык вось, калі мы вернемся да пытання, чаму сёння большасць беларусаў не ідэнтыфікуе сябе з беларускай культурай, то адказ будзе наступным: таму што ўжо безліч гадоў ні на хвіліну не спыняецца вайна рускай культуры з беларускай, у выніку якой апошняя апынулася амаль усцяж пераможанай. І, бадай, найтрагічным у гэтай паразе была параза беларускай мовы.

Мова — той азонавы слой, які дазваляе больш-менш устойліва функцыянаваць, развівацца і нарошчваць свой патэнцыял усім астатнім чыннікам культуры нават у неспрыяльных для яе палітычных, эканамічных і сацыяльных умовах. Вядома, у гэтым азонавым слаі кожнай культуры сёння шмат дзірак, але ў нас ён знішчаны амаль зусім, ад яго засталіся адно лахманы, якія ўжо не засланяюць аголенасць нацыянальнай культуры як ад сцюдзёных вятроў культуры рускай, а таксама і ад касмічнага холаду метакультуры камунікатыўна адкрытага грамадства.

Уласна, толькі цяпер, згадаўшы пра "касмічны холад метакультуры", мы падыходзім да той праблемы, дзеля якой і самастараўся гэты тэкст. Сфармулюем праблему наступным чынам: камунікатыўна адкрытае грамадства існуе як рэальная пагроза незавершаным у сваім фармаванні нацыянальным культурам. Падкрэслім: не асобныя фрагменты функцыянавання грамадства камунікацый, а яно само, цалкам, як падзея сучаснай цывілізацыі. Гэта і ёсць актуальная драматычная праблема культуры.

Відавочна, што сёння за найвыразным сімвалам і атрыбутам камунікатыўна адкрытага грамадства выступае інтэрнэт. Але інтэрнэт — гэта пакуль толькі адна з найноўшых формаў змяншэння дыстанцыі паміж чалавекам і падзеяй быцця ва ўсіх верагоднамагчымых прасторах (улучна з віртуальнай). Распачыналася гэта з паравоза і чыгункі, а працягвалі сціскаць прастору — тэлеграф, аўтамабіль, тэлефон, самалёт, радыё, тэлевізар, кампутар і шмат што яшчэ.

Праз усё гэта разам узятае прастора перастала раз'ядноўваць суб'екта з аб'ектамі падзеяў быцця, яна зрабілася тым, што яднае іх, яна сама ператварылася ў суцэльны сродак камунікацыі, настолькі татальны, што нават таталітарныя і дыктатарскія палітычныя сістэмы ўжо не могуць засцерагчыся ад гэтай татальнасці шчыльна закрытымі межамі.

Адным словам, жадае таго грамадства ці не, але яно робіцца празрыстым для інфармацыйнага і ўвогуле камунікатыўнага нашэсця з усіх чатырох бакоў свету. Што з гэтага мае непасрэдна культура і як гэтая рашучая трансфармацыя зносін паміж суб'ектам і аб'ектам падзеі ўплывае на працэсы культурнай ідэнтыфікацыі? Папярэдзім адказ на гэтае пытанне яшчэ адным, на першы погляд, бадай, нават недарэчным запытам: чаму ў класічныя эпохі ангелец карыстаўся пераважна знакамі і атрыбутамі ангельскай культуры, паляк — польскай, француз — французскай і г. д. Натуральна, найперш таму, што яны свае, родныя, звыклыя, што менавіта яны выразнілі з чалавека ўвогуле — ангельца, француза, паляка і г. д. Але не ў меншай меры яшчэ і таму, што гэтыя знакі і атрыбуты культуры былі бліжэй да яго, побач, што за імі не трэба было некуды хадзіць, недзе іх адшукваць.

Камунікатыўна адкрытае грамадства кардынальна мяняе сітуацыю. Знакі і атрыбуты іншых культур апынаюцца ля чалавека гэтаксама блізка, як знакі і атрыбуты — уласнай. (На экране тэлевізара Мірскі замак, Эйфелева вежа і піраміда Хеопса знаходзяцца на адной адлегласці ад гледача). А гэта азначае, што знікае, ці становіцца амаль незаўважнай розніца паміж роднай і чужой культурамі. Бо што яшчэ, як не дыстанцыя, рабіла блізкую культуру роднай, а аддаленую — чужой? І калі з маленства, з першых цацак і тэлеперадач, з першых убораў і кампутарных гульняў, і



потым праз усё жыццё на адной адлегласці да чалавека будуць прысутнічаць знакі і атрыбуты розных культур, дзе родная будзе толькі адной з мноства, то з якой культурай (не фармальна, а па сутнасці) будзе ідэнтыфікаваць сябе такі чалавек і якая культура зможа зідэнтыфікаваць сябе з гэтым цалкам постмадэрновым чалавекам?

Раней, у эпоху татальнай вайны культураў, схема прылучэння чалавека да той ці іншай культуры была гранічна простай. Культура-пераможца самаўладна далучала носьбітаў пераможанай да свайго ідэалагемнага поля, і праз нейкі час апошнія пачыналі ідэнтыфікаваць сябе менавіта з ёй. Аднак у прынцыпе гэта нічога не змяніла, адна культура станавілася на месца другой — і толькі. І нават калі перамога была няпоўнай (ці няпоўнай была параза), заўсёды адна з дзвюх ці некалькіх культур заставалася дамінуючай і была рэальнай, а не фармальнай падставай для культурнай ідэнтыфікацыі.

Кардынальна адрозная сітуацыя пачынае складвацца цяпер, калі анулюецца дыстанцыя паміж роднай і іншымі культурамі. На жаль, многія ўсё яшчэ працягваюць праецыраваць традыцыйную схему з лінейнай сітуацыі вайны культураў на нелінейную сітуацыю камунікатыўна адкрытага грамадства, і адпаведна той, ужо выпрацаванай і зусім неэфектыўнай у новых варунках схеме, спрабуюць абараняць свае культуры. Да прыкладу, у 1994 годзе міністр культуры Францыі абвясціў, што з-за інтэрнэту Францыя апынулася перад пагрозай новай формы каланіялізму. З таго ж шэрагу і бясконцыя скаргі на амерыканізацыю культуры, якія няспынна гучаць не толькі ў Еўропе, але і ва ўсім свеце, на французскую інтэлектуальную экспансію, урэшце, на светапоглядную інтэрвенцыю Усходу.

Мы ўсё яшчэ пераважна мыслім катэгорыямі эпохі вайны культураў. І не жадаем заўважаць, што ў прасторы камунікатыўна адкрытага грамадства гэтая вайна заканчваецца татальнай паразай самой вайны. Але з гэтай нагоды я не спяшаўся б пляскаць у ладкі, бо вайна культураў была тым механізмам, які забяспечваў функцыянаванне асобных культураў. А без гэтага механізма рана ці позна ўсе культуры будуць пераможаныя нечым, што мы ўмоўна назывем метакультурай: тым, што будзе мець усе прыкметы культуры, але не будзе ідэнтыфікавацца ні з якой культурай канкрэтна, ні, у традыцыйным разуменні, з культурай увогуле.

Асноўная характарыстыка традыцыйнага культурнага знака палягае на яго трывалай зафіксаванасці ў кантэксце нацыянальнай ці сусветнай культуры. У адрозненне ад традыцыйных знакаў культуры, знакі метакультуры пазбаўленыя трывалай фіксацыі і нечым апрычонага кантэксту (хаця кожны з іх мае свой "адрас" і свой "атэстат"), бо ў сітуацыі камунікатыўна адкрытага грамадства ўсе культурныя прасторы, праз разгалінаваныя і эфектыўныя камунікатыўныя сродкі, сыходзяцца ў адзін кантынуум. І разам з культурнымі прасторамі ў гэтую яміну кантынуума скочваюцца ўсе знакі ўсіх культураў, ды яшчэ з такой хуткасцю, што іх цяжка адрасна разрозніваць, зрэшты і няма ў гэтым сэнсу, бо пакуль будзеш кадыфікаваць адзін з іх, яго засланяць дзесяткі іншых.

Хуткасць культурных экспансій, калейдаскалічная множнасць і рознавектарнасць іх тэндэнцый анігілююць агрэсіўную сутнасць самой культурнай экспансіі. Да таго ж электронныя сродкі інфармацыі, якія становяцца дамінуючымі ў транспартацыі знакаў культуры, падчас працэс транспартацыі кастрыруюць культурны знак (такая іх тэхналагічная прырода), гэта значыць вымыкаюць з яго ідэнтыфікат (такая іх сацыяльная задача), бо толькі пазбавіўшы ідэнтыфіката, можна прыстасаваць культурны знак да патрэбаў масавага спажыўца. Таму мне падаюцца няўзважанымі турботы тых, хто непакоіцца, што ўладальнікі асноўных камунікатыўных сродкаў (і ў прыватнасці — інтэрнэту), стануць праз сваю ўладу экспансіраваць знакі таго ці іншага культурнага коду і такім чынам сфармуюць культурную імперыю, якая праглыне ўсе іншыя культуры. Зрэшты, калі б падобнае і здарылася, то з гледзішча нашых традыцыйных каштоўнасцяў, гэта было б яшчэ не найвялікшай бядой, бо тады мы мелі б хоць адну — вартую нашых традыцыйных уяўленняў — культуру. Сапраўдная бяда (для тых, хто лічыць культуру за каштоўнасць) у тым, што праз нейкі час (і гэта зусім верагодна) мы не будзем мець ніякай культуры — н і я к а й у яе традыцыйным разуменні, а будзем мець культуру без культуры, культуру, якую будзе немагчыма ідэнтыфікаваць нават адносна самой сябе.

Зрэшты, калі наканавана такому здарыцца, то тут, як кажуць, і казаць няма пра што. Культура перастане быць культурай, і ідэнтыфікаваць сябе чалавек (і супольнасць) будзе не з нацыянальнай культурай ці культурай пэўнага рэгіёна, а з нечым зусім іншым. Аднак, магчыма, на што і сам спадзяюся, гэтыя мае футуралагічныя трызненні, блізкія да рэфлексій усіх інтэлектуалаў, выступаюць толькі адной з мноства тэзаў рэальнасці постіндустрыяльнага грамадства. Развагі мае можна ўявіць штучнай універсалізацыяй патэнцыйна лакальнай падзеі, первентыўным перапалохам ад зруху ў прасторы, якая раптам бязмежна расхінулася ва ўсе бакі ад нечаканага выбуху камунікацый. Паспрабуем пагадзіцца, што гэта насамрэч так і ёсць і сітуацыя камунікатыўна адкрытага грамадства кардынальна не зменіць адвечнай сутнасці чалавека, які і надалей будзе шукаць і знаходзіць свае асновапалеглыя праекцыі ў нацыянальным культурным кодзе. Але якраз у гэтым выпадку мы і маем драматычную праблему, дзеля актуалізацыі якой прапануецца гэты тэкст. Бо нават калі мы бязмежна перабольшваем тую радыкальную навізну культурнай сітуацыі, якую нясе з сабой камунікатыўна адкрытае грамадства, то ўсё роўна не зможам зусім адмаўляць, што многія тут згаданыя працэсы (натуральна, невымерна болей іх засталося за кантэкстам гаворкі) маюць месца ўжо цяпер і, відавочна, будуць інтэнсіўна разгортвацца ў самай недалёкай будучыні. А гэта азначае, што да звыклай вайны культураў дадаецца яшчэ адзін актыўны і пагрозлівы для кожнай культуры дзейнік — татальная камунікацыя. Яна небяспечная для ўсіх культураў, але гэта небяспека не для ўсіх аднолькавая. Для тых культураў (напрыклад, італьянскай, нямецкай), якія даўно і цалкам сфармаваліся, трывала ўгрунтаваліся ў сацыяльныя інстытуты, індывідуальную ментальнасць, штодзённы побыт — гэта толькі магчымая небяспека, пакуль больш гіпатэтычная, чым рэальная. А вось для тых культураў (найперш маю на ўвазе беларускую), працэс фармавання якіх яшчэ не завершаны, у якіх ледзьве хапае сілаў трымаць апошнія рубяжы абароны ў вайне з больш магутнымі культурамі, гэты нечаканы вораг за спінай становіцца ўжо сёння рэальнай і звышнебяспечнай пагрозай.

На вялікі жаль, у нас, на Беларусі, на гэтую небяспеку амаль не звяртаюць увагі, мы па-ранейшаму цалкам скіраваныя на вайну культураў (з аднаго боку, на вайну з рускай культурай, з другога — на вайну з культурай Захаду). Між тым, на маю думку, сітуацыя камунікатыўна адкрытага грамадства неўпрыкмет робіцца ці не найбольш драматычнай праблемай, якая ставіць пад пытанне саму магчымасць культурнай ідэнтыфікацыі. А значыць, і саму магчымасць традыцыйнай культуры ўвогуле.

### *З лімаўскага архіва У. КРУКА*



*У майстэрню Міхася Лынькова завітаў Максім Танк. Нарач, 1962 г.*

## Прэміі часопіса "Полымя"

Рэдакцыйная калегія старэйшага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса адзначыла лепшыя творы, апублікаваныя ў 1996 годзе. Лаўрэатамі "Полымя" сталі: у галіне прозы — Янка Брыль (цыкл лірычных запісаў "З людзьмі і сам насам", N 5), Алесь Жук (апавяданне "Партызан", N 9). У галіне паэзіі — Раман Тармола-Мірскі (вершы, N 3). Па раздзеле "Фальклор" прэмія прысуджана Міколу Даніловічу за матэрыял "Дару шчырым словам", апублікаваны ў 8-ым нумары. Уладзімір Конан атрымаў прэмію за артыкул "Паэтычны голас сумлення" (N 9) па раздзеле "Крытыка і літаратуразнаўства". Па раздзеле "Сярод кніг" адзначана Алена Васілевіч за рэцэнзію "Дзе прытулак душы тваёй...", змешчаную ў 6-ым нумары.

## Дабро памнажае... дабро

У выдавецтве "Універсітэцкае" выйшла кніга прозы Міхаіла Расолава "Дерево добра и зла". М. Расолаў — наш зямляк, нарадзіўся ў вёсцы Ціхінічы Рагачоўскага раёна. Пасля заканчэння юрыдычнага факультэта Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя М. В. Ламаносава служыў афіцэрам, працаваў у партыйных органах. Цяпер працуе намеснікам старшыні Дзяржаўнага вышэйшага атэстацыйнага камітэта Расійскай Федэрацыі. Шырокую вядомасць М. Расолаву прынеслі кнігі "Не убий", "Трудное перепутье".

Асобныя моманты біяграфіі пісьменніка, яго сувязь з беларускай зямлёй згадваліся ў час прэзентацыі новай кнігі М. Расолава, якая прайшла ў сталічным Доме прэсы. Значнасць таленту М. Расолава адзначылі першы намеснік старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь З. Прыгодзіч, дырэктар выдавецтва "Універсітэцкае" У. Касько, які, дарэчы, унёс прапанову правесці чарговую прэзентацыю і ў Ціхініцкай школе.

Хутчэй за ўсё яна ў бліжэйшы час і адбудзецца, бо М. Расолаў пра землякоў не забывае. У прыватнасці, ён перадаў у Рагачоўскі краязнаўчы музей і школу, якую закончыў, каля 300 карцін беларускіх мастакоў. А выступаючы на прэзентацыі, зазначыў, што грошы ад продажу 2 тысяч экземпляраў новай сваёй кнігі (увесь наклад пяць тысяч адпаведнікаў) ён перадасць роднай школе на набыццё лінгафоннага кабінета, а 1000 экземпляраў выкупіць сам, каб падарыць іх іншым школьным бібліятэкам.

Сапраўды ўжо: адно дабро (з увагай і павагай да М. Расолава паставіліся менавіта на роднай яму Беларусі) памнажае дабро.

## Навагодняя "Пралеска"

Яна, праўда, крыху запазнілася, але ад гэтага сустрэча з часопісам не будзе азмрочана. Як і заўсёды, у 12 нумары "Пралескі" шмат матэрыялаў, якія можна з поспехам выкарыстаць у дашкольным выхаванні. Галоўны рэдактар А. Сачанка выступае з артыкулам "Падарожжа ў "вялікія людзі". На другой старонцы вокладкі змешчаны верш Н. Гілевіча "Новы год". Прапануецца дзіцячы мюзікл "Сустракаем Новы год" (вершы А. Канапелькі, музыка Г. Казловай). Пад рубрыкай "Творчасць нашых чытачоў" апублікаваны вершы В. Шалаева, Т. Шафарэнкі, А. Шуляк, А. Канапелькі. Вінцук Каваленка ("Распеўнасць душы") разважае пра творчасць З. Бядулі.

## "Юнацтва" ў школьнікаў

Чарговую сустрэчу правяло ў Мінскай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя М. Астроўскага выдавецтва "Юнацтва". Гэтым разам тут адбылася прэзентацыя новай кнігі народнага пісьменніка Беларусі "Вялікая княгіня" Івана Шамякіна з удзелам аўтара. Івана Пятровіча прадставіў дырэктар "Юнацтва", пісьменнік Валянцін Лукша. Перад прысутнымі выступілі таксама рэдактар кнігі Уладзімір Марук, мастак Кастусь Ракіцкі, які афармляў яе, і сам віноўнік урачыстасці.

ПАЛІТАЛОГІЯ

# Дэмакратычная Расія і беларускія дэмакраты

У дзяржаўным і грамадскім ладзе краін былога СССР цесна пераплецены прыкметы дэмакратыі і таталітарызму. Дэмакратыя звычайна характарызуецца тым, што яе прыхільнікі кіруюцца рацыянальнымі матывамі і імкнуцца да прагматычных мэт у сваёй дзейнасці. У той час, як таталітарызм звяртаецца да ірацыянальных абгрунтаванняў або імкнецца да раматычных мэт. Рамантыка больш блізкая і зразумелая "шырокім масам", рамантычныя формулы і лозунгі больш прываблівыя, чым сухія фармулёўкі інтарэсаў, мэт, сродкаў і рэсурсаў. Гэта адрозненне паміж дэмакратамі і пераемнікамі савецкага падыходу яскрава праяўляецца ў адносінах паміж краінамі. Калі ў дэмакратычных краін няма пастаянных сяброў і ворагаў, а ёсць пастаянныя інтарэсы, то ў любога таталітарнага рэжыму заўсёды ёсць "сябры на вякі" і "заклятыя ворагі".

У адносінах Беларусі і Расіі гэта адрозненне праяўляецца найбольш наглядна. Для Масквы Беларусь толькі адна з краін, размешчаных у зоне пастаянных інтарэсаў Расіі, а для афіцыйнага Мінска Расія — гэта "старэйшы брат (сястра)", з якім "мы звязаны крэўнымі сувязямі", і г.д. Вядома, у такой чысціні гэтыя адносіны могуць быць вылучаны толькі ў аналітыцы, а рэальная палітычная практыка і дыпламатыя афармляюцца фразеалогіяй і таго, і другога тыпу. Не трэба забываць, што і сама дэмакратыя ў постсавецкай прасторы нарадзілася з рамантычнага парыву "перабудовы" ў нетрах таталітарнага грамадства і свядомасці. Вылучэнне двух тыпаў адносін выступае інструментам аналізу, а для беларускіх дэмакратаў такое разуменне неабходна, каб пазбавіцца рамантычных рудыментаў ва ўласнай дзейнасці.

Кароткая гісторыя адносін суверэнных Беларусі і Расіі паказвае, што толькі адной-чы гэтыя дзве дзяржавы заключылі раўнапраўную партнёрскую здзелку — гэта адбылося ў 1991 годзе ў Белавежскай пушчы. Ва ўсіх астатніх выпадках Расія імкнулася да сваіх інтарэсаў, а Беларусь кіравалася "братнімі пачуццямі". Будзе наіўным з боку беларускіх дэмакратаў думаць, што Расія захоча змяніць традыцыю двухбаковых адносін, якая складваецца. Вядома, для захавання такіх адносін Расіі больш выгадна мець справу з беларускім бокам у асобе ірацыянальнага кіраўніцтва дзяржавы, а не прагматычных лідэраў ліберальнай апазіцыі. Прычыны, па якіх дэмакратычная Расія не падтрымае беларускіх дэмакратаў, досыць простыя.

### ПРАГМАТЫЧНЫЯ ПРЫЧЫНЫ

Дэмакраты не толькі называюць сябе прагматыкамі — яны, як правіла, імі з'яўляюцца. Такія расійскія дэмакраты і такія ж, на іх думку, беларускія дэмакраты (якія беларускія дэмакраты на самай справе, мы пакуль абмяркоўваць не будзем). Здавалася б, што можа быць лепш за прагматызм? Але ёсць адна няўвязка. Карысць заўсёды адносная. Гэта значыць, што нешта заўсёды карысна для некага — не бывае абсалютнай карыснасці. Альбо, як гаварыў персанаж з твора вялікага рускага пісьменніка Ляскова, "что русскому здорово, то немцу смерть". А ў нашым выпадку, тое, што карысна Беларусі, можа быць шкодна для Расіі.

Расійскія дэмакраты — прагматыкі і эгаісты. Гэта не лаянка. Гэта проста азначае, што ўсё, што адбываецца ў свеце, яны суадносяць з карысцю для сябе, г.зн. у палітычных і макраэканамічных адносінах — для Расіі. Ці карысныя для Расіі беларускія дэмакраты? Або дакладней, што могуць думаць расійскія дэмакраты пра карысць для Расіі дэмакратычнай Беларусі?

Расійскія дэмакраты выходзяць з таго, што беларускія дэмакраты ў той жа меры клапоцяцца аб карысці і дабрабыце для Беларусі, як яны самі — аб карысці і дабрабыце Расіі, а таксама, што яны могуць дамагацца карысці для сваёй краіны з той жа эфектыўнасцю. Калі так, то Расія атрымлівае ў асобе дэмакратычнай Беларусі канкурэнта ў некаторых галінах. А які ж прагматык будзе ўзмацняць канкурэнта? Наадварот, неабходна імкнуцца да таго, каб паслабіць канкурэнта — г.зн. падтрымліваць на Беларусі не прагматыкаў ва ўладзе, а іншыя палітычныя сілы.

Пазначым асноўныя лініі канкурэнцыі Беларусі і Расіі.

**1. Канкурэнцыя за заходнія інвестыцыі ў гаспадарку.** Машынабудаўнічы, ваенна-прамысловы комплексы, лёгкая прамысловасць, дрэваапрацоўка, хімія, радыёэлектроніка, оптыка і многія іншыя галіны гаспадаркі Расіі і Беларусі ў 1991 годзе былі прыкладна на аднолькавым узроўні развіцця. Яны аднолькава адчувалі патрэбу ў інвестыцыях, у мадэрнізацыі, у асваенні новых рынкаў. Калі Беларусь была б палітычна стабільнай, мела ўстойлівую грашовую сістэму, заканадаўча гарантавала інвестыцыі, то яе прадпрыемствы мелі б значныя перавагі для інвестараў у параўнанні з расійскімі. Таму, відавочна, напрошваюцца прагматычныя дзеянні з боку расійскай дыпламатыі не дапусціць гэтага. Пра тое, у чым выяўляліся гэтыя дзеянні, — крыху пазней.

**2. Канкурэнцыя за ўнутраныя ўзаемныя інвестыцыі.** Агульнасць мовы, падобная ментальнасць, шматлікія сваяцкія і сямейныя сувязі, геаграфічная блізкасць, агульныя рынкі збыту і знаёмыя ўмовы дзейнасці — усё гэта спрыяе лёгкаму перамяшчэнню капіталаў паміж Расіяй і Беларуссю. Уявім сабе, што дэмакратычны рынкавы ўрад Беларусі ставарае ў краіне крыху больш спрыяльныя ўмовы для прадпрымальніцтва

# "Шэрая паласа" няпэўнасці

### БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКІЯ АДНОСІНЫ

Паўнакроўны беларуска-польскі міждзяржаўны дыялог быў пачаты пасля падпісання 23 чэрвеня 1992 года Дагавора аб добрасуседстве і дружалюбным супрацоўніцтве паміж Рэспублікай Беларусь і Польшчай. Дагавор стаўся імпульсам для пашырэння двухбаковага палітычнага супрацоўніцтва, у практыку беларуска-польскіх адносін уваходзіў рэгулярны абмен думкамі па шырокім коле пытанняў — ад праблем міжнароднай палітыкі да розных аспектаў двухбаковага супрацоўніцтва. Толькі на працягу года пасля падпісання дагавора адбылося пяць афіцыйных візітаў прадстаўнікоў бакоў у Мінск і Варшаву, у тым ліку візіт на Беларусь польскага прэзідэнта Л. Валенсы ў чэрвені 1993 года. Кіраўнікі знешнепалітычных ведамстваў абедзвюх дзяржаў пачалі рэгулярна сустракацца на розных міжнародных форумах.

У цэлым у польскім грамадстве тады яўна пераважаў дружалюбны і канструктыўны падыход да маладой краіны, мелася разуменне складанасцей яе сацыяльна-эканамічнага развіцця: намаганняў па паступовым набыцці рэальнага суверэнітэту. Добра сказваўся той факт, што Беларусь з'яўляецца практычна адзінай суседняй дзяржавай, насельніцтва якой не праяўляе ніякіх антыпольскіх настрояў і са свайго мінулага не захавала негатыўнага стаўлення да Польшчы і палякаў ні на палітычным, ні на бытавым узроўні.

На пачатковым этапе развіцця беларуска-польскіх адносін — прыкладна да восені 1993 года — беларускае кіраўніцтва падкрэслівала, што паглыбленне ўсебаковых добрасуседскіх адносін з Польшчай адпавядае доўгатэрміновым дзяржаўным інтарэсам Беларусі. Прапрацоўваліся варыянты магчымага садзеяння Польшчы ў руху маладой беларускай дзяржавы да Еўропы, якая аб'ядноўваецца. Дэкларуваўся інтарэс Беларусі да адкрытасці і супрацоўніцтва з рознымі краінамі, не толькі з Расіяй.

У той час праблема вызначэння пазіцый Беларусі і Польшчы адносна НАТА практычна адсутнічала. Планы Польшчы стаць членам НАТА існавалі тады на ўзроўні намераў, хоць ужо ў 1992 годзе ў абарончую дактрыну Польшчы быў уключаны пункт аб імкненні да паўнапраўнага членства ў Паўночнаатлантычным альянсе. Кіраўніцтва Польшчы правяло зандаж пазіцыі расійскага кіраўніцтва толькі ў ходзе афіцыйнага візіту прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Б. Ельцына ў Варшаву ў жніўні 1993 года. Прэзідэнту Л. Валенсу ўдалося дабіцца ад расійскага калегі "жалезнага" прызнання права Польшчы далучыцца да НАТА, што было нават зафіксавана ў адпаведнай дэкларацыі, падпісанай прэзідэнтамі 25 жніўня 1993 года. Пасля гэтага польскаму кіраўніцтву ўяўляліся ўжо лішнімі якія-небудзь кансультацыі з непасрэднымі суседзямі на ўсходзе — Беларуссю і Украінай.

Былі вызначаны чатыры прыярытэты знешняй палітыкі Польшчы, першы з якіх прадпісваў умацаванне ўзаемааднosін з Захадам з наступным уступленнем краіны ў НАТА.

Толькі трэці прыярытэт уключаў ажыўленне адносін з усходнімі суседзямі на двухбаковай і рэгіянальнай аснове. Першай прыкметай такога ажыўлення стаў накіраваны ў лістападзе 1993 года ў МЗС Беларусі запыт аб пазіцыі беларускага боку ў адносінах планаў Польшчы ўступіць у Паўночнаатлантычны альянс. Падобны запыт атрымала і Украіна. Адказ абедзвюх краін, не будучы ўзгодненым, зводзіўся да стрымана-негатыўнай рэакцыі. У прыватнасці, беларускі бок пацвярджаў права Польшчы на ўступленне ў саюз дзеля ўмацавання ўласнай і еўрапейскай бяспекі і адначасова выказваў непрыманне ў адносінах магчымага набліжэння ваеннага блока НАТА да сваёй усходняй мяжы. Гэта абгрунтоўвалася тым, што Беларусь, якая прыняла знешнепалітычны курс на нейтралітэт, жадае мець суседзяў з пазаблокавымі дактрынамі.

Адмоўная рэакцыя Беларусі і Украіны на прыгаданы запыт была скарыстана праварадыкальнымі сіламі ў Польшчы для нагнятання пачуцця небяспекі з усходу і раствумачана як праяўленне несамастойнасці знешняй палітыкі Беларусі і Украіны, дзе Масква, "падаўляючы" іх незалежнасць, рыхтуецца да аднаўлення ўласнага ўплыву на прасторы былога "сацыялістычнага лагера". Ці варта сумнявацца, што былі іншыя прычыны для хваляванняў польскіх палітыкаў. Развеяліся іх спадзяванні ўзвесці з дапамогай Беларусі і Украіны своеасаблівы буфер, які аддзяляе Польшчу ад "імперскай і непрадказальнай" Расіі. Знешнепалітычнае ведамства Польшчы не магло прызнаць гэта адкрыта. Вось чаму так негатыўна і з такім вострым расчараваннем у Польшчы пачалі ацэньваць геапалітычнае становішча Беларусі скрозь прызму яе хуткага аб'яднання з Расіяй.

У кантактах з прадстаўнікамі Беларусі на дзяржаўным узроўні палякі па-ранейшаму паводзілі сябе ўважліва і карэктна, не дапускаючы неабгрунтаваных абвастрэнняў. Але імідж беларускай дзяржавы сярод значнай часткі польскага насельніцтва стаў выглядаць не лепшым чынам. Многія ўплывовыя польскія дзеячы ў нефармальных кантактах заяўлялі аб успрыманні суверэнітэту Беларусі ў катэгорыях умоўнасці, падкрэслівалі адсутнасць яе ўласнага знешнепалітычнага аблічча. Акрамя таго, яны негатыўна ацэньвалі ход рэалізацыі эканамічных рыначных рэформ.

Характэрна, што ў той жа час палітычная тэматыка для сустрэч кіраўнікоў розных узроўняў Беларусі і Польшчы пачала фармулявацца блякла. Абмеркаванне палітычных пытанняў набывала другараднае значэнне і нават выклікала ў бакоў няёмкасць і збянтэжанасць. У беларускай пазіцыі пачалі пераважаць матывы "Польшча — памост Беларусі на Захад", замяняючы сабой непасрэдныя падыходы да двухбаковых сувязяў Мінска і Варшавы. Двухбаковыя палітычныя кантакты звузіліся да рамак рабочых сустрэч. Афіцыйныя візіты сталі рэдкімі.

Польскае кіраўніцтва знаходзілася ў насцярожанасці, чакаючы ад Беларусі дзеянняў у адпаведнасці з абвешчаным курсам на

і гаспадарчай дзейнасці, аблегчанае падаткаабкладанне. Беларусь у гэтым выпадку робіцца своеасаблівай афшорнай зонай для расійскага капіталу. Расійскія фірмы адкрываліся б на Беларусі, тут канцэнтраваліся б расійскія капіталы. Беларусь бліжэй, чым Швейцарыя, і зручней, чым Латвія. Ці можна дапусціць такое становішча спраў пры прагматычным падыходзе? Пытанне, вядома, рытарычнае.

Цяпер справы абстаяць для Расіі найлепшым чынам. Беларускія фірмы аддаюць перавагу рабоце ў Расіі, падаткі таксама выгадней плаціць Расіі, грошы выгадней захоўваць у трэціх краінах, але калі выбар стаіць паміж Расіяй і Беларуссю, то выбіраецца Расія.

**3. Канкурэнцыя за мытную ініцыятыву і знешні гандаль.** Расія пазбавілася сухапутнай мяжы з Еўропай. Калі б дэмакратычная прагматычная Беларусь устанавіла свае правілы транзіту, гандлю і мытныя нормы, то Расіі давялося б гуляць па гэтых правілах з вялікай карысцю для Беларусі.

А цяпер давайце згуляем у маленькую дзелавую гульню за расійскага партнёра. Рашым некалькі задачак.

1. Нафтапрадукты з'яўляюцца асноўным стратэгічным і палітычным таварам для кантролю за краінамі-сатэлітамі, якія ўтварыліся з былых саюзных рэспублік. Не было б Мажэйкяйскага нафтаперапрацоўчага завода ў Літве, паліўная блакада Прыбалтыкі зусім удалася б. Як Расія павінна паводзіць сябе ў адносінах да Наваполацкага і Мазырскага нафтаперапрацоўчых заводаў? Натуральна, не дапускаць, каб гэтыя заводы сталі ўласнасцю Беларусі. Дэмакратычныя ўлады Беларусі будуць таргавацца, выкарыстоўваючы гэтыя заводы і трубаправоды, як казырную карту. Значыць, трэба атрымаць усё гэта ў сваю ўласнасць і пазбавіць беларусаў такога козыра, а яшчэ лепш не дапускаць да ўлады тых, хто гэтую карту здольны разыграць. Гэта задача Расіяй ужо вырашана, таму не будзем на ёй доўга затрымлівацца. Гісторыю барацьбы за Наваполацкі і Мазырскі заводы можна ўвесці ў праграму курсаў пачатковай падрыхтоўкі для беларускіх палітыкаў. Досыць павучальна.

2. Тормазам на шляху заходніх інвестыцый на Беларусь і ў Расію з'яўляецца недасканаласць банкаўскай сістэмы, нестабільнасць валюты і прымітыўнасць грашовага абароту. Хто першы наладзіць грашовы абарот, той атрымае вялікую перавагу перад канкурэнтам. Беларусь — маленькая краіна, ёй прасцей вырашыць гэту праблему. Значыць, трэба не дапусціць гэтага. Як? Вельмі проста. Трэба паабяцаць аб'яднанне грашовых сістэм дзвюх краін, расцягнуць працэс на некалькі гадоў. Няхай беларусы спадзяюцца, а мы за гэты час прывядзём у парадак сваю грашовую сістэму. Пры гэтым мы, расійскі бок, дакладна павінны ведаць, што аб'яднання грашовых сістэм не будзе, паколькі:

— у Расіі няма на гэта свабодных рэсурсаў;

— калі грашовая сістэма будзе адзінай і аднолькавай, то па гэтым фактары прывабнасці для інвестараў Расія і Беларусь стануць роўныя, а значыць, Беларусь апынецца ў выйгрышы, паколькі ў яе ёсць іншыя моцныя бакі;

— аб'яднанне зробіць грашовую сістэму Расіі ўразлівай і горш рэгулюемай за кошт з'яўлення яшчэ аднаго цэнтра рэгулявання.

Таму няхай Беларусь чакае аб'яднання, нічога не прадпрымаючы сама, тады яе банкаўская сістэма састарэе канчаткова, і мы будзем поўнымі гаспадарамі ў фінансавай сферы краіны-канкурэнта.

Ведаючы ўсё гэта, трэба весці з беларусамі перамовы аб аб'яднанні грашовых сістэм (нейкая доля цынізму не супярэчыць прагматызму: у канкурэнтнай барацьбе за эканамічнае выжыванне ўсе сродкі добрыя).

3. Расійскае аўтамабілебудаванне знаходзіцца ва ўпадку, як і іншыя галіны, а аўтамабільны рынак велізарны. Прыток іншамарак у краіну вельмі ўскладняе справу. Пратэкцыянізм і мытныя бар'еры малаэфектыўныя, рынак патрыманых (ды і новых) аўтамабіляў ужо часткова кантралюецца з Беларусі. Што рабіць? Неабходна прымусіць Беларусь увесці расійскія мытныя абмежаванні на сваёй заходняй мяжы. З мэтай "паглыблення інтэграцыі" навязваем Беларусі "адзіную мытную прастору". Няхай яна так называецца, а мы будзем ведаць, што гэта проста пашырэнне расійскай мытнай прасторы і выключэнне Беларусі як канкурэнта на аўтамабільным рынку.

4. Вытворчая база Беларусі дазваляе пры адносна невялікіх інвестыцыях разгарнуць вытворчасць аўтамабіляў, рынкам збыту для якіх будзе Расія. Калі вытворчая база будзе недзяржаўнай, ніхто не зможа перашкодзіць развіццю канкурэнта. Таму трэба затармазіць раздзяржаўленне беларускіх прадпрыемстваў. Як? Адзіны сродак — падтрымліваць той рэжым, які не будзе праводзіць рэформы на Беларусі. Ну і паралельна перахопліваць інвестыцыйныя праекты.

5. Беларускі ваенна-прамысловы комплекс дастаткова спецыялізаваны і унікальны. Яго прысутнасць на сусветным рынку ўзбраенняў падрывае расійскую манаполію на некаторыя віды ваенна-тэхнічных сістэм. Неабходна захаваць беларускі ВПК у якасці дапаможнай вытворчасці для расійскіх прадпрыемстваў. З дэмакратамі гэты нумар не пройдзе. Выбар відавочны.

Ужо прагматычных прычын дастаткова, каб расійскія дэмакраты пры падабенстве палітычных поглядаў і светапоглядаў аддавалі перавагу на Беларусі не дэмакратам.

У пачатку XX стагоддзя ў Амерыцы была сфармулявана дактрына Манро. У афарыстычным выглядзе яе сутнасць фармулявалася так: "Амерыка — для амерыканцаў". Уголас мелася на ўвазе, што амерыканцы — гэта толькі грамадзяне ЗША. У Расіі няма аналагічнай дактрыны ў яўным выглядзе, але рэалізуецца менавіта такая палітыка. Уся постсавецкая прастора — гэта сфера расійскіх інтарэсаў. Гранічным выказваннем такой дактрыны быў амерыканскі тэзіс: Самоса, канечне, "сукін сын", але гэта наш "сукін сын". Прагматызм і расійскі эгаізм прымiраюць маскоўскіх дэмакратаў з любым лідэрам у Мінску, калі ён не будзе прагматычным і эгаістычным на карысць Беларусі.

Можна дадаць, што сучасная расійская дыпламатыя яшчэ вельмі слабая, асабліва ў адносінах з краінамі былога СССР. У свой час аўтару давялося разбіраць для нам. міністра замежных спраў Расіі Чуркіна сітуацыю, якая склалася ў перагаворным працэсе з Латвіяй, калі расійскі бок прайграваў раунд за раундам. З таго часу расійскія дыпламаты многаму навучыліся, і таму Расія не можа дапусціць устанаўлення адносін з Беларуссю па ўзоры краін Балтыі. Але беларуская дыпламатыя яшчэ слабейшая, таму Расіі пакуль няма чаго баяцца і мяняць тактыку і стратэгію.

## РАМАНТЫЧНЫЯ ПРЫЧЫНЫ

Язык дадзены дыпламатам і палітыкам, каб хаваць свае думкі, а не разносіць іх. Ёсць такія думкі, якія і выказваць нязручна, і хаваць іх не хочацца, таму што трэба атрымаць зваротную сувязь. Тады на дапамогу прыходзяць тыя, хто не можа "трымаць язык за зубамі" або не разумее, што кажа. Сучасныя расійскія лідэры не спяшаюцца выцягваць на дзённае святло імперскія і вялікадзяржаўныя лозунгі. Але гэта не азначае, што Расія пазбавілася імперскіх памкненняў. Дык няхай гэтыя памкненні агучваюць з суседняй суверэннай краіны, як бы смешна ні выглядалі імперскія лозунгі панславізму ў вуснах кіраўнікоў такой маленькай краіны, як Беларусь.

Расійская дэмакратычная і прагматычная палітыка, з аднаго боку, і беларуская ірацыянальная і савецкая, з другога, часцяком ужываюць аднолькавую фразеалогію аб інтэграцыі, агульнай прасторы, дружбе братніх народаў і г.д. Расійскім уладам гэта неабходна для ідэалагічнага перахопу ініцыятывы ў нацыянал-патрыятычнай апазіцыі. Таму і даводзіцца ў суседняй краіне шукаць сяброў, пазіцыя якіх супадае з пазіцыяй апанентаў у краіне ўласнай. Дзяржаўная дума і ўрад Расіі робяць выгляд, што не заўважаюць розніцы паміж беларускім нацыяналізмам і вялікарускім. Некаторыя афіцыйныя асобы ў Маскве гатовы мінскіх дэмакратаў-лібералаў з Аб'яднанай грамадзянскай партыі залічыць у нацыяналісты, а ўсходнеславянскі расізм выдаць за агульнаеўрапейскую тэндэнцыю да інтэграцыі.

Не трэба папракаць Расію за ўсё гэта. Расійскія палітыкі любяць сваю краіну, шукаюць вырашэнні, карысныя для яе. Беларусь жа ў гэтым выпадку — адна з многіх краін, дзе Расія імкнецца забяспечыць свае інтарэсы.

**Уладзімір МАЦКЕВІЧ,**
**дырэктар Агенцтва Гуманітарных Тэхналогій**

*Матэрыялы для рубрыкі "Паліталогія" прадастаўлены галоўным рэдактарам часопіса "Беларусь в мире" А. Ягоравым.*




нейтралітэт і бяз'ядзернасць. Такія дзеянні пагражалі калі не абяззброіць, то паслабіць націск польскіх атлантыстаў. У гэтым плане паказальна, што польскі бок пастараўся маўчаць аб ратыфікацыі Беларуссю Дагавора СНВ-І і Лісабонскага пратакола да яго, а таксама аб рашэнні далучыцца да Дагавора аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі. Прэзідэнт Л. Валенса пазбягаў сустрэчы з беларускім прадстаўніком, які прасіў зрабіць інфармацыю аб указаных ініцыятывах сваёй краіны.

Пачуццё няёмкасці ў польскіх прадстаўнікоў выклікалі рашэнні Беларусі ў галіне ядзернага раззбраення. Кантрастуючы з натаўскімі памкненнямі, яны прымушалі польскіх палітыкаў пазбягаць прамой падтрымкі беларускага курсу і нейтралізаваць іх пазітыўны характар. У шэрагу пытанняў польскага боку — такіх, як "ці пойдзе Расія на самай справе на вывад войск з Беларусі", наколькі "беларускімі" з'яўляюцца ўзброеныя сілы Беларусі", "ці акажуць ЗША фінансавую дапамогу Беларусі ў справах раззбраення", угадвалася не столькі сумненне, колькі спадзяванне на адмоўны адказ.

Але на фоне беларуска-расійскага зблiжэння губляюць сэнс намаганні Варшавы не дапусціць крокаў, якія маглі б нейкім чынам падштурхнуць Беларусь у расійскія "абдымкі". У ацэнках дзеянняў Мінска робіцца акцэнт на патэнцыяльную схільнасць услед за мытнай прасторай перадаць Расіі свой знешнепалітычны голас і зрабіць прадметам "сумесных намаганняў" з Масквой кантроль над дзяржаўнай мяжой Беларусі. Адначасова сярод часткі правнарадыкальных польскіх палітыкаў з'яўляецца і іншы падыход. Яго сутнасць у тым, што эвалюцыя ў беларуска-расійскіх адносінах спрыяе прыняццю Польшчы ў НАТА, і, тым самым, такая эвалюцыя служыць польскім інтарэсам.

Польскія сродкі масавай інфармацыі актыўна абмяркоўваюць тэму фарсіраванага прыёму Польшчы ў НАТА. Адмоўнымі героямі на еўрапейскай палітычнай сцэне яны аб'яўляюць ужо не толькі Расію, а і Беларусь. Польшчы адводзяць ролю Папялушкі, якую добрая старая Еўропа не ратуе ад непрадказальна небяспечнай Расіі. Беларусі надаюць ролю вешчуна расійскіх намераў.

Цяперашні міністр замежных спраў Польшчы Д. Расаці ў вядомым сэнсе вяртае паняццю "добрасуседства" характар, уласцівы знешняй палітыцы краіны ў пачатку 90-х гадоў. Ён назваў роўныя адносіны з усімі суседзямі неабходным фактарам нацыянальнай бяспекі Польшчы. Адначасова міністр прызнаў, што адносіны з Расіяй і Беларуссю не адпавядаюць яго спадзяванням.

У гэтым кантэксце знойдзены элементы ўзаемаразумення паміж прэзідэнтамі Беларусі і Польшчы А. Лукашэнкам і А. Квасьнеўскім у час іх рабочай сустрэчы ў Віскулях 27 сакавіка 1996 года. Беларускі Прэзідэнт пераконваў свайго субяседніка ў згубнасці ўзятага Польшчай курсу на членства ў НАТА з патэнцыяльна магчымым размяшчэннем на яго тэрыторыі ядзернай зброі Альянса. Такі крок пагражае павярнуць назад толькі што завершаны вывад расійскіх ядзерных ракет з беларускай зямлі, адкінуць узяты Беларуссю курс на нейтралітэт. Ядзерныя ракеты НАТА на польскай тэрыторыі не створаць над ёй "ахоўны парасон". Наадварот, яны прывядуць да вяртання палітыкі процістаяння, разбураць існуючую ў Еўропе сістэму бяспекі.

На жаль, такія прыкрыя моманты ў беларуска-польскіх адносінах, як выдварэнне з тэрыторыі Беларусі лідэра "Салідарнасці" М. Кшаклеўскага, вострая рэакцыя ў Польшчы на характар праводзімых Прэзідэнтам А. Лукашэнкам пераўтварэнняў, пазней фактычна звялі на нуль дасягнутае ўзаемаразуменне. Польскі палітолаг А. Каміньскі мяркуе, што "адносіны з Беларуссю будуць пагаршацца, паколькі... дыктатарская ўлада А. Лукашэнкі для забеспячэння свайго існавання патрабуе ворага, а мы ў гэтай сітуацыі найбольш падыходзім на гэтую ролю... Мяжа паміж Польшчай і Беларуссю нечакана і насуперак нашым жаданням можа стаць воссю глыбокага падзелу і ачагом канфліктаў у гэтай частцы Еўропы".

Ацэньваючы трохгадовы вопыт адносін у галіне бяспекі, праводзімай як беларускім, так і польскім урадамі, можна сказаць, што для гэтых адносін характэрны недахоп дынамізму, паслядоўнасці і яснасці. Не ўвайшло ў практыку ўзгадненне пазіцый бакоў у гэтай галіне, не закладзены падмурак рашэння ўзнікаючых праблем бяспекі ў духу партнёрства, не створана мадэль супрацоўніцтва ў галіне будаўніцтва сродкаў даверу. Бакі не ўздымаюць праблему розніцы інтарэсаў Беларусі і Польшчы ў сваім рэгіёне. У знешнепалітычных дактрынах абедзвюх дзяржаў прысутнічае аднолькавая памылка. Яны ўтрымліваюць толькі па адным геастратэгічным інтарэсе: у Польшчы — да Захаду, у Беларусі — да Усходу. Логіка існавання падказвае неабходнасць мець і інтарэс да суседзяў з другога боку.

Як вынік такой аднабаковасці, кажучы пра наступствы для Беларусі і Польшчы магчымага пашырэння НАТА на ўсход, бакі слухаюць але не чуюць адзін аднаго. Пэўныя колы ў польскім грамадстве мысляць наіўнымі катэгорыямі тыпу "чым больш пагрозы для еўрапейскай бяспекі на ўсходзе кантынента, тым выгадней для Польшчы". Гэтак жа і пэўныя беларускія колы апасаюцца, што ўваходжанне Польшчы ў НАТА прывядзе да новага размежавання ў Еўропе і дасць Расіі стымул да новага паглынання Беларусі і Украіны.

Тым часам, мяжа Беларусі і Польшчы паступова перастае быць мяжой добрасуседства і даверу. Над Бугам — цень "жалезнай заслоны". На жаль, гэта нагадвае аднойчы ўжо пройдзены віток процістаяння.

**Мечыслаў ЧАСНОЎСКІ,**
**кандыдат гістарычных навук,**
**дарадца-пасланнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы ў 1993—1996 гг.**

*З лімаўскага архіва У. КРУКА*




*Так пачыналася дэмакратыя.*
*Станіслаў Шушкевіч у Курапатах. 1993 г.*

Тут Рай названы не толькі сваім уласным імем, але і дакладна намаляваны яго вобраз, выяўлены семантыка і сэнс, праўда, не татальны, а прыватны — на дваіх. Дарэчы, і Біблейскі Рай быў разлічаны толькі на Адама і Еву. Чалавецтва ж ужо было вынікам першароднага граху. Славянскае слова рай семантычна і фанетычна блізкае санскрыцкай аснове — авесційскага гау — шчасце, багацце, стараіндыйскага rayls — дар, валоданне. Яго лацінскае імя paradis, якое ўвайшло ва ўсе заходнееўрапейскія мовы, паходзіць ад персідскага pairi-daeza — адусюль адгароджанае месца. У біблейскай кнізе "Быццё" рай называецца Эдэм — абгароджаны сад альбо парк.

Першая прыкмета Раю — яго адгароджанасць ад чужога свету. Даўно было сказана: "Мы ведаем, што мы ад Бога і што ўвесь свет ляжыць у зле" (1 Ян 5:19). Для Адама і Евы Раем быў сад-Эдэм, адгароджаны ад пустыні рэкамі, адна з якіх называлася Еўфрат. Верагодна — даволі вялікая прастора ў рэгіёне міжрэчча Тыгра і Еўфрата. Паводле Апакаліпсісу Рай для праведнікаў Новы Іерусалім — квадрат, адгароджаны ад грахоўнага свету сценамі з дарагіх каменняў. Плошча яго — каля 5 млн. квадратных кіламетраў. Для параўнання: тэрыторыя Беларусі — 207,6 тыс. км². Вялікая дзяржава будзе ў тысячагадовым царстве Ісуса Хрыста на зямлі!

Біблейскі архетып Раю праглядваецца бадай што ва ўсіх людскіх ідэалах, выяўленых у гісторыі культуры. Першабытныя гарадзішчы і сярэдневяковыя гарады, адгароджаныя ад вонкавага зла і хаосу ўмацаваннямі і сценамі, нагадваюць нам "гарадскі" тып Раю. Малыя гарады-рэспублікі, нацыянальныя дзяржавы і шматнацыянальныя імперыі, адгароджаныя ад "варвараў" — таксама. Нейкай мадэллю зямнога Раю былі сярэдневяковыя замкі, пазней палацы замкавага тыпу, магнацкія і шляхецкія сады і паркі з сядзібамі, якімі праславілася Беларусь з XVII ст. аж да Першай сусветнай вайны. Беларускія хутаране да прымусовай калектывізацыі абгароджвалі сваю сялібу і свой сад-вертаград — нейкі рэдуцыраваны напамінак біблейскага раю-аазісу. Урэшце, ідэалам большасці сённяшніх гараджан, якія дабіліся адноснай стабільнасці, маюць свае кватэры, а некаторыя яшчэ і аўтамабілі, усё ж застаецца абгароджаны дом за горадам альбо хоць бы "фазэнда" ў садова-агародным "шанхаі". У псіхалагічным плане тут выяўляецца імкненне "урбанізаванага" чалавека вырвацца з гарадскога "пекла" і хоць бы ўскрайкам жыцця далучыцца да нейкай імітацыі зямнога "раю".

Адгароджанасць ад іншага свету — гэта толькі фармальная прыкмета Раю, яна можа быць не толькі матэрыяй ("плотам", ад "плоці"), але і духоўнай, так сказаць, анёльскай. Сутнасць і сэнс Раю — у адсутнасці дысгармоніі, супярэчнасцяў і, як выніку, — болю і пакуты; у адзінстве суверэнных "дваіх", дзе сумоўе і лагода выступаюць трэцяй іпастассю — духам згоды, супольнасці і аднамыснасці.

Сутнасць Раю яшчэ ў адпрэчнасці былых грахоў:

***Сюды не прабіцца чужому пагляду.***

***Тут наша дзяржава,***
***тут наша мяжа.***
***Тут наша адзіная сёння душа,***
***А цені ўчарашнія хліпаюць ззаду.***

Ні адзін Рай пакуль што не ўстаяў на гэтай грэшнай зямлі. Нават той сад-Эдэм, які стварыў Бог для Адама і Евы. Не кажучы ўжо пра насаджаны гвалтам бальшавіцкі камуністычны "рай". Верагодна таму, што ўсякая адгароджанасць ўспрымаецца чалавекам як абмежаванасць яго свабоднай волі, якая таксама ад Бога. У зборніку А. Сержпутоўскага "Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў" (1911 г.) ёсць казачная прытча "З чаго ліха на свеце". Вось фрагмент з яго экспазіцыі: "Даўным-даўно спрадвеку жылі сабе людзі, пажывалі, ніякага ліха не знаалі. Свет вялікі, усюды вольна, як патрудзіўся, так і пажывіўся. Не было тады ні паноў, ні мужыкоў, а так сабе людзі жылі-пажывалі ды Бога выхвалялі, а ні аб чым яны не клапаціліся (...) Людзі бы кветкі цвілі, жылі бы птушкі ў небе ці рыба ў вадзе. Жылі, што стрэлі, то ўжывалі — ні шчасця, ні бяды не малі. Але што такое жыццё? Так жыве і звер у лесе, так жыве і дзераўляка".

Рай як "залаты век" быў, аказваецца, толькі пачаткам, а не мэтаю жыцця, ён — дзяцінства людскога грамадства. Без гора няма шчасця, без хаосу і супярэчнасцяў няма гармоніі. А без ценяў святло — занадта аднастайнае. Сэнс пакутніцтва спасцігаецца ў афарызме кнігі Іова: "Так, не з праху выходзіць гора, і не з зямлі вырастае бяда; але чалавек нараджаецца на пакуты, як іскры, каб паднімацца ўверх".

Пра гэта — заключная паэтычная медытацыя ўжо знаёмага нам твора:

***Чым заўтра абернецца райская ява —***
***Не дадзена ведаць.***
***Самотай? Слязьмі?***
***Мы сталі не першымі, зрэшты, людзьмі,***
***Каго напаткала такая праява.***

Першымі былі, як вядома, Адам і Ева. Чытач, які крыху ведае сучасную паэзію, верагодна, здагадаўся, што гутарка ідзе пра стрыжнявы верш паэтычнага цыкла Галіны Каржанеўскай, надрукаванага ў часопісе "Крыніца" (1996, N 2). Твор, здаецца, унікальны ў нашай не беднай паэтычнай традыцыі. Бо ў ім упершыню на малой плошчы ў лірычнай медытацыі "праігрываецца" асноўны матыў, які лёг у аснову паэтычнага эпаса Джона Мільтана ("Згублены рай" і "Знойдзены Рай"). Увесь цыкл прысвечаны гэтай універсальнай тэме сусветнай паэзіі і музыкі, вытрыманы ў традыцыі беларускай светлай (апалонаўскай) і элегічнай (дыянісійскай, драматычнай) паэзіі.

Дж. Мільтан у стылі ўрачыстага, амаль царкоўнага барока замахнуўся на ўсю біблейскую тэматыку. Ягоныя героі — Бог і Д'ябал, Адам і Ева, Хрыстос і Антыхрыст. Беларуская паэтка ўзяла свецкі і толькі асабовы, у нечым нават "эгаістычны" аспект драмы быцця і духу. У такой акцэнтацыі "правоў асобы" ёсць праўда нашага часу, бо нядаўняя савецкая літаратура аказалася ў палоне камуністычнага, "абагуленага" месіянства. Але ў гэтай інтэнцыі на асабістае ёсць небяспека страціць субстанцыяльнасць, сувязь асобнага з цэлым, чалавека з грамадствам і нацыяй. Лірычная гераіня паэткі ўсё ж не адна, тут двое ("...Мусім трываць, колькі ні суджана мукі, Вынесці мусім усё, што па сіле дваім"), ёсць нават трэці, далучаны да продкаў ("У твары анёльскае штосьці, калі не злуеш, Калі улагоджаны дух праз цябе азавецца"). А тройчасць, нават зямная — гэта ўжо пачатак святасці. Святасць прадчуваецца ў вершы "Як выглядвае сонца — для нас", дзе ёсць адкрыццё Раю не зямнога, духоўнага:

***Спасцігаем навуку любіць,***
***А яна, мабыць, звыш даравана.***

Вобразы і матывы верша "Давай адгародзім кавалачак раю..." па тыпу санатных рэпрызаў развіваюцца ва ўсім цыкле. Як гэта непазбежна бывае на гэтай зямной нізіне, Рай і Апраметная чаргуюцца, пераходзяць адзін у аднаго. Вось "паэтызмы" Раю: "Нас у траве толькі птушкі пабачаць і сонца, Яшчэ НЛА, можа быць, ды выпадковы анёл..."; "Суладдзе душ — вялікая раскоша, Хто зведае яго, ужо не зможа Здаволіцца падробкай, сурагатам..."; "Атуленай была і захінутай, Хоць неяк адгароджанай ад зла..." А вось прыкмета пекла: "З жару — у купель ледзяную, са святаў — у будні, З кручы — у апраметную, і трэба ўсё перажыць"; "Качар у качкі частунак, глядзі, адбірае, Сцвярджаючы тым перамогу маленькую зла..." У заключным вершы свайго цыкла "Асенні мёд" ёсць мудрае разуменне антынамічнасці зямнога быцця, дзе Рай і Пекла чаргуюцца альбо перамешаны паміж сабой. Галоўнае — адзінства і цэльнасць душы:

***Галоўнае — ў сугучнасці са светам,***
***З самой сабою і парою гэтай,***
***З імжою і празрыстасцю нябёс,***
***З усім, што нёс і што ўручыў мне лёс.***

Наконт сусвету як твора Усявышняга, імжы і празрыстасці нябёс — я згодны. Але ў свеце, створаным людзьмі, ёсць яшчэ шмат ад Д'ябла і банальнага нячысціка. Зло — найперш у адмаўленні права на жыццё і свабоду "слабейшым" альбо "малодшым" братам і сёстрам. Не толькі асобам, але народам, нацыям, дзяржавам. Пакуль агенты зла дзейнічаюць — цынічна і адкрыта альбо пад маскаю дабра — будуць нараджацца героі і прарокі. Застанецца актуальнай паэзія не толькі ў стылі Сапфо, але ў традыцыі Дж. Мільтана і Янкі Купалы.

Зрэшты, мае прэтэнзіі адносяцца скарэй да "мужчынскай", чым да "жаночай" паэзіі. Як вядома, Зінаіда Гіпіус хавалася за мужчынскім лірычным героем, тым не менш яе вытанчаныя, часам экстравагантныя вершы — наскрозь жаноцкія. Галіна Каржанеўская не хавае, скарэй акцэнтуе шляхетную сілу і слабасць лірычнай гераіні ў яе парыванні да гармоніі. Вернасць класічным традыцыям, строгая рытмічнасць, характэрная для беларускай натуры стрыманасць засведчаны яе кніжкай выбраных вершаў "Невымоўнае" (1991).

Нагадаю пра яшчэ адну паэтку, жывога класіка нашай літаратуры. Яна таксама марыла пра дасканаласць і гармонію ("Можа, хачу я таго, што ўжо маю, можа, хачу недасяжнага раю..."). І напісала, мабыць, найлепшыя ў сусветнай паэзіі гімны ("Беларусь, наша Маці-Краіна...", "Магутны Божа..."). Улічваючы розніцу ў пражытых гадах дзвюх паэтак, ад спадарыні Галіны варта чакаць шмат новых паэтычных набыткаў. Яе вершы ў "Крыніцы" добра чытаюцца на фоне постмадэрнісцкай стылізацыі пад шызафрэнічнае трызненне альбо піфійскае гаданне (праўда, халоднае, без экстазу Піфіі), надрукаванай у тым жа нумары часопіса. Але пра сучасную антыпаэзію гаворка яшчэ наперадзе. Няхай падрастае, набірае моцы. Кволыя дзіцячыя практыкаванні не варта прымаць пад увагу.

## З лімаўскага архіва У. КРУКА



*Іван Мележ з бацькам Паўлам Фёдаравічам на магіле маці Марыі Дзянісаўны. 1968 г.*

...падказвае, што ідзеш ты па "Осэліцы", павернеш на Свярдлова і адразу ўспамінаеш, што гэта "Радзічы". І ніколі не забудзеш, што вуліца Калініна — гэта яшчэ і "Мэльнікі", Максіма Горкага — "Лужок", Карла Маркса — "Каралін", Савецкая — "Альшанская", Мічурына — "Вугонь", Кірава — "Закосцёлье"... А твая родная — Антона Макаранкі — "Кодак". Слова загадкавае, этымалогію сваю губляе недзе ў даўніне татарскіх паходаў".

Зрэшты, і сапраўды паэзія і прыгажосць былі ўсюды: і ў майстэрскай працы давыд-гарадоцкага рамесніка, які "ўсё рабіў, як цацку", і ў стыхіі гарынскага разводдзя, і, канешне ж, у шчодрым буянні кветак, якімі здаўна і не толькі на ўсю Беларусь, але і далёка па-за яе межамі славіўся Давыд-Гарадок.

І жоўтыя пялёсткі шольсіі, і залатая палеская касмея, і насцярожаныя браткі са злымі пыскамі кацянят, — усё ператварала навакольную рэчаіснасць у нязвыклую і ўзнёслую прозу радасці.

***Вось яна, казка — Давыд-Гарадок,***
***Бацька на ганку і маці ў гародзе,***
***А перад хатаю чысты грудок —***
***Сонца стаіць і не хоча заходзіць.***

Гэта быў час незабыўнага маленства, светлыя ўражанні якога ляглі ў аснову першых кніг Л. Дранько-Майсюка — "Вандроўнік" (1983) і "Над пляцам" (1986). Але няўрымслівая душа мастака прагла новых краявідаў, прагла спазнаць шматмерны і шматстайны свет ва ўсёй яго складанасці і супярэчлівасці.

І выпадак (ці заканамернасць!?) паспрыяў гэтаму. У 1974 годзе на радзіму будучага паэта прыехала вядомая руская пісьменніца Лідзія Абухава, аўтарка рамана "Глубыньгородак", які яна стварыла пад уражаннем сваёй першай (на пачатку 50-х гадоў) вандроўкі ў славутае палескае мястэчка. На сустрэчы з давыд-гарадоцкімі школьнікамі дырэктар школы N 2 М. Шэлехаў і настаўніца рускай мовы В. Кузміч прадставілі пісьменніцы юны талент — Лёню Дранько-Майсюка, які тады, як і пераважная большасць беларускіх школьнікаў, пісаў свае вершы на агульнадаступнай мове братняга народа. Уважліва выслухаўшы яго, мудрая жанчына сказала:

— Лёня, будзь беларускім паэтам!

Гэтая шчаслівая сустрэча ў многім і прадвызначыла далейшы жыццёвы і творчы шлях юнака. У 1975 годзе Л. Дранько-Майсюк пакідае сваё роднае мястэчка, каб стаць студэнтам аддзялення паэзіі прэстыжнага Маскоўскага літаратурнага інстытута імя Максіма Горкага. Што шукаў на далёкіх маскоўскіх праспектах малады паэт? Пра гэта ён сказаў у вершы "Перад спрэчкай".

***Раскладваць вогнішча у возе,***
***Як секчы дровы на парозе —***
***Вар'яцтва!***
***Але ўсё ж прашу***
***Незразумелага мастацтва.***
***Доўгачаканыя дзівацтвы, —***
***Ускалыхніце мне душу.***

З душою і сапраўды звернутай да пошуку і новых адкрыццяў і вяртаецца ў 1982 годзе пасля заканчэння інстытута Леанід Дранько-Майсюк на радзіму, у Мінск. Тэматыка яго вершаў вельмі разнастайная. Паводле складу свайго таленту ён рамантык, але рамантык, які паэтызуе побыт. У яго вершах ёсць нешта ад жывапісу Марка Шагала, сусветна вядомага мастака, якому Л. Дранько-Майсюк прысвяціў верш "Віцебск. 1922". Як і славуты мастак, паэт узносіць пад воблакі свайго лірычнага героя, і адтуль, "з воблака, З вечнай блакітнай гары", глядзіць на зямлю, заўважаючы ў хаосе зародкі будучае гармоніі, эстэтыку і музыку жыцця.

Узнёсла-рамантычнае светаўспрыманне, аднак, не перашкаджае лірычнаму герою Л. Дранько-Майсюка аб'ектыўна ўспрымаць рэчаіснасць і перш за ўсё гісторыю роднага краю. Гэта асабліва адчуваецца ў зборніку "Тут" (1990), куды ўвайшлі вершы, паэмы і эсэ. Трагедыю свайго народа і сябе асабіста, як часцінкі яго, паэт імкнецца адлюстраваць праз прыватную побытавую драму звычайнага чалавека.

***Ці гэта памяць узвышае нас?***
***Ці водгулле, што вечнасцю здаецца?***
***"Над хвалямі..." — прамоўлю, і ў адказ:***
***"...сінеючага Ніла...", — адгукнецца,***

***Ды не заўсёды, і знікае сон.***
***Радзіма — жвір, і гэты жвір сплывае.***
***"Ад прадзедаў спакон..." — а што спакон?***
***Я ведаю, а мой сусед не знае.***

Апрача вершаў і надзвычай адметных эсэ, Л. Дранько-Майсюк піша яшчэ і гумарыстычную прозу. Калі ў апавяданнях, аб'яднаных адной назвай "Пра тое, як я...", што часткова ўвайшлі ў аднайменны зборнік (1992), пісьменніку найбольш адпавядае дасціпна-з'едлівая традыцыя Андрэя Мрыя, то ў паэзіі і эсэ ён паслядоўнік Максіма Багдановіча. Сваё захапленне высокаю і чыстаю красою Л. Дранько-Майсюк імкнецца перадаць, выяўляючы дасканаласць прыроды і неспазнанасць чалавечых пачуццяў. Яго цікавяць духоўныя сувязі, што лучаць людзей розных часоў, розных культур і грамадстваў. І таму не дзіўна, што ў карцінах славутага лідэра фавізму А. Маціса ён знаходзіць сугучча з колерамі і стылем цікетак, народжаных талентам давыд-гарадоцкіх мастакоў.

Свае эстэтычныя погляды паэт абгрунтоўвае ў літаратурна-крытычных артыкулах, і, што не менш важна, потым сцвярджае іх у сваіх творах. Паводле Л. Дранько-Майсюка, для творцы важна не толькі тое, пра **што** ён піша, але найперш — **як** ён піша.

Найтанчэйшыя зрухі душы чалавечай, эстэтыку пачуццяў і адчуванняў і пастараўся перадаць Л. Дранько-Майсюк у зборніках "Акропаль" (1994) і "Стомленасць Парыжам" (1995). Галоўнай гераіняй гэтых кніг стала чароўная А., якой паэт прысвяціў амаль усе свае творы. "Стомленасць Парыжам" — самая цэласная і арганічная кніга паэта, якая створана эстэтам і разлічана на чытачоў, улюбёных у хараство.

***У Вашым голасе квітнеюць астры,***
***Якіх не бачыў я раней.***
***Мне зразумела ўсё і не ўсё ясна...***
***У Вашым голасе квітнеюць астры,***
***І кожнай кветцы Бог сказаў: квітней.***

Творы Л. Дранько-Майсюка будуюцца на тонкім адчуванні гармоніі колераў і гукаў, якое ўзбагачаецца майстэрскім валоданнем словам. Сярод спрадвечнай публіцыстычна-рамантычнай плыні беларускай паэзіі Леаніду Дранько-Майсюку належыць месца першага мройлівага парыжаніна, які ўмее знаходзіць свой Парыж на абшарах паміж стольным Мінскам і палескім Давыд-Гарадком. І як кожны сапраўдны парыжанін умее заставацца інтрыгуюча нечаканым і дасціпна-гжэчным.

— Успомніце маіх любімых паэтаў, — кажа Л. Дранько-Майсюк, — і вы зразумееце: яны вучыліся ў мяне. Перачытайце іхнюю інтымную лірыку і ўбачыце: яны кахалі, абкрадваючы маё каханне. І хто ж тады больш пачцівы — яны, што не пакінулі мне нават слова падзякі?! Ці я, штодзённа ўдзячны ім за іхняе вучнёўства і крадзеж?!

ЛіМ ЧАСАПІС

## Саюз той... і не той

**І ўсё ж — які ён мае быць, абноўлены творчы саюз? Пра гэта вядуць сёння размову дэлегаты першага з'езда Беларускага саюза музычных дзеячаў. (Да нядаўняга часу вядомага як Саюз музычных дзеячаў Беларусі). На парадку дня — справаздача праўлення, якое ўзначальвае народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі, за 1991—96 гг., справаздачны даклад рэвізійнай камісіі, унясенне зменаў у статут саюза, выбары...**

**Здавалася б, звычайная фармальная акцыя. Але за ёю — нялёгкае, калі не сказаць драматычнае, жыццё працаўнікоў культуры і мастацтва, паяднаных у супольніцтва, лёс якога балансуе паміж "быць" або "не быць". Сённяшні з'езд, напэўна, дасць нам падставу пагаварыць пра цяперашняе становішча аднаго з творчых саюзаў краіны і зрабіць высновы...**

**С. Б.**

## У народнага артыста — юбілей



**1 сакавіка — 80 гадоў з дня нараджэння Фёдара Іванавіча Шмакава, беларускага акцёра і рэжысёра, народнага артыста Беларусі і СССР. 55 гадоў свайго жыцця ён служыць аднаму тэатру — Беларускаму дзяржаўнаму акадэмічнаму драматычнаму імя Якуба Коласа ў Віцебску, прымае актыўны ўдзел у творчых сустрэчах, радыё- і тэлевізійных перадачах.**

**Кінагледачы ведаюць Ф. Шмакава па цікавых і папулярных фільмах "Узнятая цаліна", "Балтыйскае неба", "Людзі на балоце" і іншых. У апошні час з поспехам іграе ролі ў спектаклях "Рэвізор" паводле п'есы М. Гогаля, "Кароль Лір" — В. Шэкспіра, "І паміраючы дрэвы стаяць" — А. Касоны, сам паставіў некалькі спектакляў.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Чарговы нумар "Всемирной литературы"

**Другі нумар часопіса "Всемирная литература" адкрываецца рубрыкай "Старонкі лаўрэата Нобелеўскай прэміі", у якой з апавяданнямі выступае С. Бекет. У рубрыцы "Садружнасць" прадстаўлены вершы М. Танка з кнігі "За маім сталом" і апавяданні В. Стэфаніка. А ў "Краме букініста" можна пазнаёміцца з "Одамі духоўнымі" М. Ламаносава. Змешчаны заканчэнне фантастычнага рамана У. ле Гуін "Левая рука цемры", апавяданні Ю. Тууліка, Л. Клаэля, эсэ І. Зуб "Аўра Францыі". Т. Бондар адкрывае новую рубрыку "Нітка Арыядны", у якой выступае з развагамі "Ісціну трэба заслужыць..."**

## З прадмовай Уладзіміра Конана

**ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыў свет першы том Збору твораў народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча, выданне якога запланавана ў шасці тамах. Як вядома, Ніл Сымонавіч паспяхова працуе ў розных літаратурных жанрах, але найбольш відочныя яго поспехі ў галіне паэзіі. У гэтым можна ўпэўніцца яшчэ раз, пазнаёміўшыся са згаданай кнігай. Змест тома склалі вершы і паэмы, напісаныя Н. Гілевічам на працягу трыццаці гадоў, пачынаючы з 1946 года, з якога і бярэ свой адлік мастакоўская біяграфія слыннага майстра.**

ЭСЭ

Вольга ІПАТАВА

# Стваральнік Кнігі

Нават калі творца служыць выключна сваёй, нацыянальнай культуры і шчыра заключае сам сябе ў ейныя рамкі, ён усё роўна належыць усяму чалавецтву. Бо над полем, якое ён не шкадуючы сіл арэ, барануе, шчодра сыпле зерне, веюць тыя ж вятры, сыплюць тыя ж дажджы, што і над усёй планетай. Нездарма ў старажытнай "Бхагават-Гіце" ёсць такія радкі:

***Да нараджэння ўсе рэчы схаваныя***
***У Быцці, адзіным, вялікім,***
***Адкуль сыходзяць пры нараджэнні***
***І патанаюць па смерці ў ім.***

Сыходзячы з гэтага адзінага, вялікага Быцця, як бы і сапраўды праяўляючыся ў ім, мастак, мабыць, бярэ сілы ў духоўным патэнцыяле не толькі свайго народа, але і ўсяго чалавецтва, і, патанаючы ў ім, Быцці, пакідае нам відавочны адбітак зробленага: малюнак, песню... Кнігу.

Мажвідас пакінуў нам не проста кнігу, але Кнігу з вялікай літары, і я кажу "нам", таму што з кожным стагоддзем агульныя нашы гарызонты пашыраюцца, і мы здольныя сёння гаварыць аб агульнай наасферы чалавечага Духу. Разам з тым як мы мала



ведаем аб пастары з Рагайны, які падрыхтаваў і выдаў у далёкім 1547 годзе ў Кёнігсбергу першую літоўскую кнігу! Дарэчы, Скарына выдаў сваю "Біблію" ў Празе раней, у 1517 годзе.

Аднак гісторыя — гэта не іпадром, дзе ёсць фінішная стужка і дзе коні шалёна нясуць калясніцы ці седакоў, часам сутыкаючы іх паміж сабою. Усе міфалогіі свету гавораць нам аб Дрэве, чыё карэнне глыбока ў зямлі, а крона — высока ў небе; і кожны ліст на ім — гэта мы з вамі, нашы памкненні, мары і наш гераізм. Так, гераізм — часам паўсядзённы, просты, часам — той, які падмінае пад сябе неспрыяльныя ці трагічныя абставіны, узвышаецца над імі.

Успамінаю 1990 год, калі мы, жанчыны былога СССР, былі ў Непале, у вялікай зале Куала-Лумпура сустракаліся з членамі таварыства Непал—СССР, у асноўным маладымі студэнтамі. Калі на сцэну выйшла наша калежанка — журналістка з Літвы, зала ўстала, вітаючы тую гераічную барацьбу за свабоду і дэмакратыю, якую тады з напружаннем вяла Літва — гэтая невялікая краіна вялікіх духам і мужнасцю людзей. Калі на Вільню рушылі танкі, а людзі ішлі ў ноч, у невядомасць; калі жывым ланцугом станавіліся, каб перагарадзіць шлях насіллю — гэта было папрокам усім, каму хацелася лянотна і бесклапотна стаяць у стойле ля карыта, хай сабе і беднага, гэта было ўрокам нацыянальнай еднасці, і мы бачылі на экранах нашых тэлевізараў, як лунае над людзьмі, яднаючы іх, простае словаспалучэнне: "За свабодную Літву", "За Літву". І мы не можам не задаваць сабе пытанне: адкуль вытокі

### ЗГАДКІ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

З пяшчотай, гумарам, а часам і прыкрасцю ўспамінаю тыя няпоўныя два гады, якія прабыла супрацоўніцай "ЛіМа" — газеты дарагой для мяне і пасёння.

У газету я трапіла амаль выпадкова: перад тым, паддаўшыся ўгаворам Рэма Нікіфаровіча працаваць на сталічным тэлебачанні, я падала заяву аб тым у Гродне і прайшла субяседаванне ў старшыні Белдзяржтэлерадыё. Аднак тым часам падаспела ракавая для мяне нарада маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах, калі пры вялікай колькасці журналістаў я адмовілася ад граматы ЦК ЛКСМБ у знак пратэсту супраць русіфікацыі на Беларусі. Адным махам трапіўшы ў разрад "крамольных", я, вядома ж, ужо не магла спадзявацца трапіць у такую стэрыльна ідэалагічную ўстанову, як тэлебачанне. Вяртацца назад у радасныя абдымкі-абцугі чыноўнікаў Гродзенскага тэлебачання не хацелася, і Аляксей Карпюк угаварыў Леаніда Прокшу ўзяць мяне ў "ЛіМ". Мяккі і добрасардэчны, Леанід Януаравіч, мабыць, не думаў, як моцна дастанецца яму за гэта. Толькі аднойчы ён дазволіў сабе сказаць: "Мілае дзіця маё, вы нават не можаце ўявіць, што мне там (паказаў уверх) прыйшлося вынерпець".

Газетная журналістыка давалася мне цяжка, але я старалася як магла. У вялікім і яшчэ чужым Мінску газета стала для мяне сапраўдным домам, а не супрацоўнікі — сям'ёй. І як жа грэла гэтае заўсёднае "Мілае дзіця маё", з якім Прокша сам-насам (ён ніколі не рабіў гэтага публічна) паказваў на мае агрэхі ў публіцыстыцы і тлумачыў, як трэба гаварыць з раённым начальствам. Канешне, ён не быў змагаром, "ЛіМ" быў такі ж парадна-прыгладжаны, як і ўсё навокал, аднак жа газета несла людзям беларускае слова, не даючы забыцца на яго, стукалася ў сэрцы, не даючы ноcьбітам іх рабіцца чужынцамі на сваёй зямлі.

Сталіца паступова абжывалася, цяжкасці ўжо не так прыгняталі. Аднак неўзабаве прыйшоў новы галоўны рэдактар, і ў мякка-інтэлігентную атмасферу пісьменніцкай газеты стаў убівацца цвёрдакаменны бальшавіцкі стрыжань ідэйнай адданасці. Не ведаю, чаму яму хацелася зрабіць нас рэдакцыйнымі стукачамі, у тым ліку і мяне. Можа, таму, што была самай маладой, а маладыя душы ламаюцца лягчэй? Абараняючыся, я першы і апошні раз у сваім жыцці звярнулася "туды" (наверх), паслаўшы копію ў Саюз пісьменнікаў на імя Танка. Адказу, вядома ж, не дачакалася, як і абароны, але назаўсёды і канчаткова зразумела, што абарона ад зла і пошасці — найперш у тваёй уласнай душы. Гэта быў як бы "пазаштатны" лімаўскі ўрок, які мне шмат дапамог у далейшым жыцці.

Адыходзіла я адтуль ужо іншай — пасталелай, паспакайнелай, моцна ўпэўненай у жыццёвых ідэалах, сярод якіх і пасёння самае дарагое, запаветнае — беларушчына.

Юрась ЗАЛОСКА

# Безумоўнасць свабоды

Пішу гэтыя "даюбілейныя" радкі, фізічна знаходзячыся па-за Беларуссю і "ЛіМам", але экзістэнцыяльна абсалютна пэўна пачуваюся па-ранейшаму сталым супрацоўнікам рэдакцыі. Бо супрацоўніцтва ўвогуле падразумявае сэнсадайны разумовы кантакт паміж чытачом і газетай, інтэлектуальны дыялог дзвюх свядомасцей — рэдакцыйнага калектыву (аўтараў) і асобы чытача. У адрозненне ад бальшыні аднадумцаў, "ЛіМ" і сёння чытаю пільна і, як і раней, з адчуваннем таго, што карыснасць і каштоўнасць "ЛіМа" істотна пераўзыходзіць вузка-друкарскую сферу; яго сфера — сфера беларускага духу.

Цяпер, на быційнай і палітычнай адлегласці ад часоў яскравай і плённай актывізацыі гэтага духу (1989—1994 гг.), культурная роля "ЛіМа" бачыцца выразней і, так сказаць, канцэптуальна: "ЛіМ" быў і застаецца **адзіным** на Беларусі выданнем, якое б у такой інтэгральнай ступені прэтэндавала на ролю збіральніка, захавальніка і "сэнсаздабывальніка" нацыянальнай традыцыі. Не кажу — культуры, бо мастацка-публіцыстычная газета нічога як быццам не стварае, але аналізуе **сэнс** створанага. (Sic! Менавіта высілкі ў згаданым кірунку надаюць журналістыцы вышэйшую вартасць). Газета тады становіцца як бы органам самарэфлексіі культуры, выконвае ў культуры філасофскую функцыю. "ЛіМ", на мой погляд, нават у цяперашні час і ў сённяшнім выглядзе, як ніводнае іншае выданне адпавядае гэтай функцыі.

Каб зразумець гэта, трэба, па-першае, чытаць "ЛіМ" не штотыднёва, а — адразу збор нумароў за 3—4 месяцы (як зараз у Польшчы чытаю я); па-другое, разумець культуру не як вынік гульні "творчай" свядомасці з уласнымі сэнсамі, немаведама з якіх суб'ектных нетраў узятымі, а — як інтэнцыяльны (свядомасны) працэс тварэння сэнсу-паняцця-знаку (і мастацкага твора) на падставе быційнай рэчаіснасці, заўжды першаснай у культурным працэсе. Маецца на ўвазе вельмі простая рэч: пунктам адліку для культурна-крытычнай (газетнай) дзейнасці з'яўляецца альбо г. зв. эмпірычная культурная рэчаіснасць (новыя творы літаратуры і мастацтва, палітычна-эканамічныя ўмовы і г. д., іншымі словамі — сама жывая традыцыя), альбо — апрыёрныя канцэптуальныя ўстаноўкі пад біркамі ці то "постмадэрнізму", ці то "дэканструктывізму", ці то "бумба...лізму", г. зн. заўсёды другаснае эстэтычнае фантазёрства (падобнае па прыродзе да з'явы "прелести" ў рэлігійным жыцці). Розніца паміж першым і другім падыходамі істотная: з аднаго боку — сапраўдны незаменны рэалізм і трывалы таму інтэлектуалізм; з другога — хваравіты эстэтычна-творчы авантурызм, як заўжды амбіцыйны, з цэлым букетам спадарожных



праяў: нігілізмам у адносінах да традыцыі (што вырастае з падсвядомаснага ведання мізэрнасці ўласнага таленту), амаралізмам (поўным атрафіраваннем маральнага пачатку), метадалагічнай дэструкцыяй (бо суб'ект, няздольны стварыць нешта сапраўднае, альбо стварае эстэтычнае смецце — у выглядзе неда-раманаў, неда-вершаў,

такой мужнасці? Мабыць, іхнія продкі 450 гадоў назад, перадаючы адзін аднаму першую кнігу, чыталі як быццам бы простыя, звычайныя словы, напісаныя Мажвідасам: "Скажыце, ці ёсць што-небудзь болей несправядлівае, чым адлучыць народ ад усіх прыналежных да яго святыняў, ад якіх не можа быць адсунуты ніводзін чалавек, таму што гэта бяда для душы і вечнага жыцця. Якія святыні больш агульныя, больш патрэбныя людзям, чым навука аб Вечным, аб Нябесным, таму што толькі яны, як шырокая дарога, аднолькава ўказваюць сапраўдны шлях вечнага жыцця і ўратавання". Чыталі і вучыліся берагчы свае святыні, не аддаючы іх на здзек нікому.

І што ў параўнанні з гэтым усе няўладзіцы асабістага жыцця? Яны паўтараюцца з веку ў век: на тронах рэдка бываюць велічныя духам волаты, а сапраўдныя таленты гібеюць у жабрацтве. Сціскаецца сэрца, калі чытаеш ягоныя радкі, звернутыя да герцага прускага Альбрэхта: "Халодны і зімовы час ужо ля парога. І той, хто загадзя да яго не рыхтуецца, рызыкуе сваім здароўем. Паколькі я не маю належнага адзення, каб прыкрыцца ад холаду, а толькі парванае і надта ж зношанае, я насмеліўся звярнуцца да цябе, славуты муж. Ваша высакароднасць, каб можна было атрымаць іх ад святлейшага князя, нашага мілага ўладара, бо іншага, хто ўмеў бы гэта рабіць і быць пасрэднікам пры такой справе, апроч цябе, любага нашага абаронцы і ўсімі паважанага чалавека, я не ведаю..."

Прускі герцаг Альбрэхт цікавы для нас тым, што ён апекаваўся Мажвідасам і культурай краю. Сціплы пастар разам з сабою даў бяссмерце тым, хто знаходзіўся побач з ім ці дапамагаў яму. Так гісторыя дзякуць сваім любімцам — але вельмі часта робіць гэта ў пасмяроцці. І са стагоддзя ў стагоддзе сыны чалавечыя, каго неба адарыла іскрынкаю ці агеньчыкам таленту, рашаюць для сябе гэтую праблему. Як учора. Як сёння.

Мы ўсе ў ім, напаўвясковым святары: маем патрэбу ў хлебе надзённым, не вольныя ад вялікіх і малых жыццёвых клопатаў, часам, да хрумсту ў хрыбце, схіляемся перад моцнымі свету. Але ён, **ці ёсць ён у нас** — са сваім ахвярным служэннем сваёй дарагой радзіме, праз яе — сілам дабрыні і святла?

Ці кладзём мы, беларускія інтэлігенты, услед за ім, ці за Скарынам, ці за многімі іншымі нашымі папярэднікамі, у глебу народнай душы хто — жменю, хто — адзінае, але дарагое, сагрэтае душою зярнятка, каб прарастала яно ў вяках? Каб праз гады сцяной усталі нашы нашчадкі перад злом і насіллем, і лунала б над імі простае "За Беларусь". "За свабодную Беларусь". За ўвесь свет, дзе прасторна чалавечай душы цягнуцца да неба і ягоных вечных ісцін.

---

неда-дысертацый, альбо метадычна перакрэслівае жывую традыцыю). Метафізічная розніца тут — як паміж Богам і грэшнымі анёламі: менавіта другія зыходна не здольныя да тварэння новага (здольныя толькі выкарыстоўваць створанае Іншым, як правіла — апаганьваць). Так што метафізічны дыягназ новых "творцаў беларускай гуманістыкі" — для мяне прынамсі — трывожны...

Вось такая рэфлексія нарадзілася з нагоды лімаўскага юбілею. Не пішу пра асабістае — пра супадзенне майго асабістага часу з часам узлёту "ЛіМа" ў 89—94-ых гадах: дзякуючы "ЛіМу" я вырас як аўтар, зрабіў дзве кнігі эсэістыкі, навучыўся працаваць прафесійна і творча. Бо галоўная і унікальная, нідзе больш мной не сустраканая ў беларускіх выданнях рыса "ЛіМа" — безумоўнае прызнанне творчай свабоды супрацоўніка (з аднačасным далікатным вымаганнем канечнага прадукту — тэкстаў). Такая мадэль выдання працавала пры галоўным рэдактарстве Міколы Сымонавіча Гіля, і я не ўпэўнены, што мы з належным разуменнем ацанілі яго стыль кіраўніцтва. Па сутнасці тая мадэль вымагала ад нас сама меней — літаратурнай таленавітасці. Мы дружна раслі, не абмежаваныя нічым, апроч свайго сумлення.

Зараз многае змянілася. Робіцца ўсё, каб з такім паняццем, як сумленне, на Беларусі было назаўжды пакончана... Хацелася б, каб маё "тэарэтычнае апраўданне" "ЛіМа" надало вам, дарагія калегі, пэўнасці наконт патрэбы і значэння вашай працы. Хацеў бы, каб "ЛіМ" і надалей заставаўся верны самому сабе і сваёй пазіцыі — пазіцыі сумлення.

*Люблін*

---

Мікола МЯТЛІЦКІ

# Беларусь

***З якіх цянёт гісторыі сівой***
***Ўзышоў народ душой прачысты твой,***
***О Беларусь! Якое легла жыта***
***На ніве здратаванай, агнявой, —***
***Сягоння свету беламу скажы ты.***

***Ты не счакала небнае крупы.***
***Як малацілі-ляскалі цапы,***
***Крывёю заплывалі Курапаты.***
***Як сеяў лёс, на радасці скупы,***
***На полі долі незлічона траты.***

***Як зеўрала змяістая мяжа,***
***Рэпрэсій ліпла чорная імжа,***
***Як над табой цягнулі руку згоды***
***Да тых, хто свет патопіць***
***у крыжах,***
***Крывёй зальё збалелыя народы.***

***Як уставала сонца з туманоў,***
***Як сцятым шэптам працінала зноў***
***Твае, бядой аглушаныя, вушы.***

***На пікі ўсіх айчынных курганоў***
***Плявалі як з вышы твае чынушы.***

***Як зглухла мова спеўная твая,***
***Змутнела ў згубе Прыпяці бруя,***
***Дажджы — наскрозь —***
***цярусяць кіслатою.***
***Як песня захлынаецца мая***
***Няўцешліва салёнай кропляй тою.***

***Як чынна і прывычна —***
***дзень пры дні —***
***У бюракрачай, з'еднай тупатні***
***Пра дабрабыт твой думалі надзённы,***
***Пасеяўшы бяздушша камяні,***
***Не помнячы сыноў тваіх імёны.***

***Як будавалі лад на свой капыл,***
***Аддаўшы ўзлёт ілжэдухоўных сіл,***
***Да згоднай згубы сэрца прыручалі.***
***Паэты як над памяццю магіл***
***Услужліва аб тым твае маўчалі.***



***Устаўшы з пракаветнай баразны,***
***Пра новы дзень твой думаюць сыны.***
***Дай кожнаму спатолівую сілу,***
***Збудзі іх думы, летуценні, сны,***
***Забі сваю магчымую магілу,***
***О Беларусь!***

## ЗГАДКІ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

З мая 1977 года — мой першы працоўны дзень у штаце рэдакцыі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва". Студэнту-выпускніку філфака БДУ такое не магло і прымроіцца...

У кішэні ляжала ўжо універсітэцкае накіраванне на працу ў родны Хойніцкі раён, калі паведамілі: кліча галоўны рэдактар "ЛіМа" Алесь Харытонавіч Асіпенка — а ён тады падпісваў газету — выслухаў падказанага па-зямляцку Анатолем Вялюгіным кандыдата на вакансію і, развёўшы рукамі (жанаты, без прапіскі), пажадаў поспехаў на іншых дарогах жыцця.

"Ну як? Калі выходзіш на працу?" — упэўнены ў адваротным, пацікавіўся пры сустрэчы Анатоль Сцяпанавіч, глянуў пазмоўніцку. Давялося прызнацца: адмовілі.

Але свет, як кажуць, не без добрых людзей. А калі гэтыя людзі кшталту Івана Пятровіча Шамякіна, тады (не раз пераканаўся і потым) усялякую цяжбу агораеш...

Пяць творчых гадоў — яшчэ адзін універсітэт — займае "ЛіМ" у маім жыцці. Тут вучыўся я прафесійна валодаць словам. І з удзячнасцю ўспамінаю, як крэслілі мяне тут, вучылі старэйшыя вопытныя калегі.

"ЛіМ" 80-х — Асіпенкі, потым Жука — прафесійна і годна гаварыў пра нашу літаратуру і культуру, узносіў творчыя душы над сумнавядомым застоем. Я рады, што многім маім калегам, а таксама маладзейшым лімаўцам выпала тварыць новую газету — компас нашага нацыянальнага адраджэння, што "ЛіМ" сягонняшні — самы сумленны голас Беларушчыны.

*З лімаўскага архіва У. КРУКА*





Рэдкі настрой... Пімен Панчанка, 1983 г.

Вам аўтограф? Васіль Зуёнак у Вязынцы, 1990 г.

---

Ніна МАЕЎСКАЯ

# Паміж праўдаю і хлуснёю

***Дзень прападае,***
***дзень прападае...***
***Растае, як кавалачак***
***цукру ў чаі,***
***Смагі не наталяе,***
***Марна, як ліст, ападае...***
***Ноч да вакна прыпадае,***
***А я ўсё чагосьці чакаю...***
***А я ўсё чагосьці чакаю,***
***Чаму ніколі не збыцца,***
***Не спраўдзіцца, нат не прысніцца,***
***Што не адной мне трэба,***
***Нібыта кавалачак хлеба.***

***Хто сказаў, што ў руцэ сініца***
***Лепей за жорава ў небе?***
***Я сініцу сваю выпускаю,***
***Расстаюся з палёгкаю з ёю.***
***І стамлёная ўшчэнт душою***
***Застаюся на грані адчаю,***
***Застаюся сама сабою***
***Паміж праўдаю і хлуснёю.***
***Бо няма тут нейтральнага ходу,***
***Як у рэчкі парожыстай — броду.***
***І застаюцца самі сабою:***
***Праўда — праўдай,***
***хлусня — хлуснёю.***



## ЗГАДКІ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

Не магу пахваліцца працяглай працай у "ЛіМе", але, бадай, той кароткі час значыць для мяне болей, чым у выданнях, дзе працавала гады і гады. "ЛіМ" для мяне штосьці асаблівае — храм, святыня... Я, мусіць, першая практыкантка яго, студэнтка аддзялення журналістыкі БДУ, якая запрасілася ў "ЛіМ", у той час як для практыкі журналіста лічыліся найбольш прыдатнымі партыйныя і камсамольскія "баявыя" выданні.

На той час там працаваў ужо Станіслаў Пятровіч Шушкевіч. Памятаю, як пабацькоўску шчыра і добразычліва паставіўся да мяне галоўны рэдактар Іван Захаравіч Шарахоўскі. І накіраваў адразу ў аддзел літаратуры, якім загадваў знакаміты паэт Пятро Фёдаравіч Прыходзька, незвычайнай дабрыні чалавек. Тут жа працаваў і Міхась Стральцоў, а ў іншых аддзелах — Раман Сабаленка, Алесь Махнач, Аркадзь Марціновіч і іншыя. А яшчэ — "ЛіМ", як і зараз, прыцягваў людзей творчых, цікавых. І не было дня, каб не заходзіў сюды хтонебудзь са знакамітых нашых пісьменнікаў.

Час маёй практыкі супаў і са зрухамі ў "ЛіМе" — прыйшоў новы рэдактар, Нічыпар Еўдакімавіч Пашкевіч, за плячыма якога была Масква. Растрывожыў ён, памятаю, цішыню...

"ЛіМ" на ўсё жыццё застаўся для мяне гасцінным і добразычлівым, амаль што родным домам. Ён прыняў мяне і ў час майго беспрацоўя пасля ВПШ, куды я патрапіла на перавыхаванне і якога, відаць, не адбылося. Я ўдзячна тагачаснаму галоўнаму рэдактару, Алесю Аляксандравічу Жуку, і пазнейшаму — Міколу Сымонавічу Гілю, якія знаходзілі ў маіх апавяданнях зярняты мастацкай праўды, чалавечнасці.

Ідзе час, мяняюцца рэжымы, рэдактары, а "ЛіМ" застаецца ў маёй душы ўзорам беларускасці, духоўнасці, добразычлівасці. Апошняя пагаласка аб яго рэарганізацыі і нават закрыцці адгукнулася ў сэрцы глыбокім болем. Жыві, "ЛіМ"! І будзь заўсёды са мною — выратавальная гавань маёй душы.

## Даследчык кнігі

Ужо шмат гадоў даследуе кнігу, вывучае яе гісторыю кандыдат гістарычных навук Г. Галенчанка. Георгію Якаўлевічу 28 лютага спаўняецца 60 гадоў. Нарадзіўся ў г. Петразаводску (Расія), у 1960 годзе скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. Працаваў старшым выкладчыкам, быў старшым навуковым супрацоўнікам, з 1991 года — загадчык аддзела Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Пытанні крыніцазнаўства, гістарыяграфіі эпохі феадалізму, гісторыя кнігадрукавання на Беларусі ў XVI—XVIII стагоддзях, гістарыяграфія скарыназнаўства — далёка не поўны пералік навуковых інтарэсаў Г. Галенчанкі. Ён знайшоў і ўвёў у навуковы ўжытак шэраг дакументаў пра Ф. Скарыну, В. Цяпінскага, братоў Мамонічаў. Г. Галенчанка з'яўляецца складальнікам "Бібліяграфічнага спісу беларускіх кнігадрукаваных выданняў XVI—XVIII стст." (1961), навуковага апісання "Старадрукаваныя кірылічныя кнігі 15—18 ст." у каталозе "Кніга Беларусі. 1517—1917" (1986), бібліяграфічнага даведніка "Адкрыццё Скарыны" (1989), кніг "Идейные и культурные связи восточнославянских народов в XVI — середине XVIII в." (1989), "Францыск Скарына — беларускі і ўсходнеславянскі першадрукар" (1993). Разам з В. Чамярыцкім і В. Шматавым напісаў навукова-папулярную кнігу "Францыск Скарына", выдадзеную ЮНЕСКА ў Парыжы на французскай і англійскай мовах (1979, 1980).

## Калыханка на штодзень

А менавіта так трэба ўспрымаць унікальную кнігу "Вячэрняя казка", выпушчаную выдавецтвам "Юнацтва". У аб'ёмным томе прадстаўлена роўна 365 твораў гэтага жанру 83 народаў свету. Сярод аўтараў "Вячэрняй казкі" браты Грым, Л. Талстой, Г.-Х. Андэрсен, Ш. Пяро, М. Танк і многія іншыя вядомыя пісьменнікі. Аформіў кнігу мастак В. Макаранка.

## Паэт-пакутнік

Нейкі год не дажыў да свайго 90-годдзя Алесь Звонак. Зведаў тое, што не кожны можа перажыць. І нягледзячы ні на што, выстаяў, не зламаўся. І вярнуўся ў актыўны творчы строй, і паспеў напісаць тое, што лішні раз засведчыла, наколькі яго талент глыбінны ў сваёй сутнасці. Пацвярджэнне таму — найперш кніга А. Звонака "Светлацені", адзначаная ў 1992 годзе Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь. Сведчанне гэтаму — і пераўвасоблены па-беларуску (разам з М. Хведаровічам) неўміручы "Віцязь у тыгравай шкуры" Ш. Руставелі. Увогуле, талент А. Звонака раскрыўся шматгранна. Паэт па прызванні, ён з поспехам выступаў таксама ў галіне крытыкі, драматургіі тэатра і кіно...

У дзень нараджэння Пятра Барысавіча ў Доме літаратара сабраліся на вечар, прысвечаны яго памяці, прыхільнікі таленту паэта, сябры па пяры. Вёў вечарыну сакратар Рады Саюза пісьменнікаў Уладзімір Паўлаў. З успамінамі пра пісьменніка выступілі лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Сяргей Грахоўскі, Пятро Прыходзька, Рыгор Яўсееў, Леанід Дранько-Майсюк...

Вядомы бард Алег Атаманаў выканаў некалькі песень на словы Пятра Барысавіча, а паэт Андрэй Скарынкін прачытаў яго вершы ў сваім перакладзе на рускую мову. Вершы А. Звонака дэкламавалі Галіна Дзягілева, Павел Дубашынскі, Аляксей Слесарэнка. Прагучаў, запісаны на магнітафонную стужку, голас і самога паэта.

## Памяць аб продках

У 1995 годзе выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі выпусціла кнігу Уладзіміра Бутрамеева "Вялікія і славутыя людзі беларускай зямлі", адрасаваную ў першую чаргу школьнікам. І вось з'явілася яе другое выданне. Тых, хто не паспеў пазнаёміцца з нарысамі У. Бутрамеева, чакае прыемная сустрэча з людзьмі, якія — гонар нашай Бацькаўшчыны. Аб змесце кнігі бачна нават па назвах асобных раздзелаў яе — "Легендарныя продкі беларусаў", "Першы князь Полацкай зямлі Рагвалод і яго дачка Рагнеда", "Кірыла Тураўскі", "Сімяон Полацкі", "Славутыя магнаты"...

ПАЭЗІЯ

Алесь ЧОБАТ



# TERRA NULIUS*

### Круча

Круча над пушчай.
На Неба ўзыходзяць доўга.
Спачатку —
хрысцім ад Рыма князя Міндоўга.
Потым за лепшыя месцы рэжамся,
як адзін.
Потым на лепшы сук
разбіткаў шле Гедымін,

Полацк выгнаў Скіргайлу.
Ягайлу — Вітаўт шалёны.
Ягайла пабег аж у Кракаў —
і нарабіў Ягелонаў!
Адна і другая Унія.
Сорак войнаў на ўсе бакі.
Вялікае Княства руінаў.
Радзівілы і жабракі.

Нарэшце адваявалі.
Адстралялі. Аджабравалі.
Нарэшце костку адгрызлі,
скінутую са стала.
А час постіндустрыяльны.
Гавары па-англійску, начальнік!
Наша дарога крутая да Неба не завяла.

### Начная выпіванка з Міхалам Клеафасам Агінскім

Браце мой! Пане Міхале, заграй!
Хай твая скрыпка над Краем заплача —
тут не было і не будзе іначай,
наш гэта люд з табой, наш гэта Край...

Браце Міхале, ты не памірай!
Край адабралі?! Ёсць Неба над Краем!
Дзвесце гадоў на зямлі паміраем,
наш гэта люд з табой, наш гэта Край...

Браце мой, пане Міхале, жыві!
Слёзы дрыжаць у тваім паланезе,
рэха за скрыпкай блукае па лесе,
злосць з наіўнотай кіпяць у крыві...

### 1413 год. Гародля над Бугам

Немец пабіты!
Святкуем з Еўропай яднанне!
Каталікі атрымалі гербы —
гэй, славяне!
І праваслаўным няма
чаго плакаць ізноў:
як сабе мелі —
няхай пакуль маюць князёў...

Князь Аляксандр з каралём
Уладыславам, ваўкі два старыя,
новую рэзь наклікаюць
ад Бельска па Лепель —
роўнасці роўнасць
бо роўныя толькі пятлёю на шыю.
Край разарвецца вайной!
А хацелі ж як лепей...

Лепей не трэба хацець.
Не направіць сам Бог чалавека,
як напраўляюць тупую
сякерыну кругам.
Свята! Стаяць пад царквою калека,
калека, калека...
Немец пабіты.
І свята ў Гародлі над Бугам...

TERRA NULIUS* (лат.) — зямля нічыя, цаліна.

### Жалезны дуб на магіле Алаізы Пашкевіч

Не прапаў нідзе Алаізы Пашкевіч дух.
Скора век расце на магіле жалезны дуб,
і ўзыходзіць дрэвам святым проста
ў Неба яе душа,
б'юць пярун і праклён па ім,
а не можа праесць іржа.

Страшны век ляціць.
Дзве вайны адгулі за намі.
Колькі люду спіць пад крыжамі
ды камянямі!
Толькі горшы сон на тутэйшы
і народ насланы —
служыць д'яблу ён,
у бяспамяцтва закапаны.

Не забіце ў сабе людзей!
З душ ганіце чужую нелюдзь!
Ратаваць вядзіце дзяцей да касцей
Алаізы Пашкевіч,
каб на полі вялікім тут
сэрцы сціснула ім слязамі,
і прасіце жалезны дуб сілы даць
не быць халуямі!

### Зямля нічыя

Зямля нічыя і нам зямля не чужая.
Толькі што часта ездзім
ды пераязджаем.
На вайну, на гандаль,
на халтуру і на шабашку.
Жыць не цяжка —
мець зямлю сваю цяжка.

Зямля нічыя. Адна такая на свеце.
Старыя здыхаюць.
І ўжо паміраюць дзеці.
Але дзе памерці народу,
які з волі ўласнай здыхае?!
Нават магіла любая гаспадара
свайго мае.

Лётаюць над базарамі —
як вароны над пожняй! —
надта хітрыя людзі паміж Расіяй
і Польшчай,
і адпаведнае месца з краю ім адвялі:
— Слухай, што за прыдурак? —
Той? З Нічыёй Зямлі...

### Крыжакі

Горка. Дзеці. Жыжа ляціць з-пад санак.
Побач ваенны завод —
новы крыжацкі замак.
Ніжэй — шырокая вуліца,
прабітая да ракі.
І ездзяць вуліцай гэтай
у тралейбусах крыжакі.

Дзеці савецкай халявы.
Ні племені, ані роду.
Наехалі на каўбасы
з прамысловага ўсходу.
Бронзавы Ленін на плошчы —
калектыўны партрэт.
Кажуць, сям'я галоўнае.
Але ж мэта жыцця — абед.

Мэта жыцця абед і ў тутэйшых
кнехтаў таксама.
Сядзіць па глухіх інтэрнатах
ачмурэлая вяскаўня.
Горка. Дзеці. Жоўтая жыжа
ляціць з-пад санак.
Падрастае новая нацыя.
Нацыя без імя.

### Калгас "Россия"

У беларускім калгасе "Россия"
ўсе трактарысты ад ранку касыя.
Людзі сярэднія — як любы з нас.
Наша "Россия" — сярэдні калгас.

Хай сабе свет ідзе заднім, пярэднім,
а беларус будзе толькі сярэднім,
розум ён мае сярэдні і рост —
хай другіх лупяць у морду і хвост!

Школа сярэдняя ёсць у калгасе.
Раз у два дні хлеб прывозяць з райцэнтра.
Горкія слёзы валяюцца ў касе.
А ў тэлевізары — вечнае лета.

### Залатая Свіння

Ноч праходзіць у радыётэлекашмарах.
Нават кашаль мой цыгарэту не тушыць.
Спяць калегі. На нарах.
У мінскіх казармах.
І бяссілле правінцыі мяне душыць.

Іх бралі з асфальта за тое,
што яны людзі,
а не чорныя вошы за пазухай
у Пана Бога.
Што рабіць тут? Каго падняць?!
Тут нічога не будзе...
Хамам з плошчы Свінні Залатой
непатрэбна свабода.

Гэты помнік нядаўна адчынены.
Публіка выцірала слёзы.
Над шырокім прасторам усходзіць
Свіння Залатая,
як багіня паганская. А пад ёй —
соснаў шум і бярозаў,
песні гэтага Краю, словы гэтага Краю,
людзі гэтага Краю...

### Турма

Снег ідзе. Наляцела на Гродна зіма.
Ходнік слізкі і вузкі. Мур высокі.
Турма.
Сягоння з гэтага боку гуляю міма яе,
а што адбудзецца заўтра —
маўчаць анёлы мае.

Наша турма са славай.
Ад царскай і польскай пары.
Тут сядзелі вялікія людзі —
за народ усе змагары.
Сягоння з гэтага боку гуляю каля яе,
а што адбудзецца заўтра —
маўчаць анёлы мае.

А народ бяжыць і штурхаецца.
Няма часу яму гуляць.
Дэмакраты няхай выдурняюцца.
Трэба красці і зарабляць.
У правінцыі гора вясёлае.
Слізкі ходнік каля турмы.
І ляцяць недзе там анёлы
на вясёлых скрыдлах зімы.

### Дарога

Па дарозе праз вёскі аўтобус
малы тарахціць,
і вясковыя цёткі выходзяць
з яго і заходзяць,
і на колах старых
па дарозе аўтобус ляціць,
і тутэйшыя людзі спакой
ля дарогі знаходзяць.

Там, дзе Скідаль,
Азёры і вёскі малыя пры іх,
я праеду сляпым
і ніякай Айчыны не ўбачу,
а калі мне выходзіць —
над полем закружыцца дым
пад вясковым дажджом,
і я сам нечакана заплачу.

Хоць чаго плакаць мне,
калі смерць міма сэрца прайшла?
Але ж гэта мая —
а другім гэтак не шанцавала,
і ўжо скончыўся дождж,
і над восенню гоман святла,
толькі гэтага мала.
Так мала, так мала, так мала...

### Ліст у Ялту

Домік твой на месцы, Максім.
І магіла маці ў парадку.
Ты ўваскрэсні ў гродзенскім парку!
Ты ж тутэйшы,
ты гродзенскі сын.

Калі цяжка ў Ялце ляжаць —
не пясочак у нас, сенажаць!
Прылятай да маці Марыі,
хай вас хмары над дрэвамі крыюць.

Без цябе няма сэнсу маліцца
на іконы ды абразы.
Беларусі няма. І не сніцца.
Толькі пыл ад старой іржы.

### Слімак

На лузе дзядзька статак пасе.
Дробненькі дожджык
ватоўку змачыў.
Слімак па лістоце адвольна паўзе.
Алкагалізм паэт падлячыў.

Стаіць на ганку і паліць ён.
Глядзіць на дзядзьку —
бачыць народ.
Сніцца і ўдзень яму вечны сон
пра Астрожскага
і на Смаленск паход.

Дзень святы. Думкі далёка пруць.
Трызна.
Паўсюдна сягоння гжэчна.
Слімак паўзе. Жыве Беларусь.
Цяпер і прысна, і вечна.

Віктар КАРАМАЗАЎ

# "Мяне ўспомні і загляні ў вёску"

БЛАКІТ ЗЗЯЎ, бытта ясная раніца ў чыста вымытым і яшчэ вільготным акне, грэўся ў вохрыста-фіялетавых водсветах сонца. Водсветы дзе гусцелі, дзе драбніліся і раставалі, а блакіт заставаўся празрысты і цэласны.

Жукоўскі расплюшчыў вочы.

На кафлевай панелі каміна ў разнаколерных, багемскага шкла, вазачках блішчалі, як жывыя, лясныя фіялкі. На іх глядзеў з захапленнем: ці не кветкі і бачыў заплюшчанымі вачыма, адпачываючы ў любімым чырвоным крэсле. Праўда, яшчэ бачыў і срабрыста-агатавыя плямкі, якіх не было ў багемскім шкле. Яны адкуль? Можа, там вясновыя кветкі з Каскаўскіх бярэзнічкаў, што каля Удомлі, вакол белай Бірулевай дачы, дзе паветра лясное, са срабрыстым пылком хваёва-бярозавага падлеску, у той час як тут, на старых шафранавых кафлях, грэлася паветра Варшавы. І яшчэ — Марыі. У вазачках стаялі яе кветкі. А чые ж тыя? Тыя — дыханне Юлі Турчанінавай з Астравенскага возера? Ці маладзейшае — Тоніна, з Песьво? Ці нават зусім маладзенькае — Кацечкі Белярмінавай?

Жукоўскі ўстаў з крэсла і падышоў да акна. Неба за акном — блакіт з вохрыста-фіялетавымі рэфлексамі, як паветра ў фіялках і вакол іх, хоць сонечны дыск сплыў за вастралікую готыку касцёла дзевы Марыі. Прайшоўшы па пакоі, пастаяў перад камінам, загледзеўся на вазачку, у якой, прытуліўшыся адна да адной, нібы цнатлівыя панначкі, у светла-вохрыстай, ад колеру шкла, вадзе стаялі грацыёзна-танклявыя фіялкі. Здзівіўся, якія вытанчанасць і гармонія ў жывое натуры! А песня? Адкуль яна? Чый званочак чуваць? Падышоў зноў да акна: нікога няма? Ах, тое ж было ўчора: Імрэ Кальман, "Фіялка Манмартра", фіялкі на грудзях у Марыі. Тады ён, пачуўшы чароўны голас, расчыніў акно. Пад каштанам, пад акном, убачыў жаночую постаць і закрычаў: Панна Гелена! Я куплю вашы фіялкі! Вуалька павольна паднялася над жаночым тварам, і ён пазнаў павернуты да яго, яму насустрач, смуглявы тварык Марыі. Як мог падмануцца? Быў падумаў, што фіялкі пад акном прадавала Гелена, дачка пана Людвіка, які з сям'ёй нядаўна пераехаў сюды, у Варшаву, з Расіі ўцёк, як і ён, Жукоўскі, ён — дзесяць гадоў назад, ад новых рэвалюцыйных парадкаў і чарнасоценных жахаў. Гелена, каб пражыць, часта прадавала на вуліцы кветкі. Але цяпер там была Марыя — таксама руская эмігрантачка. Яна прыціскала да грудзей букет і смяялася, гарэза, з яго, падманутага, а ўтаймаваўшы малады смех, заспявала: "Купіце фіялкі..." — і людзі, што ішлі па тратуары, спыняліся і слухалі, пазнаючы любімую аперэтачную актрысу.

Калі ён адчыніў дзверы і яму насустрач Марыя працягнула рукі з азярцом ляснога блакіту — кветкамі, ён схапіў яе, закружыў, не зважаючы на яе страхі і мольбы: Кветкі, Станіслаў! І толькі не на канапу! У мяне рэпетыцыя!..

Ах, Марыя!.. Як шмат ты мне ўчора прынесла! Свет, цэлы свет у лясных кветках. І сама лесам вясновым прапахла.

Ён яе адпусціў. З любові да тэатра, да Кальмана? Але адпускаць не хацеў. Нават паспрабаваў затрымаць, ахвяруючы тэатрам і Кальманам. Пакуль яна ставіла кветкі ў вазачкі, ён адкаркаваў у гасцёўні бутэльку з віном, але калі вярнуўся ў свой пакой, Марыі ўжо не было.

А што яшчэ было? Пасля, як любачка збегла ў тэатр?

Яе кветкі не прынеслі яму ні спакою, ні натхнення да працы. Ён неаднойчы ўпарта, нібыта бык на чырвонае, ішоў на жанчыну, авалодваў ёю, прадчуваючы, як прагна пасля гэтага кінецца ў свет колераў і святла, як апантана будзе пісаць, пісаць — як кахаць, і гэтак бывала, пісаў — як кахаў, пераліваў вар'яцкае пачуццё з аднаго сасуда ў другі сасуд, але ўчора гэтак не адбылося — працаваць пасля сустрэчы з Марыяй не змог. На мальберце стаяў пейзаж, пачаты вясною пад пушчаю на Пружаншчыне, у родных мясцінах, пейзаж быў схоплены на натуры і не дапісаны па свежых уражаннях тым настальгічным пачуццём, можа, таму і недапісаны, што пачуццяў, якімі хацеў напісаць, не хапала. Былі ідэя і абавязак. Усё ж — роднае. Але сэрца маўчала. Чаму? Хто і што вінаватыя? Бацька? Ягонае неразуменне сына, ледзяная жорсткасць, ад якой сын пакінуў родны дом без шкадобы? І як сілы ў сабе знайшоў, каб паміж бацькавай воляй і жывапісам даць перавагу жывапісу? Бацька быў рашучы: або ён — або жывапіс. І ўсё ж Станіслаў не выракся ні бацькі, ні жывапісу. Бацька выракся сына-маляра. Дык ці не гэтая рана стала віною таго, што амаль усё, напісанае на бацькаўшчыне, самому не падабалася?

І ўчора дзень змарнаваў. Колькі разоў падыходзіў да мальберта, браўся за пэндзлі, а думкі ўсё пераскоквалі праз пушчанскі матыў і Высокую Волю, сядзібу маленства, патаналі ў іншых вёснах — на берагах Акі і Волгі, у азёрным цвярскім краі. Сэрца жыло там.

Увечары, як сцямнела, уключыў настольную лямпу, адну з вазачак пераставіў з каміна на стол і сеў за стол. Соня, жонка, была ў вёсцы, у кватэры панавала ціша, пра якую і сказаць, што гэта — ціша, ці можна, бо яна — большае, як ціша, яна — паветра і ахоўніца душы і карцін. Адчуўшы гэта, ён паклаў перад сабою на стале аркуш чыстай паперы, узяў ручку з залатым пяром, падараную чамусьці не Марыяй, якая вельмі любіла з нагоды і без нагоды што-небудзь дарыць свайму куміру, і не Соняй, якая так добра ведала ўсе яго святы і капрызы, а Стэлаю, якая ніколі не памятала нават дзень і месяц, у якіх жыла, тым больш — святы блізкага чалавека, а кахала яго, Станіслава, як Соня казала, за напісаныя ім пейзажы роднага Палесся, роднага яму і ёй, бо і яе Палессе падарыла Варшаве. Залатое пяро апусціў у цяжкую, з чырвонага кварцыту, чарніліцу і буйнымі літарамі вывеў:

*Дарагі Вітольдзік, брат мой духоўны!*

Задумаўся. Брат духоўны? Напісаў адразу, не падумаўшы, з якіх слоў пачынаць ліст, але, калі б падумаў, хіба мог бы знайсці словы большае шчырасці і большае дакладнасці? Больш шчырых і дакладных у першы радок не існавала. Акрамя таго — гэтым словам не мог не паверыць Бірулька.

Задаволена ўсміхнуўся і далей палілося ў тым самым настроі:

*Твой ліст — лірычны і рамантычны твор. Па глыбіні адчуванняў і назіральнасці ён вышэй за Тургенева. Усім, хто ведае Расію, я даю чытаць яго як узор глыбіні і змястоўнасці пачуццяў рускага рамантыка, паэта, мастака. Панна Яніна ў захапленні ад ліста, прасіла даць пачытаць маці, калі тая вернецца ў Варшаву. Граф М., муж мае красуні, з кіяўлян, таксама чытаў ліст і, сустрэўшы мяне, казаў, што некалькі дзён жыў пад моцным ад яго ўражаннем. Захаваю ліст як рэліквію прыгажосці душы паэта-мастака.*

Ён шоргаў шуфлядамі стала і шуфлядамі сакрэтніка, шукаючы ліст ад Бірулі, і не знаходзіў. Успомніў, што ліст чытаў Ляксандра, брат Вітольда, і пэўна не вярнуў. Гэта супакоіла: ліст, калі ў Ляксандры, не згубіцца. Але думкі ляцелі далей-далёка і не кладліся ў працяг тых, што ўжо высыпалі на паперы. Выйшаў з-за стала, сеў да каміна і распаліў агеньчык.

А яшчэ Марыя тэлефанавала пасля рэпетыцыі, запрашала на вячэрнюю прэм'еру ў тэатр. Ён адмовіўся, бо не хацеў выходзіць на людзі з Марыяй, калі Сонечка ў вёсцы. Сказаў, што працуе. Яна іранічна спытала: забіў фантан? Ён адказаў, што яшчэ не фантан, але тое-сёе знайшоў і не можа згубіць, адарваўшыся ад мальберта. Яна патэлефанавала пасля прэм'еры, і ён, не падумаўшы, як гэта недарэчы, запрасіў яе да сябе. Яна адказала, што не адна. Ну, вядома, хіба прымадонна магла быць адна пасля прэм'еры? Дзякуй за тое, што ўспомніла: падала голас. Адзін прасядзеў да поўначы, грэючыся ад агню ў каміне і ад успамінаў пражытага.

Усё гэта было ўчора. А сёння? Працяг учарашняга? Сёння ён зусім не падышоў да мальберта. Ці эцюд не падпускаў да сябе аўтара, думкі і пачуцці якога пільнавалі іншыя пейзажы? Але на стале ляжаў пачаты ліст да Бірулі, і гэта было ратункам ад ляноты сэрца і галавы. Сеў за стол. Спачатку глядзеў на фіялкі ў вазачцы, любаваўся імі, з іх дапамогай разводзіў цяпельца ў сэрцы, а потым, як сэрца развярэдзілася, адтаяла, схапіў ручку з тым самым залатым дзюбікам — падаруначак залатавалосае Стэлы, — даў на дзюбік фіялетавую кроплю з чарніліцы і, прабегшы вачыма па напісаных радках, ім у працяг зрабіў яшчэ адно адкрыццё:

*Ліст, які я атрымаў ад цябе, можа напісаць толькі закаханы. Я лічу, што чалавек, калі кахае, здольны ўзняцца да неверагодных вышыняў духу.*

Нібыта выдыхнуў тое, што даўно хацеў сказаць. Аж здрыгануўся. Паклаў ручку на стол, спіною адкінуўся да спінкі крэсла і са шчаслівай рашучасцю падумаў, што гэта ён ведае, можа, як ніхто іншы з сяброў, як ніхто, акрамя Бірулькі, і што Бірулька ў гэтым разумее свайго Жукавіні. Іншыя могуць таксама ведаць, але не могуць сказаць. Няма каму? Што значыць: няма каму? Калі няма каму блізкаму, крыкні ў пустэчу, так крыкні, каб там, у пустцы, паўсталі і зацвілі сады ад твайго шчырага крыку. Як гэта і было ў іх абодвух. Было — цвілі сады.

Успаміны зноў, нібы сарваўшыся з ланцуга, шуганулі далёка ў маладосць, але Жукоўскі ўпарта павярнуў іх назад і далей напісаў тое, што мог напісаць аднаму Бірулю:

*Жыву дзеля жанчын і да работы натхняюся з думкаю аб прыгожай жанчыне. Калі не будзе гэтага допінгу, то і жыць не варта.*

Занадта шчыра ці празмерна рашуча? Тое, што занадта і празмерна, — мана? Тут — мана ці праўда? Без жанчыны не жыццё? Хто ягоным голасам кажа: абывацель, дэндзі, мастак? І ці тое сказаў, што хацеў пачуць сябра, даўшы сваім лістом падставы абмяняцца думкамі на гэтую тэму? Сябра шчыры, але і яму, Жукавіні, хіба калі-небудзь не ставала шчырасці? Ніхто з іх адзін аднаму не маніў, не крывіў душою дзеля таго, каб дагадзіць. Рабамі сяброўства не былі. Даражылі сяброўствам, але яшчэ мацней даражылі свабодай і незалежнасцю. Тут была згода. І не дзіва. Адна ў белых вопратках бацькаўшчына, адна вера, у касцёле і мастацтве, адны класы на Мясніцкай і настаўнікі, адна маці-прырода. Гэта — мала? А жанчыны хіба не ядналі?

*Паненак нам трэба ўжо забыць. Гэта не жанчыны, а хлапчукі ў штанах, да таго ж яны не жадаюць і не ўмеюць глядзець за сваім целам, і ад іх пахне потам і цыбуляй. Нам з табою, эстэтам-мастакам, патрэбна культурная прыгажосць, і таму ўсіх паненак трэба пакінуць студэнцікам.*

Жукоўскі зноў адкінуўся да спінкі крэсла, заклаў рукі за галаў, сашчапіў на патыліцы, узняў вочы да столі і засмяяўся. Што ж, яны дазвалялі сабе і не такія жарцікі. Мастакі-эстэты!..

Задумаўся. Культурная прыгажосць? Гэта — пра каго? Ну, вядома — Жэня. Чаму пра яе ён ніколі не спытаў у Бірулькі? І чаму пра яе ні разу нічога не паведаміў Бірулька? Дзе яна?

Жукоўскі схіліўся над аркушам паперы і напісаў:

*Ну як не ўспомніць сястрыц Філімонавых — гэта тое, што нам трэба! Няўжо, дружа, ты не спрабаваў знайсці яе? Дзе яна? Што з ёю? Мне гэта так цікава! Напішы.*

Позірк схаліў на стале вазачку з фіялкамі і доўга не мог ад іх адарвацца. Якія падобныя да людзей бываюць звычайныя рэчы ці істоты. Як вазачка з фіялкамі — да Жэні Філімонавай. Вытанчанасць і гармонія форм, пластыка ліній, каларыт цёплы і мяккі. А водар? Не чуеш парфумы. Натуральны водар, нібы тут кветнік, мноства кветак і ніводная фарбачка не вылучаецца, не крычыць, усё да дробязі тое і ў той меры, каб гучаў твор — стварэнне прыроды, хоць гэта і чалавек, хоць і вазачка з кветкамі. **Яна** — Жэня. А **яна** — Таня? Спачатку была Таня, Тацця́на Паўлаўна, і Таня была ў Бірулькі. А ў Тані была сястрычка Жэня. Аднойчы яны ўтраіх знайшлі Станіслава. Бірулька-павучок звіў, як казала Жэнечка, сіло на Стасіка... Як яму ўдалося?

Вітольд прапанаваў сесці на цягнік і з'ездзіць да знаёмага лесніка ў Кісяліху, вёсачку маленькую і чысценькую, там папісаць, заначаваць і праз дзень вярнуцца ў Маскву. Яны павінны былі сустрэцца раніцай на Яраслаўскім вакзале, і калі ён, Станіслаў, прыйшоў у рабочай вопратцы — стары плашчык, шэрая ярмолка на галаве, эцюднік на плячы і на другім плячы баул з неабходнымі ў маленькім падарожжы рэчамі, — на пероне ўбачыў Вітольда з дзвюма цудоўнымі дамачкамі. Быў дзень вясны, пачатак мая, грэла сонейка, нават ужо і занадта, і Вітольд трымаў над райскімі птушачкамі вялікі мастакоўскі парасон, расквечаны ўсімі колерамі палітры. Ён штосьці ім гаварыў, а яны туліліся адна да адной слаўнымі галоўкамі ў белых капялюшыках і былі, як заўважыў Станіслаў, захопленыя байкамі сябра. Станіславу абедзве спадабаліся, але здзівіўся іх абсалютным падабенствам і вопраткаю, і грацыямі, і тварыкамі. Двайняты? Была між імі адна розніца: бліжэйшая да Вітольда, якую ён трымаў падручкі, стаяла з адкінутай на капялюшык срабрыстай вуалькай, а другая была без вуалькі. Калі Станіслаў падышоў да іх, яны, далікатна яго агледзеўшы, рассмяяліся. Вітольд прадставіў сябра як славутага мастака і заваёўніка жаночых сэрцаў, а іх — проста Таню і Жэню, ахвяраў жывапісу і жывапісных мужчын. Станіслаў падтэкст зразумеў. Ён сапраўды жывапісна выглядаў на іх фоне ў сваім паношаным балахоне і

(Працяг на стар. 14-15)

## ЗГАДКІ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

Можа, чытач і даруе, што я гэтак раблю: з-пад пішучай машынкі бяру пачатак аповесці, яшчэ і ў чарнавым выглядзе не закончанай, і аддаю ў "ЛіМ". Яшчэ тут дзе-недакладныя, дзе лішнія слоўкі, недзе не тая музыка, не габляваны стыль, яшчэ можна, чытаючы, за купіну зачапіцца, у яміну праваліцца, як на няроўнай дарозе... Але што рабіць, калі ўчора вярнуўся са свае правінцыі, а сёння — з рэдакцыі званок, дзе падзеўся? Нумар газеты юбілейны, а ты ж быў лімавец, нясі хутчэй што-небудзь у нумар. Што несці, калі напісаць ужо не паспею, а гатовага няма? Вось і хапаюся за недапісанае, нявылежанае... А яшчэ ж і раскажы, як працаваў у "ЛіМе", былое ўспомні. Калі ўспамінаць? Ратуе, што ўспомняць іншыя. Быў бы час — і я што-небудзь расказаў. Ну, хоць і пра тое, як Алесь Бажко асмеліўся ўзяць мяне, контрыка, па восені ў 1969 у "ЛіМ" "літрабам" і загрымеў за гэта ў ЦК на галавамыйку. Ці як аднойчы да мяне ў аддзел культуры заходзіць рэдактар Леанід Прокша і кажа: з Гродні звоніць Быкаў, просіць узяць на работу Волю Іпатаву, а ў нас вакансія адна, у тваім аддзеле, дык ты ці згодны? Кажу, што крэсла гуляе, стол гуляе — можна ўзяць. І вось мы з ёю ў адным аддзеле. Хлопцы, маладыя пісьменнікі да нас пасыпалі. Без матэрыялаў у газету — на яе паглядзець. А яна маладая, прыгожанькая...

Часцей заходзіў Міхась Стральцоў. На стол пляшачку паставім, нальём па чарачцы — гамонім. А тут аднойчы завітвае рэдактар. Пасля ён мяне папракнуў: чаму не зачыняемся на ключ? А мы, выпіваючы, ніколі не зачыняліся, не было таго, што ў іншых, звычаю. Рэдактар разгубіўся, зачырванеўся. Я да яго, чарачку паднюшу. А ён — за дзверы, як вінаваты. Толькі прамовіў мне ў дзвярах: нікому не кажыце, што я ў вас быў. Слаўны быў чалавек — Леанід Януаравіч. Можа, не вялікі літаратурны талент, але паважаў іншыя таленты, не лез у душу, не павучаў, кожнаму даваў волю, і мы, лімаўцы, яго паважалі.

Але што за старонкі я сёння прапаную ў "ЛіМ"? Гэта пачатак невялікай аповесці без сюжэта пра выдатнага жывапісца з нашага Палесся, з Пружаншчыны — Станіслава Жукоўскага. Ён быў самы блізкі сябра другога нашага класіка жывапісу — Бялыніцкага-Бірулі, і калі я пісаў кнігу пра Бірулю, то радаваўся і знаёмству з жывапісам Жукоўскага. Цяпер тую радасць хачу выліць у твор пра яго.

## Стыхія яго — стылістыка

**Сваё 75-годдзе сустрэў вядомы мовазнаўца, доктар філалагічных навук, прафесар Міхась Цікоцкі, сын кампазітара Яўгена Цікоцкага. Нарадзіўся Міхась Яўгенавіч у Бабруйску, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. У 1950 годзе М. Цікоцкі скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. З 1950 па 1952 год працаваў у рэдакцыі газеты "Калгасная праўда". З 1953 года — выкладчык, з 1965-га — загадчык кафедры тэорыі і практыкі савецкага партыйнага друку, з 1969 года загадваў кафедрай стылістыкі і літаратурнага рэдагавання. Добра вядомы такія працы М. Цікоцкага, як "Некаторыя выпадкі стылістычнага выкарыстання сінтаксічных сродкаў беларускай мовы" (1958), "З гісторыі беларускай журналістыкі XIX стагоддзя" (1960), "Практычная стылістыка беларускай мовы" ў дзвюх частках (1962—1965), "Стылістыка публіцыстычнага жанру" (1971), "Сугучнасць слоў жывых..." (1981)...**

## "Беларуская Энцыклапедыя", том трэці

**Пабачыў свет трэці том "Беларускай Энцыклапедыі", выпуск якой, як вядома, запланаваны ў 18 тамах. Як і папярэднія, ён аб'ёмны — амаль 88 з паловай улікова-выдавецкіх аркушаў, цудоўна аформлены — змешчана 994 каляровыя і чорна-белыя ілюстрацыі, з якіх — 230 партрэтаў, 80 картаў.**

**У томе прадстаўлены артыкулы ў межах найменняў "Беларусы" — "Варанец". Што да першага, дык у ім падрабязна расказваецца пра беалрусаў як нацыю: фарміраванне і развіццё беларускай народнасці, фарміраванне беларускай нацыі, развіццё яе ў XX стагоддзі. А "Варанец" — род кветкавых раслін, што належаць да сямейства казяльцовых. Дарэчы, іх налічваецца каля 10 відаў, а на Беларусі зрэдку трапляецца так званы варанец каласісты.**

**Вялікую цікавасць выклікае артыкул "Беларусь, Рэспубліка Беларусь", у якім падрабязна і аб'ектыўна расказваецца пра нашу дзяржаву ў самых розных аспектах. У якасці падраздзелаў ідуць артыкулы, прысвечаныя і культурна-асветным установам, друку, радыё, тэлебачанню, навуцы, літаратуры, архітэктуры, выяўленчаму мастацтву, музыцы, тэатру, кіно...**

**І, канечне ж, можна прачытаць пра іншыя краіны — Бельгію, Бразілію... Ёсць магчымасць даведацца пра знакамітых навукоўцаў, дзяржаўных дзеячаў, пісьменнікаў, работнікаў культуры.**

**"Беларуская Энцыклапедыя", як вядома, — выданне універсальнага характару, і гэты прынцып, зразумела, вытрымліваецца пры падрыхтоўцы чарговых тамоў. Дарэчы, набыць іх можна і непасрэдна ў выдавецтве па адрасе: Мінск, вул. Скарыны, 15-А. Прытым значна танней. Для прыкладу: гэты том каштуе менш за 70 тысяч "зайчыкаў".**

## Наш народ і іншыя...

**Настаўнікам, выхавальнікам, бацькам — усім, хто шчыра зацікаўлены ў адраджэнні народных традыцый, у выхаванні падрастаючага пакалення, адрасуецца вучэбна-метадычны дапаможнік В. Цітова "Этнаграфічная спадчына", які мае падзагаловак "Беларусь. Краіна і людзі". Гэтае выданне цікавае тым, што ў ім прыводзяцца асновы этнаграфічных ведаў пра беларускі народ, расказваецца пра багатую нацыянальную культуру, якая фарміравалася ў старажытнасці. Чытачы пазнаёмяцца з асноўнымі паняццямі ў этнаграфіі, даведаюцца пра асаблівасці этнагенезу і этнічных працэсаў на Беларусі, яе геапалітычнае становішча і этнічную тэрыторыю, а таксама пра міжэтнічныя стасункі і сувязі з іншымі народамі — рускімі, палякамі, украінцамі, яўрэямі, татарамі і іншымі, якія здаўна ў дружбе і згодзе жывуць поруч з беларусамі на нашай зямлі.**

# Выхоплівау жывыя эпізоды

***Уладзімір Андрэевіч Крук адпрацаваў у нашай газеце 40 год — з 1951 па 1991. Дзякуючы прафесіі фотажурналіста ён стаў сапраўдным летапісцам літаратурнага жыцця і многіх перыядаў існавання "ЛіМа", абумоўленых як грамадска-палітычнымі падзеямі ў краіне, так і суб'ектыўным фактарам — асобамі галоўных рэдактараў. Уладзімір Андрэевіч настолькі звыкся з мовай фотафактаў, што разгаварыць яго было справай нялёгкай. Тым не менш, і на пытанні ён адказаў, і перабраў свой вялікі архіў, каб аздобіць юбілейныя палосы непаўторнымі імгненнямі мінулага...***

**— Як вядома, нічога выпадковага не бывае. Які невыпадковы збег акалічнасцяў прывёў вас у "ЛіМ"?**

— У час вайны мяне забралі ў армію, дзе я праслужыў 6 гадоў. У Германіі пайшоў на курсы шафёраў. Тэхнікі было шмат, а людзей мала. У 1949 годзе нас дыслацыравалі ў Бабруйск. На ўкладную вайсковую кніжку ў мяне за ўвесь час набегла 700 рублёў. Думаў, што купіць — ці новы касцюм, ці фотаапарат. Выбраў "Зоркі" (ён дасюль у мяне захаваўся).

Пры "ЛіМе" тады была свая бухгалтэрыя — кожны тыдзень плацілі ганарар — і свой "Масквічок". Немалады ўжо шафёр Барыс Смольскі сагітаваў мяне пайсці на сваё месца.

**— Такім чынам вызначылася месца працы, але не прызванне...**

— Рэдактарам тады быў Васіль Вітка. Ён часта ездзіў да маці ў Еўлічы (16 км ад Слуцка). Ставіўся да мяне паважліва, на "вы". І прыкмеціў, што я фатаграфую. Аднойчы дае мне заданне — зняць Слуцкі Дом культуры. Гэта быў мой першы здымак для "ЛіМа" (1952 г.) Фотакарам быў тады Ізя Салавейчык. Не столькі быў, колькі лічыўся, бо прыходзіў у рэдакцыю мо раз на тыдзень. А я развозіў начамі тыраж — з друкарні ў экспедыцыю Дома друку і паралельна пачаў рабіць здымкі. Восенню 1955 года адбылася першая нарада маладых, прысутнічаў сам Якуб Колас. Гэта было першае маё адказнае заданне. А як жа — жывы Колас! 1 снежня 1957 года ўжо пры Ткачове мяне залічылі ў штат фотакарэспандэнтам.

**— І пачалася стаханаўская працоўная вахта?**

— Так. Усе вечары, сходы, пленумы, дэкады, тыдні, літаратурныя святы (у розных рэспубліках), усе спектаклі, канцэрты, госці — усё гэта трэба было адзняць. Прычым аператыўна, а не так, як цяпер: можна ў нумар, а можна і праз два. Скажам, калі МХАТ у сем раніцы прыязджаў на гастролі, то здымак ішоў таго ж дня ў нумар. Усё — з плеч у печ. Лячу, напрыклад, у Рыгу, а ў Мінску непагадзь, аэрадром не прымае. Не ляцець жа мне ў Кіеў без перасадкі! Раптам сустракаю землякоў, даведваюся, што самалёт з Ленінграда замест Мінска пасадзілі ў Рызе. На ім мы 35 хвілін кружылі над Мінскам. Потым бягу дамоў, тэрмінова праяўляю здымкі... А яшчэ я аб'ездзіў усе літаратурныя мясціны — ад Купалы, Коласа, Танка да Багрыма, Цёткі, Багушэвіча...

**— Ці былі ў вас, Уладзімір Андрэевіч, асабістыя сябры сярод пісьменнікаў?**

— Былі. І першым я назаву Івана Мележа. Кантачыў ён не толькі з начальствам, увогуле любіў пагутарыць з людзьмі. Часценька я бываў у яго ў будынку старога СП, што на Энгельса, і купіў у яго, дарэчы, патрыманую "Волгу", на якой езджу і цяпер. Мы па чарзе вялі машыну, калі ездзілі на яго радзіму ў Глінішчы, прычым строга вытрымлівалі хуткасць 70 кіламетраў у гадзіну. Спыняліся ў яго стрыечнай сястры, бо маці памерла. Вадзіў мяне па ваколіцах, паказваў, дзе былі балоты. Надзвычай справядлівы быў, сумленны. У размовах у яго выяўлялася тое, што не праходзіла ў творах: нязгода з камуністычнымі парадкамі. І такое памятаю — у Глінішчах паказаў на жанчыну: "А вунь прататып Ганны". Але сфатаграфаваць не дазволіў: не трэба.

Сябравалі мы і з Андрэем Макаёнкам. Шчырай душы чалавек. Быў ён тады разведзены і жыў на дачы разам з катом Маркізам. У вядры з вадою заўсёды ляжала срэбраная манета — для ачышчэння. Неяк летам звоніць, запрашае да сябе: "Прыязджай, у мяне тут Верачка". Думаю, што за Верачка? Аказалася, усе удзельнікі спектакля! Рады быў заўсёды, як завітаю. Зімою прыручыў сінічку, яна брала ў яго частунак спачатку з рук, а пасля, асмялеўшы, з вуснаў. Я хацеў на кіно зняць гэты эпізод, але не паспеў: вясна прыйшла і сінічка знікла...

Перад ягонай старой дачай на еўрапейскі манер распасціраўся зялёны газон. За ёй — гаспадарчы двор, дзе ён майстраваў,



*Ля вогнішча. А. Александровіч, М. Лынькоў, У. Крук. Нарач, 1964 г. Здымаў М. Танк.*

# "Мяне ўспомні і загляні ў вёску"

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

пад ярмолкай маскоўскага балагола ці фурмана, і адказаў, што сябра пазнаецца ў бядзе, даўшы зразумець Вітольду, які ён аказаўся парсюк. Станіслаў не сумеўся перад мілымі дамачкамі ад свайго балагольска-жывапіснага выгляду, як не сумеўся і Вітольд,і ў вагон садзіліся весела. Калі поезд пайшоў, Станіслаў спахапіўся, што яго ярмолка нібыта прырасла да шавялюры, змахнуў яе рукой з галавы, і тады Таня, якая сядзела насупраць у куточку купэ, вышэй прыўзняла над разумным лобікам вуальку. Ён спытаў: вы не маглі адразу адкрыцца перад просталюдзінам балагольскага тыпу? Калі ж я скіну яшчэ і свой андарак? Яна адказала, што за вуалькай не хаваецца ні ад просталюдзінаў, ні ад жывапісцаў, хоць у яе ўзросце гэта не забараняецца. Ён здзівіўся: які ж тут узрост? Аказалася, што Тані васемнаццаць, і што яна хацела сказаць не пра ўзрост, а пра сваё сямейнае становішча, бо замужам і муж на фронце, марскі афіцэр. Тады Станіслаў адказаў, што ён не з мужных і смелых, баіцца дуэляў за жанчын, тым больш — з марскімі афіцэрамі, але затое яго сябра не баіцца не толькі марскіх ваўкоў, але і таежных мядзведзяў. Таня крыху збянтэжылася, што нечакана адкрылася. Можа, гэтак адбылося таму, што ўжо раней адкрылася Вітольду? Станіслаў здагадаўся: гэта і была Вітольдава атрута, за якою зімой, на Калядах, ён па ўсёй Маскве ганяўся на ліхачы, калі ўбачыў яе ў экіпажы з марскім афіцэрам. І, каб супакоіць Таню, паглядзеў у акно вагона і заўважыў, што яснае неба робіць яснейшымі яго пачуцці і думкі, што гэтакую пару вясны, майскую, ён любіць за песню хрушча, як той спявае: ж-ж-ж... — і таму прозвішча ў яго таксама ад хрушча: Ж-ж-жукавіні. Таніна сястрычка, якая дагэтуль сядзела ціхенька, не ўстраючы ў размову, усклікнула: я таксама люблю хрушча і яго песеньку — Ж-ж-жэня я! Усе весела зарагаталі ад гэтай яе непасрэднасці, і Станіслаў дадаў: у нас з вамі, Жэнечка, дуэлі не будзе, а першы мой пейзаж-ж — важ-ж. І гэтак атрымалася. Яго той ранішні пейзаж аказаўся ў Жэні. Праўда, перад тым яшчэ былі гульня і гаданні. Жэня і Таня атрымалі на суд два эцюды і кожная з іх, не ведаючы, дзе чый, павінна была выбраць сабе адзін з двух. Жэня выбрала эцюд Станіслава, а Таня — Вітольдаў. Чый выбар аказаўся больш шчаслівы?

Праз год Таня пахавала ў Санкт-Пецярбурзе мужа, прывезенага ў дамавіне з руска-японскай вайны, і там засталася. А Жэня жыла ў Маскве і Станіслаў доўгія гады быў ёю хмельны. Таня прыязджала ў Маскву, яны сустракаліся ўчатырох, але яна ад'язджала зноў — Вітольд перажываў разлукі. У іх было каханне. І было каханне ў яго, Станіслава, з Жэняй. Гэта былі цудоўныя жанчыны, якіх ні ён, Станіслаў, ні Вітольд забыць не маглі, і таму цяпер Станіслаў меў і права, і жаданне спытаць у сябра:

*Няўжо, дружа, ты не спрабаваў знайсці яе? Дзе яна? Што з ёю? Гэта тое, што нам трэба!*

Але чаму напісалася **яна**, а не **яны**? Так, ён, Станіслаў, пытаўся пра Жэню. Таня выйшла замуж другі раз, зноў за марскога афіцэра, і ў васемнаццатым пакінула з мужам Расію. Ці ведаў Біруля, дзе яна, у якой краіне? Мог адшукаць у Маскве Жэню і ў яе дазнацца пра далейшы лёс Таццяны. Цяпер жа ён, Станіслаў, мог спытацца толькі пра сваю Жэню:

*Дзе яна? Што з ёю? Мне гэта так цікава! Напішы.*

І яшчэ, успомніўшы тое знаёмства, пытаўся пра вёсачку Кісяліху. Гэтак у іх было заўсёды: дзе жывапіс і прырода — там каханне, дзе каханне — там жывапіс і прырода.

*Я б страціў розум ад радасці, калі б апынуўся з табою ў Каскаўскіх ці Якаўлеўскіх бярэзнічках, дзе на вільготных, памежных з лугам ускрайках цяпер цвіце лясная фіялка. Пішу, а перада мною на стале ў вазачках гэтыя самыя па фарбах сціплыя, але з якім рамантычным водарам кветкі. Самыя высакародныя з кветак!*

Звычайна пра любімыя кветкі гаварыў фарбамі, пэндзлем, а цяпер — словам. Яго, на эцюдах, фіялкі Вітольд любіў, і тое, што нагадаў пра іх у лісце, павінна было таксама расчуліць сябра, ажывіць у памяці шмат якія эцюды і карціны, хоць бы і "Радасны май", дзе чысты і светлы пакой, вокны адчыненыя ў сад, на падваконніку скрыні з фіялкамі. Хай успомніць. Фіялкі пісаў не толькі ў вёсцы, як гэтыя, у Гарусаве ды Беражку, але і ў свае маскоўскай кватэры на Гогалеўскім бульвары, у гасцёўні, якую сам любіў і любілі сябры — шкада, што карціна ў Піцеры ў прыватным зборы. Там фактурныя ўльтрамарынавыя сцены, па іх — партрэты ў пазалочаных рамах, мэбля чырвонага

## Скрыпка, клавесін, арган...



**Бываюць у мітуслівым нашым жыцці хвіліны, калі хочацца застацца сам-насам з чымсьці святым, чыстым і светлым. І тады людзі прыходзяць у канцэртную залу, або ў тэатр, або чытаюць цудоўныя кнігі... Нядаўна я пабывала на канцэрце, які давалі ў Зале камернай музыкі сталічнай філармоніі Аляксандр Мільто (ён іграў на клавесіне і аргане) ды Вячаслаў Зяленін (скрыпка). Здаецца, прызначэнне такіх майстроў — несці святло, дабрыню людзям, прымушаць хвалявацца сэрца, суперажываць мастацтву, глядзець на свет іншымі вачамі.**

**Музыка, прадстаўленая ў іх праграме пад назваю "Мінскія прэм'еры майстроў барока", гучала ў нашай сталіцы ўпершыню. Калі слухаеш цудоўны ансамбль скрыпкі ды аргана ў храме, перад святым Роскрыжам, здаецца, што няма навокал нікога, што ёсць толькі гэтыя гукі, святыя сцены і аблічча Хрыста. Загучаў клавесін — і здаецца, што ўвесь свет пяе "Алілуя!"**

**Увогуле ж, было адчуванне, што не клавесін, арган ды скрыпка, а нават камерны інструментальны ансамбль іграе. І не ў гэтым тлумным стагоддзі ўсё адбываецца, а там, у эпоху барока. Экспрэсіўнасць музыкі Джамініяні адцяняла трагізм і моц Лакатэлі, а вясёлая галантнасць Бранша кантраставала з душэўнай шчырасцю Тарціні. Зачаравалі п'есы, выкананыя музыкантамі на "біс": задуменная харальная прэлюдыя Вівальдзі, гарэзлівае "Ронда са званочкамі"...**

**Музыканты былі адзіныя ў сваім майстэрстве, дапаўнялі, суправаджалі адно аднаго, выяўляючы душу кожнага твора. Няхай жа сустрэчы з імі ў канцэртнай зале не будуць рэдкія і радуюць прыхільнікаў мастацтва яшчэ неаднойчы.**

**В. МАДЭСТАВА**

## Юбілейныя даты

**З 1994 года Нацыянальная бібліятэка Беларусі выдае дапаможнік "Знамянальныя і памятныя даты сусветнага календара". Кожны яго выпуск прапануе матэрыялы, прысвечаныя датам года і найбольш значным падзеям. У выпуску на 1997 год прадстаўлены матэрыялы да юбілеяў М. Балакірава, С. Каралёва, П. Сямёнава-Цян-Шанскага, Жана Батыста Мальера, В. Верасаева, Ф. Шуберта, Леанарда да Вінчы, В. Салаўёва-Сядога, І. Крамскога, П. Рубенса, І. Айвазоўскага, Дж. Голсуорсі, Б. Пруса, К. Цыялкоўскага, У. Фолкнера, Л. Арагона, С. Сервантэса, Ж. Філіпа, Г. Гейнэ. Да кожнай даты даецца грунтоўная даведка аб жыцці і творчасці юбіляра і спіс літаратуры.**

**К. ВАРАНЬКО**

Барыс БУР'ЯН

# "Лімавец" — не мянушка

Заправіў паперу ў пішучую машынку і адразу настукаў назву сваіх старонак... Цяпер бы падкінуць у камін бярозавага паленца, распаліць люльку і аддацца ўспамінам: "Гэта было, васпане дарагі, тады..."

Мінск адбудоўваўся. Пранізлівы скавыш яшчэ зусім вольна высвістваў адыходную вайне ў шчылінах і пустых вокнах руін — ад ацалелага Дома ўрада і па ацалелы Дом друку. Бязлюдныя ў сваёй большасці кварталы горада, аднак, пахлі не толькі сухім пылам ды попелам пажарышчаў. Над Свіслаччу і ў цесных завулках Нямігі лунаў духмяны водар нядаўна распілаванага дрэва. Мо ад рыштаванняў, якія ўзводзіліся на праспекце, мо ад тых лясных ліп, якія прывозілі з-пад Маладзечна і высаджвалі абапал ужо забрукаваных і заасфальтаваных вуліц...

У камянічцы насупраць Чырвонага касцёла месцілася рэдакцыя газеты "ЛіМ". У цэнтры галоўнай плошчы перад вачамі бронзавага Леніна тоўпіліся павільёны-чабурэчныя, пяльменныя, блінныя. Там звычайна і шумела мінская багема.

Трапляў у тыя піцейныя ўстановы і я, і ў мяне з вусоў, бывала, капала не адно піва. І я ўстаўляў свае жартачкі ў гоман галасоў... Ах, не буду трывожыць нат добрым напамінам шаноўныя цені тагачасных заўсёднікаў, якія любілі размаўляць не толькі "прозай", а і ў рыфму, або з'яўляліся на парозе шынка, не паспеўшы як след разгрыміравацца пасля спектакля. Якраз там часцяком чулася дзіўнаватая прымаўка. Маўляў, што патрабуецца ад беларуса: пасадзіць хоць адно дрэва, выкапаць калодзеж і... забіць лімаўца. Рэмарку раблю звыклую: "Усе рагочуць".

З чаго мы толькі тады ні рагаталі, грэшныя! Колькі дасціпных эпіграм і пародый выслухалі ад Анатоля Вялюгіна і ад Анатоля Астрэйкі! Смяяліся без дай прычыны, бо — мірны горад... чарка... сяброўская размова... І ты — свабодны літаратар.

Цяпер я выстукваю на машынцы тое салодкае слова — "свабодны" — і адчуваю горкую іронію. Здаецца, усё тваё ўласнае жыццё — ад піянерскіх гадоў да пасляваенных будняў — настойліва ўдзёўбвала, мабыць, самую справядлівую з усіх марксісцка-ленінскіх ісцін: жыць у грамадстве і быць свабодным ад грамадства — немагчыма. Ды толькі маладосць мае сваё ўяўленне пра тую ўсвядомленую неабходнасць...

Мяне ў канцы 51-га года залічылі ў аддзел літаратуры, крытыкі і бібліяграфіі, калі яго складалі такія асобы: Аляксей Кулакоўскі (загадчык), Іван Кудраўцаў, Рыгор Шкраба. Імёны! Курыравалі аддзел намеснік Пімен Панчанка і галоўны рэдактар Васіль Вітка. Быў яшчэ адзін "фільтр", праз які праходзілі ўсе рукапісы, — сакратарыят. У асобе Алеся Бачылы. І шчыра скажу: мае артыкулы, нават самыя прынцыповыя, памерам з газетную паласу, падпісаныя маім прозвішчам, мелі на сабе адзнакі рэдактарска-цэнзарскага пяра амаль кожнага з памянёных толькі што супрацоўнікаў.

Магчыма, так мяне вучылі. А вучыць было надта ўсцешна для маіх апекуноў. На першым жа дзяжурстве ў друкарні "Чырвоны друкар" на Рэвалюцыйнай вуліцы мне давялося чытаць карэктарскі адбітак паласы, на якой кінулася ў вочы дзіўнае слова "страляніна" без літары "т". Пакрыўся потам. Утаропіўся ў тую "страляніну" без "т". Што гэта — каверза навічку ад карэктараў?.. памылка наборшчыка?.. ці так яно і гучыць па-беларуску? А потым мяне ў друкарні сустракалі задужа ветліва: "Сёння ў нас Страляніна (без літары "т") дзяжурыць..."

Наш загадчык А. Кулакоўскі ў той час пісаў кнігу. Дзіўнавата было чуць ад яго, быццам ён "робіць літаратурны запіс" маючай выйсці кнігі вядомага партызанскага камандзіра Васіля Казлова. Той быў тады Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, амаль прэзідэнтам рэспублікі. І адвёў службовы кабінет свайму "пісарчуку" недзе побач са сваім — у гмаху Дома ўрада. Зранку А. Кулакоўскі працаваў там, а недзе ў гадзіну з'яўляўся ў рэдакцыі. Хоць ніхто не падаваў выгляду, але яго чакалі. З яго вуснаў упэўнена гучала: "Варта падтрымаць... Можна гуляць у маўчанку... Мабыць, давядзецца раскрытыкаваць..."

Не, то былі не яго асабістыя меркаванні аб тым або іншым літаратурным творы, тэатральным спектаклі ці кінафільме. Гэта ён адтуль, з "гары", прыносіў у рэдакцыю нешта накшталт "пазіцыі", якую павінна была заняць і займала газета. Мы самі або запрошаныя намі аўтары потым і сапраўды штосьці падтрымлівалі, нешта крытыкавалі, нечым захапляліся, усё ж зыходзячы з асабістых адносін да тае ці іншае з'явы. Толькі гэтыя адносіны ў галоўным абавязкова... супадалі з рэкамендацыяй "вярхоў", агучанай Аляксеем Мікалаевічам.

Не толькі ім адным, канешне. Галоўныя рэдактары тады — і пазней тое здаралася, нават пры Машэраве або пры Слюнькове — атрымлівалі наверсе акрэсленыя заданні. Колькі разоў я быў сведкам, як... Ну навошта называць імёны і дасюль паважаных мною лімаўскіх начальнікаў! Бывала вяртаецца той галоўны — чалавек разумны, разважлівы, з мастацкім густам і нават з адпаведнай ідэалагічнай падрыхтоўкай — з будынка ЦК і — бразь дзвярыма свайго кабінета. Бледны (ціск зноў падае). Або чырвоны (ціск падскочыў). Разрадзіць напружанне і запрашае каго з нас, выканаўцаў: маўляў, тое варта падтрымаць... гэтае можна адзначыць як станоўчую з'яву... тое трэба рашуча раскрытыкаваць...

Норавы! Хто яго ведае, магчыма, справядліва сцвярджаў Анатоль Франс: "Мы ані не залежым ад канстытуцый і хартый, мы залежым ад інстынктаў і нораваў, што пануюць у нашым асяроддзі".

Ну калі ты ўжо без скептыка Франса не абышоўся, значыцца, замест успамінаў пра вясёлае маладое жыццё пачаў бубніць нешта сярдзітае. Не, адкідаем бурклівы тон! Бо адначасова, падчас і насуперак афіцыйна абвешчаным аўтарытэтам мы ўсё ж карысталіся кожным зручным момантам, каб сказаць чытачу: творы накшталт "Кавалера Залатой Зоркі" славутага С. Бабаеўскага зусім не ўзор сучаснай савецкай літаратуры, хоць іх запісваюць у шэдэўры сацрэалізму. І абураліся надуманымі сюжэтамі ў аповесці або рамане нашага пісьменніка, які спяшаўся заняць месца ў лаўрэацкіх шарэнгах за тым самым Бабаеўскім. І шчыра радаваліся сапраўды мастацкаму асэнсаванню рэчаіснасці, калі на часопісных старонках ажывалі героі Я. Брыля, М. Лупсякова, І. Мележа, М. Ракітнага, Я. Васілёнка, А. Карпюка.

Здаралася, рэдактар раіў: ты пахвалі тое, што не абражае твайго літаратурнага густу, і нібы мімаходзь рабі заўвагі, не абмінай творчых пралікаў аўтара, стылістычных агрэхаў, фактычнай маны. Балансуй! І мы — балансавалі. Помню, разам з Рыгорам Шкрабам мы (хочацца сказаць — згламэздалі, але будзе занадта), дык вось склалі мы рэцэнзію на раман "У агні" шаноўнага літаратара "пры пасадзе" Іллі Гурскага. Быццам і вітаюць рэцэнзенты новы маштабны памерамі раман пра подзвігі савецкага чалавека на вайне, але ўчытайся, удумлівы чытач, паслухай, колькі зроблена крытычных заўваг. Дык ці варты такі твор, каб яго вітаць?..

Малады імпэт прабіваўся праз дыпламатычныя выкруты і замаскіраваныя на скорую руку намёкі. Мне асабіста тады было спакусліва пакрытыкаваць знакамітага пісьменніка, славутасць. Гэтым табе потым давалася права з большай патрабавальнасцю ставіцца да таго, што рабілі ў літаратуры і ў мастацтве твае аднагодкі, хлопцы, што разам з табой вярнуліся з вайны і ледзь не да сярэдзіны пяцідзесятых гадоў даношвалі форменныя кіцелі і перашытыя на цывільныя паліто шынялі. Цяпер многае з таго, што лімаўцы пяцідзесятых гаварылі са старонак газеты, выглядае або наіўна-лагодным, або празмерна крыклівым. Літаратурныя баталіі тых часоў сёння ўспрымаеш як забавы, не вартыя ўвагі. Бо праблематыка шмат якіх літаратурных і тэатральных твораў была надзённай часова, пакуль нейкія вытворчыя або сямейныя канфлікты дыктаваліся выключна гэтым грамадскім кліматам, гэтымі запатрабаваннямі, гэтым "сацыяльным заказам эпохі".

Скажу шчыра, што ў рэдакцыі "ЛіМа" амаль заўсёды панавала здаровая атмасфера. У нас хапала самаіроніі, мы не падманвалі сябе і прызнаваліся, што гэтымі выкрутамі, імкнучыся дымавой заслонай слоў прыхаваць сваё непрыманне псеўдалітаратуры і псеўдамастацтва, набілі сабе гуз на лбе. І тыя нябачныя свету гузакі пазначалі тады ці не кожнага лімаўца.

Чаму я кажу так упэўнена пра "кожнага"? Бо без дэмагагічнай траскатні, без ідэалагічнай аздобы ніякі матэрыял тады не друкаваўся. Нават калі ты скупіўся на агітпропаўскія прысмакі, твой рэдактар, загадчык аддзела, а часам і дзяжурны па нумары ў друкарні сваёй рукой упісваў неабходнае і абавязковае. Потым такі "выратавальнік" мог і пажартаваць з самога сябе, а з цябе спагнаць чарку, але змяніць звыклую манеру праўкі-рэдактуры не асмельваўся ніхто.

Божухна, а колькі сам я панаўпісваў такіх "ратавальных" абзацаў у розныя артыкулы! Аднойчы ў тым старым "ЛіМе" на парозе з'явіўся Піліп Сямёнавіч Пестрак і пагрозліва-яхідна спытаў:

— Гэта ж якая карова прайшлася і наслядзіла бруднымі капытамі па маім артыкуле?

Галовы рэдакцыйных калег і павярнуліся ў мой бок. Пачатковец у "ЛіМе". Малады. Вучыцца... "Страляніна"... Зараз бабахне гром і справядлівым гневам грымне бязлітасны Звястун (я ведаў гэты псеўданім Піліпа Пестрака). А ён падышоў да майго стала, разгарнуў газету і паказаў абведзеныя алоўкам абзацы:



— За гэта... вось табе, Бур'ян, дваццаць капеек... І за гэта — дваццаць... За ўсё астатняе... Усё астатняе неабходна было ўзгадніць з аўтарам. А-ба-вяз-кова!..

Норавы літаратурнага жыцця мяняліся на нашых вачах. І лімавец гартаваўся, абнаўляўся, мацнеў. Рэдактура ўжо не магла ранейшымі метадамі ўплываць на такія, пахакейнаму кажучы, звязкі крытычных байцоў (аддзел у рэдакцыі), як, да прыкладу, П. Макаль, А.Вярцінскі, М. Гіль (з імі разам і я працаваў) або Р. Бярозкін, М. Стральцоў, В. Бечык. Не скажу, быццам дыпламатычныя выкрунтасы зусім зніклі з арсенала лімаўскай крытыкі, аднак статус аўтара і статус лімаўскага супрацоўніка раслі, рос іх аўтарытэт.

Мне давялося быць сведкам тэлефоннай размовы нашага галоўнага ў шасцідзесятыя гады з загадчыкам аддзела культуры ЦК КПБ. Той абураўся маім артыкулам пра прэм'еру ў Купалаўскім тэатры спектакля "Блакада" па п'есе У. Іванава. Штосьці ў артыкуле "не супадала", штосьці "разыходзілася", штосьці проста раздражняла прававернага іерарха на тым канцы провада. Тады наш галоўны рашуча так пярэчыць яму адным сказам:

— А ты здымі подпіс "Бур'ян" і чытай замест яго "Пашкевіч", потым не мяняй аніводнай літары і зноў чытай артыкул, а за змест я нясу поўную адказнасць у якой хочаш інстанцыі...

Галоўны стаяў спіной да мяне і тыя словы зусім не мне адрасаваліся. То сапраўдны лімавец адстойваў годнасць газеты. Годнасць лімаўца.

...А і на самай справе, калі б я сядзеў на шкуры забітага мядзведзя каля каміна, з якога вырываюцца агнявыя языкі, і курыў любімую люльку, то мог бы працягваць сваю споведзь сівога балбатлівага былога лімаўца бясконца. Ды цяперашні рэдакцыйны прыяцель абмежаваў мяне: "Сем старонак, не болей!" Як паслухмяны лімавец, я на сёмай і закругляюся.

ШЛЯХІ

Васіль АЎРАМЕНКА

# Вера і постхрысціянства

Рэлігія і вера. Здавалася б, непадзельныя рэчы, але вера як інтымны псіхічны феномен, на маю думку, больш універсальная і ўсюдыісная з'ява. Вераць людзі ў правадыроў ці ў камунізм, вераць у Хрыста ці ў жыццё пасля смерці, вераць у сваю зорку ці ў лепшы лёс Айчыны. Не кожная вера падымаецца да маштабу рэлігіі, але заўсёды яна дае чалавеку сілы для жыцця, робіць яго мацнейшым у дасягненні мэтаў, нябачных "няверуючаму" воку.

У што вераць сёння нашы людзі? На словах, бадай, больш у Хрыста, чым у камунізм, а на справе — больш у вяртанне "светлай савецкай будучыні", чым у другое прышэсце Збавіцеля. Нехта, праўда, верыць і ў Беларусь, ва ўласныя сілы, у тыя лепшыя, ствáральныя пачаткі, якія захаваў наш народ. І ўсё ж вера — справа тонкая, далікатная. Можна гучна сказаць: "З заўтрашняга дня веру ў Хрыста і баста!", але такі самападман і гвалт над сабою наўрад ці наблізіць да сапраўднай духоўнасці. Можна і проста схадзіць у царкву, паглядзець на абразы, парукацца са святарамі ці нават выступіць з амбона (як некаторыя нашы ўладары), ды такая паказная "рэлігійнасць" асуджаецца самім веравучэннем, тым больш калі яна мае карыслівыя — хай і палітычныя — мэты. Ханжаства і невуцтва такіх "новаверуючых" наносіць шкоду і царкве, на Беларусі ў першую чаргу — праваслаўнай. Маскоўскай метраполіі, магчыма, не прывыкаць да такіх паваротаў лёсу, бо апошнія 300 год яна шмат зрабіла для падрыву свайго аўтарытэту і ў самой Расіі, і на Беларусі. Пакінем далёкія часы вынішчэння Уніі ці "грабительствующего Синода", а звернемся да апошніх 50 год, калі маскоўская патрыярхія паціху апускалася на дно разам з усім савецкім грамадствам. На шчасце, былі асобы кшталту айца Аляксандра Меня, якія ратавалі гонар і лепшыя традыцыя праваслаўя, але больш было абыякавых святароў-службістаў, а сярод іерархаў — нават "інфарматараў" КДБ (пра што не раз пісала расійская прэса).

Трэба сёння прызнаць, што царква — не толькі "цела Хрыстовае", а ў першую чаргу — звычайныя смяротныя людзі, дзеці пэўнага часу з усімі заганамі, прымхамі і недахопамі сваёй эпохі. Усе хваробы сацыялістычнага грамадства — інтэлектуальная дэградацыя, двайны жыццёвы стандарт, апатыя, п'янства, "тэлефоннае права", даносы — не ў малой ступені закранулі "савецкае" праваслаўе. З другога ж боку — царква засталася з народам, і разам з ім перажывала заняпад і застой, а сёння — "ломку" і ачышчэнне.

Але ці зрабілі маскоўскія іерархі высновы са старых грахоў? Калі меркаваць па Беларусі, то малаверагодна. Складваецца ўражанне, што рускаму праваслаўю наканавана вечна быць упэцканым у палітычныя "дрэзгі" і станавіцца падручнай апорай для чарговай зямной улады. Лішне сказаць, што такім чынам яно паўялічвае шанцы на поспех менш палітызаваных канфесій, не абцяжараных імперскімі і панславянскімі комплексамі. Аднак для постсавецкага беларуса застаюцца важнымі не столькі міжканфесійныя рознагалоссі (хоць для вернікаў гэта немалая праблема), колькі само прызнанне рэлігійных каштоўнасцяў і пераасэнсаванне хрысціянскай спадчыны. Вопыт савецкага часу паказаў, што грамадства можа існаваць і без рэлігійных інстытутаў, што духоўнасць можа быць і свецкай, мірской, што і сярод камуністаў было шмат людзей прыстойных, маральных, далёка не ўсе сталі злыднямі, сексотамі і забойцамі. З іншага ж боку, адмаўляючы існаванне Бога і карысць царквы як сацыяльнага інстытута, камуністы вымушаны былі шукаць замену — марксісцка-ленінскае "веравучэнне", а ў сваім маральным кодэксе нават паўтарыць асобныя біблейскія запаветы. Канешне, класавая непрымірымасць, дагматызм і адмаўленне правоў асобы перакрэслілі станоўчыя моманты "кодэкса". Ды наогул шматвекавыя здабыткі хрысціянства непараўнальныя з пастаянна "кастрыруемымі" і падпраўляемымі традыцыямі камунізму, які фактычна нічога новага не стварыў за рамкамі эканамічных утопій і палітычных эксперыментаў. Хрысціянства ж не толькі стварыла моцныя сацыяльныя інстытуты, якія амаль да XIX ст. актыўна ўплывалі на грамадска-палітычныя працэсы, але і дало магчымасць "індывідуальнага выратавання", традыцыю сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі, самаразвіцця, медытацыі, рэлігійнага мастацтва і г. д. Адным словам, яно пранікла ва ўсе поры чалавечага жыцця, фактычна стаўшы стрыжнем феадальнага і індустрыяльнага грамадства, трывалым падмуркам сучаснай цывілізацыі.

Калі праваслаўе і каталіцызм можна лічыць духоўнай апорай феадальнага, а пратэстанцтва — індустрыяльнага грамадства, то ўзнікае пытанне, якой будзе рэлігія постіндустрыяльнага часу. Вядома, што хрысціянскія канфесіі не застылыя догмы, а жывыя арганізмы, якія мадэрнізуюцца, спрабуюць дастасоўвацца да новых сацыяльных умоў, але, але... Напрыклад, царкоўны каляндар рускай патрыярхіі добра ўпісваецца ў сельскагаспадарчы рытм і біялагічныя цыклы сялянскага патрыярхальнага жыцця. Гэта цудоўны гадавы гадзіннік і "камертон" феадальнай эпохі. Аднак якога "мясаеда" ці "яблычнага Спаса" трэба чакаць сёння, калі бананы і яблыкі прадаюць круглы год, а наяўнасць мяса залежыць ці ад колькасці зарплаты (у бедных), ці ад рэкамендацый дыетолага (у багатых)? А каго з гадаваных на асфальце і камп'ютэрных гульнях зацікавяць дажынкі, вадохрышча ці качанне велікодных яек? Безумоўна, значэнне хрысціянскіх і пераплеценых з імі народных традыцый застаецца вялікім у выхаванні і нацыянальнай асвеце, але ў захапленні архаікай і этнаграфіяй не трэба забывацца на сучаснасць і перспектыву. А яна такая, што радыкальная змена грамадства, якое на Захадзе ўжо ўступіла ў інфармацыйную эру, рана ці позна закране і нас. Гэта азначае, што на змену старым рэлігійным традыцыям прыйдуць новыя, але зусім не антыхрысціянскія, як можа здацца на першы погляд. Бо тое ж хрысціянства выйшла з нетраў іудаізму, прыхапіўшы з сабою многія яго законы і пастулаты, і стала самастойным дзякуючы ўздзеянню грэка-рымскай культуры і энергіі маладых варварскіх народаў Еўропы. Гэтак жа і ў "постхрысціянскую" эпоху: нікуды не знікнуць запаветы Майсея ці Хрыста, да іх толькі дададуцца новыя сацыяльныя прынцыпы і маральныя каштоўнасці, і некаторыя з іх ужо ўвайшлі ў наша жыццё.

Асаблівасць сучаснай культурна-тэктанічнай актыўнасці ў тым, што знешнімі фарматворчымі фактарамі з'яўляецца духоўная спадчына Усходу, патэнцыя маладых "хуткаплодных" народаў і вопыт таталітарызму, а ўнутранымі — тэхнагенныя, інфармацыйныя і дэмакратычна-прававыя структуры заходняга свету. Хаця падзел на ўнутраныя і знешнія фактары (гэтак жа, як на Захад і Усход) становіцца ўсё больш умоўны, бо ў выніку сённяшняй "пераплаўкі" ствараецца адзіная сусветная цывілізацыя, якая будзе мець універсальныя прынцыпы, задачы і заганы.

Натуральна, ні Хрыстос, ні Майсей не маглі прадбачыць праблем, што паўстануць на пачатку XXI ст. А якраз новыя праблемы і выклікаюць да жыцця новую ідэалогію (калі заўгодна — то новую веру). Якія ж гэта праблемы, што не асветлены ў такой універсальнай працы, як Біблія? Хоць там і падрабязна расказана, як свежаваць ахвярных бараноў, калі можна спаць з жонкай, што есці ў святы дзень, колькі аддаваць на царкву, як помсціць ці даравацъ ворагам і шмат чаго іншага, але мала адведзена ўвагі такім тэмам, як свабода і правы асобы, экалогія, наступствы супертэхналогій і штучнага інтэлекту. А, на жаль, менавіта яны выходзяць на галоўныя ролі ў сённяшнім жыцці.

Першая з азначаных праблем мае ўжо добрую гісторыю. Больш таго, імкнецца да свабоды — старая чалавечая "звычка" і, бадай, патаемны рухавік нашай цывілізацыі. Аднак толькі XX стагоддзе паставіла свабоду чалавека і яго правы наперадзе іншых сацыяльных праблем. Упершыню ўзніклі спрыяльныя ўмовы для развіцця асобы і — што галоўнае — матэрыяльныя сродкі для індывідуальнага "свабоднага" існавання. Двукоссе тлумачыцца тым, што тыя ж дасягненні, якія, здавалася б, даюць больш свабоды і магчымасцяў індывіду (магутныя крыніцы энергіі, новыя віды транспарту, інфармацыі, навучання і г. д.), вядуць і да большага "ўблытвання" чалавека ў цывілізацыю, да большай залежнасці ад грамадскіх і вытворчых структур і вялікай колькасці людзей. Гэта і ёсць парадокс усякага прагрэсу: надыход вялікай свабоды нараджае новыя, невядомыя дасюль формы залежнасці і няволі. І ўсё ж нягледзячы (а мо і дзякуючы?) ахвярам таталітарызму, войнаў і генацыду XX ст., гэтым крывавым унёскам на алтар свабоды, зараз у цывілізаваных краінах жыццё чалавека і правы асобы — большая каштоўнасць, чым была 100 ці 1000 год назад. А тое, што мы не ведаем біблейскай праблемы — "Ці адпускаць раба праз 7 год з жонкай і сям'ёй?" — ускосна сведчыць, што чалавецтва не стаіць на месцы і надыходзіць час "новай веры". Калі ж не веры, то новых праблем — дакладна. І адна з самых актуальных з іх — экалогія.

Падобна таму, як Бог, стварыўшы чалавека і навакольнае асяроддзе яму "ва ўслужэнне", узяў адказнасць за справу рук сваіх, так і чалавек, стварыўшы свет рэчаў і тэхналогій, усклаў на сябе цяжар праблем і канфліктаў з жывой прыродай. А разбуральныя канфлікты і дэградацыя навакольнага асяроддзя сталі такой жа непазбежнасцю, як і "грэхападзенне" чалавека ў працэсе пазнання сябе і законаў сусвету.

Трэцяя праблема, якая звязана з папярэднімі, бадай, самая маладая і, па вялікім рахунку, яна з заўтрашняга дня. Калі "хвастом" прагрэсу сталі экалагічныя наступствы, то ягонай "галавой" з'яўляецца праблема штучнага інтэлекту і заснаваных на ім супертэхналогій. Чалавек у сваім імкненні да магутнасці, да вызвалення ад путаў прыроды і ўласнай фізіялагічнай абмежаванасці стварыў, нарэшце, нешта новае, дзіўнае і жахлівае, што можа пераўзысці само ягонае разуменне. Ці стане гэты "прадукт" цывілізацыі някіруемай і варожай з'явай? Тут пачынаецца сфера дзейнасці фантастаў і футуролагаў, а нам застаецца толькі... простая вера. Калі чалавек да сёння не згубіў веру ў Бога, а Бог не страціў цікавасці да чалавека, то ёсць надзея, што і штучны інтэлект, нават адлаўшы ад свайго стваральніка, не згубіць у яго веру, а чалавек, у сваю чаргу, не пакіне сваё "дзіця" на волю лёсу. Сувязь творцаў, ці дакладней — сутворцаў, будзе вечнай, пакуль ёсць жыццё і ёсць вера...

Ну, а пры чым тут Беларусь, спытаеце вы? Якое дачыненне гэтыя фантазіі маюць да краіны, забытай Богам і знявечанай людзьмі? Самае непасрэднае! Бо сёння мы не проста перажываем дробныя палітычныя канфлікты і балючыя сацыяльныя зрушэнні; у глыбіні нашай свядомасці ідзе напружаная барацьба, у нашых душах скрыжаваліся ўсе супярэчнасці часу — хрысціянства і камунізм, вера і бязвер'е, а ў пошуках выйсця вяршыцца вялікая праца — крышталізуецца наш (і не толькі наш) шлях у будучыню. І хай сёння мы далёка адсталі ад іншых, і краіна наша зняверана і зганьбавана, але, як сказана ў Пісанні, "хто быў апошнім, стане першым". Трэба толькі моцна верыць і няспынна працаваць на сваю веру.

*г. Магілёў*



*З лімаўскага архіва У. КРУКА*







*↑ Партрэт прафесара. Анатоль Сабалеўскі. 1991 г.*

*← Ёсць пра што падумаць... Васіль Быкаў. 1989 г.*

*↓ Лекцыя на тэму... Алег Лойка ў цягніку Гродна — Мінск. 1975 г.*

## Адраджае і захоўвае



Захавальнік Краснапольскага гісторыка-этнаграфічнага музея Галіна Клімава — чалавек захоплены. Калі гаворка зайшла пра адраджэнне і захаванне старых рамёстваў, яна з задавальненнем узялася за стварэнне пры музеі дэкаратыўна-прыкладнога цэнтра. Сёння ў актыве Галіны Пятроўны дзесяткі аднаўленых, раней забытых рамёстваў і захопленняў Краснапольшчыны.

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА*

## Натхняе — родная Беларусь



Вядомы беларускі скульптар Іван Міско стварыў сваю першую скульптурную кампазіцыю "Юнацтва" ў далёкім 1957 годзе. Гэта была дыпломная работа выпускніка Мінскага мастацкага вучылішча Івана Міско. Так пачыналася яго дарога ў мастацтва, творчасць. Закончыўшы ў 1966 годзе Беларускую акадэмію мастацтваў, Іван Міско актыўна пачынае займацца скульптурай. Яму пашанцавала — ён вучыўся майстэрству, працуючы поруч з такімі знакамітымі скульптарамі, як А. Глебаў, З. Азгур, А. Бембель. І як лічыць сам Іван Акімавіч, ён многім абавязаны гэтым майстрам.

У садружнасці з калегамі Мікалаем Рыжанковым, Андрэем Заспіцкім, архітэктарам Алегам Трафімчуком, Іван Міско стварыў мемарыяльны помнік маці-патрыёткі Анастасіі Фамінічне Купрыянавай, які ўстаноўлены ў Жодзіне. Аўтарскаму калектыву гэтай вядомай скульптурнай кампазіцыі ў 1977 годзе было прысвоена званне лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР.

Вытокі натхнення скульптара — гэта людзі працы, няхай будзе гэта старшыня калгаса ці хлебароб, дзеяч навукі або мастацтва, людзі спорту ці беларускай культуры. Сярод іх у Івана Міско шмат сяброў. Сустрэчы і гутаркі з імі даюць майстру імпульс для далейшай творчасці, для новых задумак.

*На здымку: Іван Міско ў сваёй майстэрні.*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА*

# Яны ўсе са мною

Васіль СЁМУХА



Запрасіў мяне рэдактар у "ЛіМ" не ў лепшы для мяне час. Мяне не друкавалі, выключылі з Саюза пісьменнікаў (за спробу, як мне было сказана, выдаць "Фаўста" ў Мюнхене). Чаму ў Мюнхене і пры чым тут Мюнхен, я і цяпер не разумею. Я проста звярнуўся з лістом да тагачаснага міністра замежных спраў Гурыновіча. Так што працаваць давялося на трактарным заводзе. Толькі Нічыпар Пашкевіч мог сабе дазволіць прапанаваць невялікую пасаду, хаця прачуханца даваў пры выпадку, як і ўсім.

Калі ўспамінаць, то найперш, вядома, згадваецца ён, Нічыпар Еўдакімавіч. На першы погляд ён быў страшэнна суровы, ну проста тыран. Выклікаў нас то "паштучна", то "пачкамі" да сябе ў кабінет. Жанчыны выходзілі ў слязах, мужчыны — хмара хмараю. Але ніхто з нас не кіне ў яго каменем. Наадварот, самыя светлыя засталіся ўспаміны. За ім прыйшоў ліберал Прокша — і ў газеты не стала пазіцыі.

Важна і тое, што Нічыпар умеў размаўляць на роўных з вярхамі. Умеў заступіцца, выбіць, калі трэба, кватэру... Пасля "ЛіМа" ў яго не склалася кар'ера — ні ў Маскве, ні тут. А ў газеце ён быў на сваім месцы.

Адказным сакратаром быў Валодзя Няхамкін (Мехаў). Талент меў адмысловы: толькі зірне на паласу — і бачыць памылкі. І гэта пасля карэктара, пасля ўсіх правак, пасля свежага вока!..

Нельга не сказаць пра Уладзіміра Крука. У таго не было выхадных, суцэльная працоўная вахта. І ніколі ні з кім не пасварыўся ў рэдакцыі. Мастацтвам займаўся яшчэ адзін Валодзя — Бойка. Адзін меў недахоп: вельмі ж любіў думку закруціць. Як напіша, часам цяжка зразумець. Марцінкоўскі вельмі аператыўным быў супрацоўнікам... І што мяне нават дзівіць — усіх, з кім працаваў хаця б паўгода, з кім спрачаўся, з кім сварыўся, — я ўсіх люблю. Яны ўсе са мною.

Райнэр Марыя РЫЛЬКЕ

### Спеў жанчын паэту

*Глядзі: усё адкрыта ў нас: даброць*
*і шчырасць — яўнасць нашага аблічча.*
*А ўсё жывёлнае: кроў, поцьма, плоць —*
*з душой зраслося нашай, яно кліча*

*цябе, паэт, не на духоўны баль.*
*Ты нас бярэш, як вобраз пекнаты,*
*без цэнню пожадзі, праз міламаль.*
*Таму здаецца нам, што ты — не ты,*

*каго мы клічам. І няўжо ж не той,*
*хто сутнасць нашу лепей апяе?*
*А ў кім бы мы яшчэ былі сабой?*

*Бо мы ж — бясконцасць,*
*мімацечнасць мы,*
*а ты наш голас, каб нам чуць яе,*
*ты рупар наш: дык будзь жа над людзьмі.*

### Іспанская танцорка

*Распырскаецца іскрамі, перш чым*
*агнём успыхне, бы ў руцэ запалка,*
*акруглы танец, віхрам летучы,*
*красае зырка, —*
*церпнуць гледачы,*
*калі ўся зоймецца імкліва, палка.*

*І раптам ярка — уся агонь і жар.*

*Гарыць адразу валасы і твар,*
*у вогнішча ляціць сукенка, ўбор,*
*ажно трашчыць ахвярніцкі касцёр,*
*і ўся яна ў агні, уся палымнее,*
*і толькі рукі з полымя, як змеі...*

*Тады: нібы ў агні ёй цесна, ўраз*
*яго страсае пад тугі абцас —*
*уладна, велічна, ў нямой пагардзе.*
*А полымя бушуе ў грозным гарцы,*
*шугае ўгору языкі свае.*

*Ды ў пераможным рытме звонка,*
*шпарка,*
*вітаючы усмешкай, такты б'е*
*і ножкай топча шал агню іспанка.*

### Смерць паэта

*Ляжаў прыўзняты на падушках ён.*
*І бледны твар на беласці сурвэты,*
*і свет, адсечаны ад помыслаў паэты,*
*і ўсё, што ведаў ён пра сутнасць свету,*
*патухлі ў абыякавасці дзён.*

*Хто знаў яго, не ўгледзеў аднаго:*
*наколькі з Гэтым быў ён нераз'емны,*
*бо Гэта — глыбіня і свет праменны,*
*вада, святло — быў існы твар яго.*

*Яшчэ жыў свет у ім, яшчэ ў прыроду*
*панада еднасці яго вяла.*
*А маска мёртвая ужо была,*
*як свежы зрэз даспеленага плоду,*
*пяшчотная — апошні міг жыла.*

**Пераклаў Васіль СЁМУХА**

# Урок Рыгора Бярозкіна

Яўген КАРШУКОЎ

### ЗГАДКІ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

Уявіце сабе яшчэ досыць маладога, даволі сціплага чалавека з правінцыі, увогуле неблагога журналіста, які, скончыўшы універсітэт, пагойсаў па раённых газетах, набіў руку, сёе-тое напісаў і нават выдаў і ў рэшце рэшт так асмялеў, што папрасіўся ў Саюз пісьменнікаў. А калі яго прынялі, то ў сваім "нахабстве" пайшоў далей: заняў вольнае месца загадчыка аддзела літаратуры папулярнага на той час штотыднёвіка.

У нашым аддзеле, як ні дзіўна, адчуваўся дэфіцыт і на цікавую прозу, і на добрую паэзію, і на прынцыповую крытыку. Асаблівую патрэбу мелі мы ў крытычных артыкулах, рэцэнзіях. І вось неяк улетку, калі ў рэдакцыйнай папцы застаўся мізэрны запас матэрыялаў, я аб'явіў у сваім аддзеле, што еду на родную Гомельшчыну і тэрмінова прывязу адтуль артыкул аб рабоце якога-небудзь раённага літаб'яднання. Мае добрыя сябры і паплечнікі па працы Саша Мажэйка і Мікола Гіль выратавальную ідэю ўхвалілі. Праўда, Леанід Януаравіч Прокша, наш галоўны рэдактар, трошкі засумняваўся і са сваёй звычайнай іранічнай усмешкай спытаў:

— А паспееце ў нумар?

— Паспею! — не міргнуўшы вокам, паабяцаў я.

Чамусьці я быў перакананы, што родная зямелька не падвядзе.

І сапраўды, усё нібыта склалася найлепшым чынам. Не спатрэбілася нават ехаць у райцэнтр. Мой добры прыяцель, тагачасны сакратар абласнога аддзялення пісьменнікаў Леанід Гаўрылкін выручыў: прапанаваў мне і патрэбную інфармацыю, і творы пачаткоўцаў Жлобінскага літаратурнага аб'яднання.

Здаецца, мне не здрадзіў густ, калі я хваліў вершы Міколы Янчанкі — у яго якраз выйшаў першы зборнік "Разнотравье". Разам з іншымі вартасцямі маладога паэта я спыніўся і на яго ўменні трапна маляваць прыдняпроўскія пейзажы...

*Рощи затихли,*
*И пожелтели,*
*Сдвинулись тени*
*За серые пни.*
*Отполыхали,*
*Отголубели,*
*Отшелестели*
*Летние дни.*

Гэтыя радкі мне так спадабаліся, што я нават адзначыў падабенства мелодыі верша ў Міколы Янчанкі з мелодыкай самога Цютчава...

Прыехаўшы ў Мінск, хуценька перадрукаваў свой опус, здаў у друк і, вельмі задаволены, што ўсё так добра абышлося, ужо літаральна праз некалькі дзён чытаў артыкул на старонках штотыднёвіка, выслухоўваў жартаўліва-зычлівыя ўхвалы з боку сваіх таварышоў: малайчына, трымай так і надалей!

Непрыкметна праляцела некалькі месяцаў таго ўжо далёкага 1971 года, пісаліся і друкаваліся іншыя рэчы, хвалявалі новыя задумкі. Мы пачалі і пасляхова вялі на старонках штотыднёвіка шырокую дыскусію, прысвечаную набалелым праблемам сучаснай крытыкі. Помню, нават сам Іван Паўлавіч Мележ станоўча ацаніў нашу ініцыятыву. Кожны дыскусійны артыкул выклікаў цікавасць у чытача, ажыўлена абмяркоўваўся ў сценах рэдакцыі і ў пісьменніцкіх колах. Вядома, усё, што тычылася літаратурнай крытыкі, адразу ставілася ў нумар.

Так, відаць, здарылася і з артыкулам Рыгора Бярозкіна "Толькі рэпліка". Мэтр нашага крытычнага цэха прынёс артыкул "пад занавес", і яго хуценька пераслалі ў друкарню... Карацей кажучы, узяўшы свежы нумар штотыднёвіка, я быў уражаны рубрыкай "З апошняй пошты": Рыгор Саламонавіч ужо ў першым абзацы згадваў мой артыкул пра раённае аб'яднанне. Згадваў не проста так, а выказваў прынцыповую нязгоду з маім неабачлівым ужываннем імя класіка рускай літаратуры Цютчава... Ці варта гаварыць, якія пачуцці ахапілі мяне.

Толькі дома я трохі супакоіўся і больш уважліва, засяроджана перачытаў допіс Рыгора Саламонавіча. Перачытаў і задумаўся. Па-першае, усцешыла, што ён не назваў майго прозвішча. Па-другое... Менавіта тут было самае галоўнае і істотнае: мяне здзівіла і парадавала, як тонка, тактоўна і разам з тым прынцыпова аўтар артыкула выказаў сваю пазіцыю наконт шанавання святога для нас імя класіка, іх бессмяротнага слова. Я гатовы быў поўнасцю пагадзіцца з дакорам вядомага крытыка і ўжо сам лаяў сябе за сваю неабачлівасць. Як я сапраўды мог параўнаць вершы пачаткоўца з музай Цютчава?! Мне і цяпер няёмка, калі я прыгадваю словы шчырага абурэння Рыгора Бярозкіна: "Божа, пры чым тут Цютчаў, навошта ўвогуле трывожыць цені вялікіх там, дзе гаворка павінна ісці пра элементарныя навыкі рамяства..."



Вось так я ў першы ж год сваёй лімаўскай біяграфіі атрымаў неацэнны ўрок — і як трэба надзвычай паважліва і ўдумліва ставіцца да класічнай спадчыны, і як трэба паважліва і тактоўна пісаць пра сваіх малодшых паплечнікаў па пяры...

Уладзімір МЕХАЎ

# Антысталінец Кастусь Каліноўскі

ЛЮДЗЕЙ, на чыіх вачах адбылося тое, пра што хачу расказаць, застаецца ўсё менш. Паўстагоддзя ёсць паўстагоддзя. З усім, што з такога тэрміну вынікае. Аднак жа не забываецца гэты эпізод, не струхлеў у сховах даўнасці, не сатлеў.

На далёкі ж момант, калі ён неспадзеўна грымнуў, сведкамі яго было народу многа. Паўнюткая зала цяпершаняга мінскага Дома акцёра — тады гарадскога Дома партыйнай асветы—на ўзгорку пры гмаху акруговага Дома афіцэраў. Сотні дзве, мабыць, а то і болей — колькі грамады ў сцены той залы можа ўвапхнуцца, не ведаю, — удзельнікаў і гасцей рэспубліканскага сходу пісьменнікаў Беларусі, прысвечанага вынікам 1947 года ў галіне прозы, паэзіі, драматургіі, літаратуразнаўства і літаратуры для дзяцей. Так імпрэза афіцыйна называлася. Я на ёй прысутнічаў, як работнік "ЛіМа".

Паводле таго, што на яе прадугледжаны былі аж тры дні, паводле антуражу (у будыніне разгорнуты былі буфеты, кніжныя латкі, медпункт), паводле канвеера стэнаграфістак — запісчыц прамоў і рэплік да іх, галоўнае ж — паводле маштабу кіраўнічых фігур у прэзідыуме ясна было: праводзілася мерапрыемства рангу пісьменніцкага з'езда ці пленума. Жартачкі ў зале, над чырванню прэзідыумнага стала снегава бялела-блакітнела прыгожая галава ўсесаюзнага генсека пішучай брацii Аляксандра Аляксандравіча Фадзеева (сказанае ім агністае слова да беларускіх одапісцаў эпохі, не напісанае загадзя і таму месцамі не дужа адгабляванае, падгаблявала потым пры падрыхтоўцы да публікацыі ў "ЛіМе" маладое рэдакцыйнае пяро Рыгора Шкрабы). І пазнаваўся ў прэзідыуме набор саноўных твараў, знаёмы ўсім з фатаграфій першамайскай і кастрычніцкай урадавай трыбуны ў Мінску ў "Звяздзе" і "Советской Белоруссии". І — самае-самае — форум уганаравалі прысутнасцю найвышнія тады ў нашым краі персоны — нядаўна пастаўлены першым сакратаром ЦК КПБ Мікалай Іванавіч Гусараў і папярэднік яго на гэтай пасадзе, колькі месяцаў назад адсунуты чамусь на сваю другую па вазе пасаду, якую да таго займаў па сумяшчальніцтве, Старшыня Савета Міністраў Пантэляймон Кандратавіч Панамарэнка.

Інакшым, пазнейшым часам гэткай дэманстрацыі партыйна-дзяржаўнага клопату аб літаратуры, вядома, наканавана было б увайсці ў летапіс жыцця рэспублікі днямі з'езда, паўтаруся, ці важнага пленума ўсіх прапісаных і прагных прапісацца на Парнасе. Але тады, у лютым сорак восьмага, на вышынях, дзе такія рэчы вырашаліся, палічылі, што статус спецыяльнага агульнага сходу будзе больш адпаведны для гаворкі пра вынікі зробленага пісьменніцкай раццю за паўтара года пасля з'яўлення мабілізацыйнай для яе партыйнай пастановы аб часопісах "Звезда" і "Ленинград".

Напомню, тады цараваў Сталін. Новапастаўленаму на Беларусь Гусараву трэба было яшчэ сцвердзіцца ў якасці ягонай надзейнай рукі. Прыцененны ж з якойсьці, адно парталімпу вядомай прычыны, Панамарэнка пашчыраваў у такой іпастасі каля дзесятка гадоў. Быў бездакорным, здавалася, правіцелем сталінскай вывучкі. Сярод іншага адразу, як прыняў калісь гэтае шматмоўнае генерал-губернатарства на захадзе імперыі, крута ўзяўся за выкараненне тут пошасці нацыяналізму. Быў, калі сюды бласлаўляўся, папярэджаны, што тубыльная інтэлігенцыя ў нацыяналізме, як у каросце. Беларускім, яўрэйскім, польскім. Цацкацца з ім, як тое рабіла ранейшае шкодніцкае кіраўніцтва, небяспечна. Панамарэнка не цацкаўся: няшчадна вытручваў і выпальваў крамолу. Тым не менш, нехта ўвёў, трэба думаць, у вушы Самому, што выпальваў, быў крутым недастаткова, звыкся-зміры́ўся з нездаровай з'явай. Яшчэ і таму, можа, сядзеў цяпер у прэзідыуме асобай нумар два, а не поўнаўладным валадаром у рэспубліцы, як прывык на падобных імпрэзах сядзець. Сядзеў і, тоячы раздражненне, сцішана ставіў у курс пастаўленага над ім прафана ў беларускіх справах Гусарава, хто ёсць хто з літаратурнай эліты ў прэзідыумных крэслах побач. Каго, калі папросіцца на прыём, трэба прымаць, каго можна адфутболіць.

Сам ён ведаў добра, хто ёсць хто ў рэспубліканскай літаратурнай суполцы. Розум меў — не адмовіш — учэпісты. На многіх, каго ў зале згледзеў, трымаў у галаве помнае з дасье ведамства Лаўрэнція Фаміча Цанавы. З многімі пры розных варунках кантактаваўся. Многіх і без кантактаў мог назваць па імені: за літаратурнымі выданнямі аддадзенай пад нагляд стараны сачыў асабіста, і хоць на беларускіх словах спатыкаўся, але памагатым па ідэалогіі не перадавяраўся.

Узіраўся ён у залу і ў выступоўцаў, аднак, пахмура, незычліва. Як злуючыся на гэтую братву. Як лічачы, што апушчаны на прыступку ніжэй, мае над сабой Гусарава таксама і з прычыны сігналаў Маскве пра яе, беларускай пісьменніцкай раці, не тое каб нелаяльнасць, але ж і не надта вялікую імпэтнасць у тым, чаго Масква патрабавала. Зноў жа — кляты нацыяналізм, невыкараняльны ў гэтым асяроддзі. Ён ведае, яму дакладваюць: вытыркаецца, гад, і ўсё тут!



Колькі ні выполваеш-выпальваеш. Вынырвае ў завугольным пошапе шмат каго з тых, хто цяпер у зале. У балбатні за чаркай. У збераганні і падсоўванні адзін аднаму забароненай пісаніны пастраляных, пасаджаных, збеглых за кардон.

Мабыць, настроем такім і вызначылася танальнасць яго прамовы ў заключныя гадзіны сходу. У асноўным экспромтная, яна ў друку потым была толькі коратка, агульнымі словамі пераказана, хоць з'яўлялася праграмнай не толькі для сабраных. Праўда, паводле савецкіх завядзёнак, тут было адхіленне ад канону: задачы для творчай інтэлігенцыі звычайна ставіліся босамі партыйнай іерархіі, а кіраўніку ўрада даручалася мабілізоўваць гаспадарнікаў. Але Гусараву адседзець тры дні пры гаворцы пра абсалютна яму чужое, ды яшчэ на мове, з якой разумеў адно асобныя словы, было, мабыць, завялікім выпрабаваннем. Ён вытрываў адкрыццё сходу, пару дакладаў у пачатку — і больш яго не бачылі. Выступаць жа... Панцеляймон Кандратавіч, вазьміце гэта, калі ласка, на сябе. Вас ведаюць, вы тут, як рыба ў вадзе.

Пакрасавацца перад аўдыторыяй Панамарэнка любіў. Перад пісьменніцкай, акцёрскай, мастакоўскай — пагатоў. Слухачы гэтыя з асабліва эмацыянальных, і яму прыемна бывала падкідваць ім штосьці эфектнае, ад чаго загараліся вочы. Такое, пра што ведаў і мог сёе-тое расказаць як наблізжаны да архісакрэтнага. Што вядомае пакуль, таварышы, мала каму, але ў недалёкай будучыні — успомніце маё слова! — стане выбуховым, паваротным для дзяржавы, мо нават свету.

З прамовай на тым сходзе выпадала яму і патрэбная для самалюбства магчымасць лішні раз паказаць, што пакуль застаўся на ранейшай вышыні. Хоць у выніку інтрыг у Крамлі і вызваліў адзін свой важны кабінет для Гусарава. Што ад Алімпа, тым не менш, не адлучаны, з рады багоў не выкінуты. Як меў там месца і голас, так і мае.

Прамову з такога і пачаў, каб вочы ў слухачоў загарэліся і гэтым разам. Расказаў, што ў сорак трэцім распрацавана было мноства пастак (пра некаторыя распавёў як дэтэктыўшчык) на крывавага гітлераўскага гаўляйтара Кубэ, і калі б аперацыя помсты, якую здзейснілі Алена Мазанік і Марыя Осіпава, закончылася няўдачай, усё адно той не ўратаваўся б ад вынесенага яму смяротнага прысуду. Пахваліўся (у вайну быў начальнікам Цэнтральнага штаба партызанскага руху!), што беларускі вопыт партызанскай барацьбы супраць акупантаў вывучаецца вайскоўцамі ў свеце як класічны. Выклікаў апладысменты пералікам слынных архітэктараў, каму даручана было праектаванне фантастычнага заўтрашняга выгляду далёка не ўзнятага тады яшчэ з руінаў Мінска.

Але ж як пра галоўнае трэба было гаварыць пра іншае. Пра тое, дзеля чаго сход быў сабраны. Разумеў: калі хто яшчэ палічыць патрэбным паведаміць пра гэтую яго прамову ў Маскву, то перш за ўсё будзе паведамлена пра тое галоўнае — што сказаў і ці ўдала сказаў. Як з неахвотай, як з непрыемнасцю на самае важнае і перайшоў. Глынуў з пастаўленай афіцыянткай шклянкі, з паўхвіліны памаўчаў, настройваючыся, пэўна, на шляхетны тон, сану ягонаму адпаведны. І сказы з чатыры ці трохі болей роўнага тону пратрымаўся. Падзяліўся, што надоечы выкраіў вечар, каб паглядзець і паслухаць у оперным тэатры прэм'еру, пра якую столькі шуму ў газетах, — "Кастуся Каліноўскага".

Тут трэба, у дужках, зазначыць, што з'яўленне ў тэатральным рэпертуары Мінска оперы Лукаса пра несмяротнага сына Беларусі было тады надзвычайнай падзеяй у культурным — і не толькі — жыцці горада. Газеты сапраўды адна перад адной выпіналіся ва ўвазе да спектакля. Прыхільна пісалі пра музыку і пастаноўку, пра майстэрства выканаўцаў, друкавалі ўхвальныя водгукі публікі. Але згодны з усім гэтым прамоўца ці не, зразумець напачатку было немагчыма. Зразумелі тады, калі ўзятага тону ён не вытрымаў, сарваўся.

— Кто автор пьесы? — шлягнула па зале грозным голасам, які добрага не прадвяшчаў. Прамова гаварылася, вядома, па-руску і, мне падалося, вымаўлена было нават не "пьеса", а на старадаўні, часоў Мураўёва-вешальніка, згубіцеля Каліноўскага, манер — "пиеса". Падправіць другую, нядаўна першую, персону ў краі, падказаць, што літаратурная аснова оперы называецца не п'еса, а лібрэта, ясная рэч, ніхто не адважыўся.

— Кто автор пиесы? — паўтарыў Панамарэнка ўжо не проста грозна, а злавесна.

У напружанай сцішанасці, дакладней сказаць — вусцішнасці залы вінавата ўстаў у далёкім ад трыбуны радзе Міхась Клімковіч. Субтыльны, кволы, біты-перабіты Міхась Мікалаевіч. Са страхавітай выемкай на гарляку — вечным следам колішняга адчаю, калі ў чаканні немінучага, думаў, арышту паласнуў сябе вострым лязом. Паважаны паэт, драматург, літаратуразнаўца. Добры знаўца мінуўшчыны роднай зямлі.

Панамарэнку ён быў, зразумела, знаёмы. Дасье на яго Панцеляймон Кандратавіч, несумненна, таксама ведаў. І помнае з дасье, відаць, адразу спалучылася ў разгарачаным уяўленні з тым, што спарадзіла гнеў.

— Ах, это вы! Хорош! — няцяжка здагадацца, як гэтае "хорош" бедалагу Клімковіча потым мучыла. — Объясните, будьте любезны. Там у вас есть сценка, герой провозглашает: "Нема у нас дворян! У нас вси равныя!" Что, позвольте спросить, данная декларация означает?

Згадаю, што ў фінале спектакля Каліноўскаму зачытваўся прысуд, і ў тым прысудзе, паводле парадкаў часу, ён называўся саслоўна — "дваранінам Каліноўскім". Дык зроднены ў змаганні з паўстанцамі-сялянамі герой оперы чытанне вердыкту перабіваў. На ўсплёску медных у аркестры ўсклікваў: "Няма ў нас дваран! У нас усе роўныя!"

— Вас спрашивают, как данную декларацию понимать — "У нас вси равные?" — настойвалася з трыбуны.

У мёртвай цішыні пратрымцеў адказ Клімковіча:

— Это подлинныя слова Калиновского.

— Хм, подлинные...

Пачутае на колькі імгненняў прамоўцу астудзіла. Змусіла, мабыць, секунду-другую падумаць, ці слушна будзе ў такім разе на драматурга накідвацца, гаварыць тое, што наважыўся. Але шукаць-падбіраць іншае замест таго, што ляжала на языку, не стаў. Не мог прылюдна дазволіць сабе слабінку. Масква ўжо прысылкай Гусарава наконт слабінак сваё яму сказала. І гром з трыбуны не суцішыўся:

— Надеетесь тем прикрыться, что подлинные? Не получится! Теорию единого потока насаждать не позволим!

Разумею, бальшыні сучасных чытачоў трэба патлумачыць, што гэта такое — тэорыя адзінага патоку. Жупелам гэтай тэорыі тады, у саракавыя, ды і пазней наводзілі страх на гісторыкаў і іншых неасцярожных з інтэлігенцыі, каму выпала захапіцца мінулым Беларусі. За найвялікшы грэх выстаўлялася асэнсаванне гісторыі без падкрэслівання класавых супярэчнасцей.

Паводле ідэалагічных тагачасных канонаў не магло такога быць, каб беларусы хоць калі гуртаваліся вакол нацыянальнай ідэі, г. зн. зліваліся ў "адзіны паток". Гісторыя Беларусі — гісторыя выключна сацыяльнай, класавай барацьбы. Між багатымі і беднымі, між тымі, хто эксплуатаваў, і тымі, каго эксплуатавалі. І толькі! Навуковец, літаратар, выкладчык з рэпутацыяй іншадумца залічваўся ў нацыяналісты, антымарксісты, антыленінцы, антысталінцы. З перспектывай застацца без працы, калі не горшай. А тут — падумаць! — з самай вялікай у рэспубліцы сцэны, ды з вуснаў амаль канaнізаванай, дапушчанай у падручнікі асобы,

(Працяг на стар. 20)

## ЗГАДКІ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

На двары лістапад 1945-га. Мне васемнаццаты год. Я першакурснік універсітэта. Бацька загінуў на фронце. Маці цягнуць двух сыноў цяжкавата. І бацькаў друг, Марыя Міхайлаўна Ваганава, да вайны ягоная каляжанка па рэдакцыі "Советской Белоруссии", а на тую пару супрацоўніца апарату Савета народных камісараў, папрасіла Аркадзя Куляшова, адказнага рэдактара "ЛіМа", каб ён узяў мяне на якую тэхнічную работу.

Выйшла інакш. Пасля таго, як тры-чатыры тыдні палётаў з некалькімі выпрабавальнымі даручэннямі, я быў узяты ў штат "ЛіМа" кімсьці накшталт падмайстра, падручнага. Пры неўкамплектаванасці штату ў ім ставала літаратурных "ваўкоў" — лімаўцамі былі тады Алесь Кучар, Уладзімір Карпаў, Анатоль Вялюгін, Антон Бялевіч, Рыгор Смоляр, Алесь Есакоў — пісьменнікі і журналісты, што называецца, з іменамі. Але ж не ім, мэтрам, было займацца драбязой! Скажам, рыхтаваць на газетныя старонкі хроніку або пісаць за оперную прымадонну ўсхваляваны водгук на чарговы кіруючы партыйны дакумент. Вось і рэкрутавалі на такое мяне.

З вышыні пражытага разумею, чым яны для маёй будучыні сталі — два з паловай гады, на якія зялёным трапіў у лімаўскую крутаверць. Пры ўсім горкім, што выпала тады зблізку назіраць (пра гэта — у эсэ, да якога гэты ўступчык), то быў для мяне шчаслівы, выпрашальны для лёсу час. Час, калі, акрамя ўсяго, давялося пазнаёміцца з нязгаснымі зоркамі беларускай культуры.

Гэта і Міхась Лынькоў, чыйго "Міколку-паравоза" ў малодшых класах ведаў мала не на памяць! Гэта і Леанід Рахленка — фенаменальны Гарлахвацкі. Гэта і капітан падарожжаў фантазіі беларускай дзятвы Янка Маўр. Неяк, зайшоўшы ў рэдакцыю, ён паставіў каля мяне партфель. І я ледзь утрымаўся ад смеху. Партфель упрыгожвала медная бляха з манаграмай: "Шаноўнаму Янку Маўру ў дзень 60-годдзя ад Івана Міхайлавіча Фёдарава". (Нагадваю: Янка Маўр — псеўданім Івана Міхайлавіча Фёдарава).

У снежні 61-га я стаў лімаўцам зноў. Па запрашэнні Нічыпара Пашкевіча, тагачаснага галоўнага рэдактара газеты — па-мойму, аднаго з лепшых у яе гісторыі. Прыйшоў ужо не зялепухай, а журналістам дастаткова вопытным, членам Саюза пісьменнікаў. Адпрацаваў тут у дадатак да ранейшых двух з паловай яшчэ дванаццаць гадоў — загадчыкам аддзела, адказным сакратаром. У іпастасі апошняга спадобіўся ўпамінання ў нятленным "Сказе пра Лысую гару". Не к дабру. Бо заканчваўся перыяд хрушчоўскай адлігі, і зноў прымарожвала...

Не хочацца, каб літаратурныя выданні і надалей кідала ўверх-уніз перападамі ў грамадскай атмасферы.

Не хочацца, каб вярталася да жыцця падобнае на тое, пра што згадваю далей.

## "Я не самотны..."



**У мінскай гімназіі N 204 адбылася літаратурная вечарына ва ўшанаванне 105-й гадавіны з дня нараджэння Максіма Багдановіча, 115-й гадавіны з дня нараджэння Янкі Купалы. А зараз настаўнікі і іх выхаванцы рыхтуюцца да 80-х угодкаў той сумнай даты, калі ў маёвай Ялце выпаў "Вянок" з рук Максіма-Кніжніка.**

**У гімназіі ствараецца музей Максіма Багдановіча. Праз тэрыторыю сённяшняга мікраёна "Паўднёвы Захад" пралягаў калісьці знакаміты Койданаўскі шлях, тут захаваліся курганы — старажытны "летапіс" продкаў. Пісьменнікі, якія жывуць у мікраёне, гатовы дапамагчы гімназіі і ў стварэнні музея. І ў асветнай працы, і пасрыяць таму, каб споўнілася мара гімназістаў аб наданні іх гімназіі імя Максіма Багдановіча.**

**На здымку: адзін з экспанатаў будучага музея — партрэт М. Багдановіча работы львоўскага мастака Алега Нагі.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

## Глядзі і слухай

**У першай палове сакавіка мінчанам не давядзецца сумаваць, маркуючы па шчыльным раскладзе канцэртаў у афішы "Клас-Клуба". Заўтра ў філармоніі пройдзе дабрачынны канцэрт-эсэ памяці Ігара Паліводы "У першы дзень вясны". Удзельнікі праграмы — заслужаныя артысты Беларусі Валеры Дайнека, Ядвіга Паплаўская і Аляксандр Ціхановіч, Алег Цівуноў, Якаў Навуменка, лаўрэат міжнароднага конкурсу піяніст Алег Крымер, Дзяржаўны камерны хор Беларусі пад кіраўніцтвам Ігара Мацюхова, хор "Унія" пад кіраўніцтвам Кірылы Насаева і іншыя выканаўцы. Адкрыццё мемарыяльнай экспазіцыі адбудзецца ў 18.30.**

**З сакавіка ў канцэртнай зале "Мінск" — сустрэча з "расійскай Мадоннай" Машай Распуцінай, якая збіраецца падзяліцца ўспамінамі пра тое, як "Я была на Венеры". Відаць, у Гімалаі спявачку ўжо не цягне... 12 сакавіка ў Цэнтральным Доме афіцэраў адбудзецца канцэрт-спектакль расійскага акцёра Валерыя Залатухіна "У пошуках жанру". А 14-га зноў запрашае "Мінск": у цыкле канцэртаў "Залатыя імёны 80-х" выступіць аўтар-выканаўца Вячаслаў Малежык са сваёй юбілейнай праграмай "Патану ў каханні".**

**Пачатак усіх канцэртаў а 19-й гадзіне. Кошты білетаў — дэмакратычныя.**

**Ірына БАРАВАЯ**

## У Мінску — джаз

**Учора адбыўся першы канцэрт фестывалю джаза "Мінск-97". У чацвёрты раз ладзіць гэтае міжнароднае музычнае свята Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга. Асноўны фундатарскі цяжар сёлета ўзялі на сябе гарадскія ўлады, фінансавую падтрымку забяспечваюць таксама Міністэрства культуры і спонсары. Пачаўся фэст бенефісам вакальнага ансамбля "Камерата" (кіраўнік І. Мельнікаў), прысвечаным яго 10-годдзю. Сёння сцэну Клуба імя Ф. Дзяржынскага "дзеляць" з беларускім біг-бэндам знаныя госці — "Каўнас біг-бэнд" пад кіраўніцтвам Р. Грабштаса. Заўтра — вечар вакальнага джаза, на якім сярод іншых замоўлены і вядомы "чорны" спявак з Даніі Джэймс Лаўлес. Закрыецца фэст 2 сакавіка вялікай імпрэзай біг-бэнда і ансамбляў салістаў нашага канцэртнага аркестра.**

**С. Б.**

# Яго універсітэт

***Празаіку Уладзіміру Карпаву, аднаму з першых лімаўцаў 26 лютага споўнілася б 85 гадоў. Удава пісьменніка Марыя Міхайлаўна прадаставіла нам са свайго архіва ўспаміны Алеся Есакова, які працаваў у "ЛіМе" разам з Уладзімірам Барысавічам у 40-я гады.***



Калі з маладосці ведаеш чалавека, то ўсё жыццё ён уяўляецца юнаком, пазней нават не звяртаеш увагі на яго сівізну, маршчыны і крыху стомленую хаду... Ён прыходзіў у лімаўскую рэдакцыю на Рэвалюцыйную і гучна пытаўся:

— Колькі сёння напісаў?

— Некалькі старонак, — адказваў я.

— А я і таго менш.

Хаця па стомленым твары сябра заўважаю, што ён, як і заўсёды, працаваў уначы, каб напісаць перадавы артыкул, рэцэнзію, зрабіць некалькі ўрэзак, прыдумаць назвы артыкулаў і выправіць частку матэрыялаў у нумар. (Бо тады ў нас яшчэ не было такой раскошы, як стыльрэдактар.) І тут жа запрашаў мяне за вольны начальніцкі стол, за якім у розныя гадзіны дня па чарзе сядзелі — рэдактар, намеснік і адказны сакратар. Пасаду сакратара і займаў Уладзімір Барысавіч Карпаў.

У тыя — саракавыя — гады многія з літаратараў і журналістаў прыходзілі ў рэдакцыі ў зацярушаных пылам салдацкіх гімнасцёрках і кірзавых ботах, з франтоў і партызанскіх атрадаў. І працавалі мы не толькі за сябе, а калі трэба дык за дзесяцёх. Ішла яшчэ вайна і людзей не хапала.

Уладзімір Барысавіч быў чалавекам дысцыплінаваным, таму на працу ў рэдакцыю з'яўляўся дакладна ў дзевяць раніцой. Адразу праглядаў газеты, і калі мы яшчэ заставаліся адны, ён расказваў, як мяркуе пачаць новую кнігу.

Часта Уладзімір Барысавіч звяртаў нашу ўвагу: газета павінна быць звязана з жыццём, тады яна будзе цікавай для ўсіх. У той час у "ЛіМе" існавала два аддзелы— літаратурны і мастацкі. Загадчыкі былі, а літсупрацоўнікаў не паспелі падабраць. Таму часцяком газету даводзілася выпускаць утраіх. Ён патрабаваў, каб сярод спецыяльных матэрыялаў былі і публіцыстычныя, зробленыя па-пісьменніцку, — чытэльна і востра.

Адметнай яго рысай як журналіста, крытыка, літаратара была палемічнасць. У яго на ўсё быў свой погляд. Багаты жыццёвы вопыт выхаваў у ім настойлівасць, прынцыповасць і своеасаблівае бачанне не толькі рэчаіснасці, але літаратуры і мастацтва. Хлопцы з партызанскага і літаратурнага асяроддзя гаварылі, што Карпаў лёгка "заводзіўся". Гэта значыць, што не быў абыякавы да любой гутаркі, а ўдзельнічаў у ёй актыўна, з запалам.

Нумар звёрстаны, карэктура вычытана, увечары мы чакаем, калі газету возьмуць на машыну. Вось тады і пачыналі гаворку пра літаратуру. Літаратурныя гутаркі Уладзімір Барысавіч называў своеасаблівым жыццёвым універсітэтам, дзе не толькі пашыраўся дыяпазон яго ведаў, а і шліфаваліся, адточваліся думкі, ён як бы правяраў іх хаця і на вузкай, але аўтарытэтнай аўдыторыі.

...Я часта любіў назіраць, як Карпаў, побач са сваёй нязменнай сяброўкай Марыяй Міхайлаўнай ідзе па Ленінскім праспекце ці шпацыруе па Купалаваму бульвару Мінска... На яго пісьмовым стале засталася няскончаная кніга пра Мінск, якая хвалявала яго і якой жыў ён да апошняга свайго дня.

**Алесь ЕСАКОЎ**

Святлана КЛІМКОВІЧ

# Мінула 25 гадоў...



Пасля універсітэта я трапіла ў рэдакцыю газеты "Голас Радзімы" і доўгі час працавала там. Газету ўзначальваў цудоўны чалавек Леанід Януаравіч Прокша. Калі Прокшу прызначылі галоўным рэдактарам "ЛіМа", нашаму засмучэнню не было межаў.

У "ЛіМе" была аналагічная сітуацыя: калектыў не мог змірыцца з тым, што пакінуў сваю пасаду Нічыпар Еўдакімавіч Пашкевіч. Таму рэдакцыя вельмі холадна прыняла Прокшу. Прыкладна ў гэты час па запрашэнні Прокшы я прыйшла працаваць у "ЛіМ".

Лёд паміж новым рэдактарам і калектывам, які з часам ацаніў выдатныя чалавечыя якасці Прокшы — дабрату, чуласць, сумленнасць — паступова раставаў. І канчаткова ён знік, зняміўшыся шчырай прыхільнасцю, калі ў 1972 годзе Леанід Януаравіч надрукаваў свой артыкул пра Васіля Быкава. Гэта быў час актыўнага цкавання Васіля Уладзіміравіча, а Прокша стаў на яго абарону, не папярэдзіўшы цэнзараў з ЦК і не спытаўшыся ў іх. Здарылася тое, што павінна было здарыцца: Прокшу знялі з пасады.

З прыходам Х. Жычкі адзін за адным апынуліся за дзвярыма рэдакцыі У. Мехаў, М. Гіль, А. Белавусаў, І. Пісьменная і іншыя, у тым ліку і я.

Такім чынам, я працавала ў "ЛіМе" толькі два гады, але як многа далі яны мне! Тут і прафесійны ўзровень журналістаў, і патрабаванні былі значна вышэйшыя, чым у іншых выданнях. Мне даводзілася шмат працаваць, каб "дацягнуцца" да астатніх. Дасюль успамінаю парады майго загадчыка аддзела Барыса Бур'яна. Калі я яму прынесла свой першы артыкул, ён сказаў:

— Чаму вы лічыце, што ў мове ёсць толькі коскі і кропкі? Маюцца ж яшчэ клічнікі, пытальнікі, двукроп'і, шматкроп'і, працяжнікі. Раскідайце іх у тэксце пароўну і пабачыце, як "зайграе" той жа артыкул.

І яшчэ ён казаў:

— Пішыце так, каб я пазнаваў ваш голас, менавіта **вашу** інтанацыю. Каб я адразу разумеў, чый артыкул, нават калі там не будзе подпісу.

Раніцай, калі супрацоўнікі рэдакцыі збіраліся на працу, вяліся цікавыя размовы і пра лімаўскія, і пра ўласныя творчыя справы. Адзін радаваўся, што ў планы выдавецтва ўключаны яго паэтычны зборнік; другі скардзіўся, што не прапускаюць востры дакументальны фільм па яго сцэнарыі; трэці раіўся, у які тэатр аддаць сваю новую п'есу. Прыблізна пра тое ж гаварылі пісьменнікі і дзеячы мастацтва, калі забягалі ў "ЛіМ" занесці артыкул ці проста пагутарыць.

У такой атмасферы проста немагчыма было не паспрабаваць сябе ў літаратурнай дзейнасці. Менавіта тады я і напісала свае першыя творы.

Мінула 25 гадоў. Але мы, старыя лімаўцы, не забываем адзін аднаго, сустракаемся як шчырыя добрыя сябры і з удзячнасцю ўспамінаем нашу супольную працу ў газеце.

# Антысталінец Кастусь Каліноўскі

*(Працяг. Пачатак на стар. 19)*

ды пад аркестравую медзь — "Няма ў нас дваран! У нас усе роўныя!" Ваяўнічая прапаганда бяскласавасці! Міна, падкладзеная яму, Панамарэнку! Нераўночуы тое самае, што Мазанік і Осіпава падклалі гаўляйтару Кубэ!

І ён люта, у лексіцы не цырымонячыся, раскрычаўся. Пра ўпартае нераззбраенне бебурнацаў (расшыфроўваю галаваломную абрэвіятуру недасведчаным: беларускіх буржуазных нацыяналістаў). Пра жывучасць іх у акадэмічных інстытутах — толькі і чакай непрыемнага сюрпрызу ў якой публікацыі ці прачытаным дакладзе. Пра відочнае нежаданне ў пазіцыі шмат каго з вершаскладальнікаў — пры ўсёй здольнасці іхняй мімікраваць. Пра выведанае ў Гародні і Барановічах па лініі органаў дзяржаўнай бяспекі...

А Клімковіч у воддальным ад трыбуны радзе цягам усёй грымотнай тырады стаяў. На вачах сцінаючыся. Камуніст з большым, чым у таго, хто яго шпыняў, партстажам. Адзін з дакладчыкаў на сходзе, дзе зараз пераносіў экзекуцыю, — напярэдадні рабіў тут даклад аб стане літаратуразнаўства.

...Калі запланаванае і незапланаванае скончылася і люд гаманліва паваліў у гардэроб, я апынуўся ў чарзе па сваё паліто за чалавекі тры-чатыры ад Клімковіча. Адны калегі, бачыў, праскоквалі паўз яго, ніякавата кіўнуўшы, — маўляў, даруй, брат, дужа спяшаюся. Другія спыняліся, загаворвалі, але ж абыходзілі тое, што яго не магло не гнясці, — рабілі выгляд, быццам нічога не здарылася. Трэція пацiскалі руку і маўчалі, — гэтым ён, па-мойму, быў шчыра ўдзячны. Бо твар у яго быў без крывінкі, толькі страхавітая выемка на гарляку густабарвова пульсавала, налітая крывёй.

Сцэну, якая выклікала вышынную разгневанасць, у бліжэйшыя ж дні ў спектаклі, вядома, перарабілі. Што гаварыў Каліноўскі перад узыходам на шыбеніцу ў выпраўленай рэдакцыі лібрэта не ведаю, слухаў оперу толькі ў прэм'ерным варыянце.

Мікраапала на Панамарэнку хутка мінулася. Незадаволенасць ім у нечым, выяўленая прысылкай у Мінск Гусарава, перамянілася на дэманстрацыю самага высокага даверу, — у крамлёўскіх кругаваротах такое было і застаецца частым. У тым жа сорак восьмым, неўзабаве пасля таго, пра што згадваю, Панцеляймон Кандратавіч быў пераведзены ў белакаменную. Аж сакратаром ЦК ВКП(б) — назву КПСС партыя дала сабе гады праз чатыры. І ўжо ж, відаць, апітраўшы на гэта большыя магчымасці, прыклаў руку да таго, каб Гусараў у Беларусі доўга не заседзеўся, перамешчаны быў назад у Маскву, на ўзровень няўднага чыноўніка.

Што да Міхася Клімковіча, то надалей фартуна бывала да яго і дабрэйшай. Успомніць хоць бы тое, што песні, створанай ім з кампазітарам Несцерам Сакалоўскім, выпала пазней стаць гімнам Савецкай Беларусі (што гімнам, толькі без тэксту, у нас і цяпер). Праўда, Сакалоўскі памёр задоўга да гэтай радасці, а Клімковіч дажыў, аднак ужо смяротна хворым, на саменькім астатку не надта доўгага свайго веку.

Ды ў мяне ўвачку, калі чую пра яго, паўстае ён такім, якім стаяў перада мной у гардэробе мінскага Доме партыйнай асветы (цяпер Дома акцёра) па заканчэнні таго памятнага пісьменніцкага сходу. З тварам без крывінкі, але з густабарвовай налітасцю выемкі на гарляку — следам таго, што колісь паласнуў сябе, застрашаны, лязом.

Цяжкае было відовішча...

БЫЛО...

# Першы рэдактар "ЛіМа" быў расстраляны

***Імя Хацкеля Дунца (у студзені 1997 г. яму споўнілася б 100 гадоў) сёння шырокаму чытачу мала вядома. Між тым, у першай палове 30-х гадоў гэта была даволі вядомая фігура ў грамадска-палітычным і літаратурным жыцці Беларусі. Ён быў намеснікам наркома асветы БССР — кіраўніком Галоўмастацтва рэспублікі, рэдактарам адразу дзвюх газет — "Октобэр" на яўрэйскай мове і "Літаратура і мастацтва", членам праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў Беларусі і кіраўніком яго яўрэйскай секцыі, палітрэдактарам (пазаштатным) Белдзяржвыдавецтва.***

## "ГЭТАЙ СПРАВАЙ ПАВІНЕН ЗАНЯЦЦА ЦК"

20 лютага 1935 г. рэспубліканскія газеты пад вялікімі загалоўкамі надрукавалі пастанову бюро Мінскага гаркама КП(б)Б "Аб рашэннях парткомаў Наркамасветы і Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР па справе тав. Дунца", прынятую 13 лютага. Гэтай пастановай "за працягванне ў сваёй дзейнасці трацкісцка-зіноўеўскай кантрабанды", стварэнне групаўшчыны сярод яўрэйскіх пісьменнікаў і як "нязжыўшага буржуазнага нацыяналізму" з партыі выключаўся намеснік наркома асветы і кіраўнік Галоўмастацтва, рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" Х. Дунец. У якасці прыкладу "трацкісцка-зіноўеўскай кантрабанды" прыводзіўся выхад у 1934 г. пад рэдакцыяй Х. Дунца кнігі вершаў паэта А. Юдэльсона "Граніца", перш за ўсё змешчаная ў ёй паэма "Норд-Ост", у якой угледзелі адмаўленне сталінскай высновы аб магчымасці пабудовы сацыялізму ў адной краіне і абвінавачванне савецкага пралетарыяту ў нацыянальнай абмежаванасці. Другой падставай была названа прапаганда Х. Дунцом кнігі пісьменніка і крытыка А. Абчука "Гірш Шамай", выдадзенай на Украіне яшчэ ў 1927 г. і тады ж залічанай у лепшыя творы яўрэйскай савецкай літаратуры, але там жа, на Украіне, і выкрытай за прапаганду трацкісцкіх ідэй. Нарэшце, трэцяе абвінавачванне — свядомае скажэнне заметкі ў насценгазеце Наркамасветы, накіраванай супраць "трацкісцка-зіноўеўскіх забойцаў".

Той факт, што ўзнятае пытанне па прадстаўленні парткомаў Наркамасветы і Саюза пісьменнікаў разглядалася на бюро гаркама і ў той жа дзень на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б, сведчыць аб тым, што "справу" Х. Дунца рыхтавалі загадзя і па пэўным сцэнарыі. Аб гэтым гавораць і матэрыялы з аналізам літаратурных твораў Х. Дунца, з якім знаёміўся асабіста першы сакратар ЦК КП(б)Б М. Гікала.

## "ПАРТЫЯ І ЦК ЗАЎЖДЫ МАЮЦЬ РАЦЫЮ..."

**У паграджальнай для сябе сітуацыі Х. Дунец не стаў вышукваць "змякчаючых акалічнасцей", апраўдвацца, абвінавачваць іншых. Паводзіў сябе ў адпаведнасці з тагачасным непахісным прынцыпам: "Партыя і яе ЦК заўжды маюць рацыю". Адшуканая ў архіве стэнаграма разгляду яго "справы" на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б — унікальны дакумент эпохі. Па сутнасці, гэта было судовае пасяджэнне, дзе ў якасці пракурора-абвінаваўцы, увасабляючы вышэйшую прынцыповасць і беспамылковасць, выступаў сам М. Гікала, першай асобе падыгрывалі старшыня парткалегіі КПК па БССР І. Лейзер, сакратар Мінскага гаркама КП(б)Б А. Рыскін; далей — маўклівае бюро, як своеасаблівая "судовая прысутнасць"; нарэшце, абвінавачаны, які больш згаджаецца, чым абараняе сябе.**

*"Строга сакрэтна"*
*Са стэнаграмы абмеркавання*
*Х. Дунца на бюро ЦК КП(б)Б*
*13 лютага 1935 года:*

т. Гикало: "Вот смотрите, здесь записано такое дело: "Он никогда серьезно не занимался изучением марксизма-ленинизма". Вы говорите, что ничего нельзя сказать по этому решению. Вот Вы, читали ли?"

т. Дунец: Я думаю, что приблизительно всего прочел Ленина.

т. Гикало: "Маркса читали?"

— Читал. Я не читал систематически.

т. Лейзер: "Изучали его?"

— Изучал Маркса и Ленина, но изучал отрывочно, в порядке самообразования.

т. Гикало: "После того, как пришли в нашу партию?"

— Только после этого, до этого не изучал. Знал, но не изучал.

т. Гикало: "Ведь Вы были в "СС" (сіяністы-сацыялісты). А партия "СС" ставила основной целью борьбу против Маркса?"

— Я тогда не читал Ленина.

т. Гикало: "Значит, будучи в рядах нашей партии, Вы читали Ленина і Маркса. Вы считаете себя подготовленным в этом отношении?"

— Считаю, что серьезно подготовлен, теоретически хорошо подготовлен.

т. Гикало: "Специально нигде не учились марксизму-ленинизму?"

— Я просил, чтобы меня послали учиться.

т. Гикало: "Когда Вы учились, у Вас, может быть, сомнения были, когда читали Маркса? Вы с кем-нибудь советовались, чтобы объяснили Вам эти места?"

— Может быть, были такие случаи, я не помню. Потом мне самому приходилось заниматься.

т. Гикало: "Видите, мало Ленина читать, надо уметь разъяснять. Теперь дальше: смотрите, здесь написано: "Пользуясь поддержкой партийных и советских организаций, использовал созданный ему авторитет для групповщины, семейственности среди отдельных писателей" и т.д. — это правильно?

— Я не знаю, как же это я — один человек — все это создавал?

т. Гикало: "Но как Вы понимаете этот пункт решения?"

— С Бронштейном, Хариком работаем давно вместе. И не только с еврейскими писателями, но и с другими писателями.

т. Гикало: "Значит, неправильно здесь, по-Вашему, записано?"

— Я думаю, это не совсем так. Я не знаю. Если считать, что мы работаем вместе, вместе советовались и, я скажу, когда мы вели борьбу против литваковщины, тогда выступали группой вместе...

т. Рыскин: "А что Бронштейн и Харик говорили на бюро и что Бронштейн писал позавчера в газете?"

— Я говорю, что тогда и вообще во время РАПП'овской и БелАПП'овской организаций была групповая замкнутость. Это была общая группа, и из-за этого были ликвидированы эти организации. Конечно, я также участвовал в этой замкнутости; но почему-то считается, что я ее возглавлял. Наоборот, более квалифицированным критиком был Бронштейн, и всегда Бронштейн считался более квалифицированным критиком. Правда, я по партийному стажу был более старшим человеком.

т. Гикало: "Бронштейн с какого года в партии?"

— С 1924 г., кажется.

т. Гикало: "Он был в другой партии?"

— Был в П(оалей) Ц(ион).

т. Гикало: "Харик с какого года член партии?"

— Он кандидат.

т. Гикало: "В других партиях был?"

— Не был. Считаю, что это мое пребывание в буржуазной партии и эта моя плохая подготовленность привели тому, что я провалился на этих книгах и, вместо того, чтобы, как партиец, разоблачать эти книги, я фактически покрывал эти книги своим партийным авторитетом. Так действительно это получилось. Конечно, тогда содействовало также и то, что я, видимо, в своей работе недостаточно самокритикой занимался, с тем, чтобы продумывать свою работу.

т. Гикало: "У Вас есть статьи, направленные против "СС"?

— Есть целая книжка.

т. Гикало: "А против "Бунда"?

— Есть книжка и отдельные статьи. Против троцкизма есть отдельные выступления. Я об этом писал много и, может быть, действительно делал неплохо, что я писал и прочитал.

т. Гикало: "Вы где-нибудь учились?"

— Я учился только в Витебском педтехникуме, когда я там работал и посещал этот техникум.

т. Гикало: "Вам сколько лет?"

— Мне 38 лет.

т. Гикало: "Так что до революции вы были молодым человеком. Но все-таки учились?"

— Я учился только в хедере. Учился, примерно, с 6-летнего до 12-летнего возраста.

т. Гикало: "А потом что делали?"

— Я работал. У нас была хлебопекарня — у моих родителей. Все наши дети работали, и я работал.

т. Гикало: "Ваш отец пекарь?"

— Это моя мать работала.

т. Лейзер: "А отец оглавлял?"

Отец был никчемным человеком.

т. Лейзер: "Эксплуатировал, что ли?"

— Почти что так.

т. Гикало: "Он был кустарем, что ли?"

— Да, мелкий кустарь. Рабочих имел время от времени, больше всего работали мои братья.

т. Гикало: "А где Вы учились?"

— Только после революции в Витебском техникуме, одновременно работая в парткоме — 3-4 года.

т. Гикало: "Видимо, там было много националистических настроений?"

— Были, и я боролся с этими настроениями.

т. Лейзер: "Как Вы считаете, постановление горкома правильное?"

— Я считаю выводы неправильными.

т. Лейзер: "А как Вы полагаете, с такими действиями, настроениями можно быть в партии?"

— Я скажу так. Можно нечто скрывать от бюро ЦК. Если взять эти факты объективно, как они есть...

т. Лейзер: "Не только объективно".

—..Я говорю, что за эти факты партия не может подойти с той или иной пощадой, я это совершенно сознаю.

т. Лейзер: "Почему Вы считаете выводы горкома неправильными?"

— Потому что все же я на протяжении всех тех лет, которые я работаю в области литературы, начиная с 1927 г., все-таки много сделал (и это была моя область) для того, чтобы разоблачить в литературе все антипартийное, антисоветское, и по линии буржуазного национализма, что идет против нашей партии. И этим я добился доверия, которое мне было оказано. Потому что я работал. И я считаю, что я сделал большие преступления. Эти преступления ничем не искупаются. Они ничем не искупаются, сколько бы я ни делал для партии. Потому что партия всегда требует делать то, что нужно для партийного дела. И всегда должна наказывать за то, что идет против линии партии.

т. Гикало: "Партия не только требует от коммунистов, а подымает и беспартийные массы".

— Я и говорю — тем паче требует от коммунистов. От меня требует. Но я говорю, что меня еще можно переделать, меня еще можно перевоспитать, исправить. Я могу работать для партии. Дайте мне возможность хотя на маленьком участке, не на таком большом, работать. Действительно, может быть, не надо было меня ставить заместителем наркома. Ведь мне дали большое очень дело. (...) И действительно, мне дали много работы. Я разбрасывался: работал здесь, работал там и получилось, что я не справился с этой работой.

т. Лейзер: "Что Вам много работать дали? Это партия нагрузила Вас?"

— Парторганизация. Ведь в Наркомпрос меня послала партия. С газеты меня также не снимали — надо ведь партии управлять. По линии литературы — то же. Говорили, что я оторвался от литературных организаций. И действительно, за последние полгода я оторвался от литературных организаций.

т. Гикало: "т. Дунец, здесь записано, что Вы протаскивали буржуазные контрреволюционные националистические теории, что буржуазно-националистическое прошлое на Вас сказалось. Вы говорите, что это правильно. В чем же это выражается?"

— Вот когда речь идет об этой книге Абчука, о которой я говорил. Там не только троцкизм, там и еврейский шовинизм. А я этот еврейский шовинизм не вскрыл, потому что мне казалось, что, поскольку это говорит от себя герой, то автор как будто с ним не согласен. Это как будто один другого сменяет.

т. Гикало: "Вот, смотрите, троцкизм — есть, буржуазный шовинизм — есть, а вот Вы называете это лучшим произведением искусства".

т. Голодед (пред. СНК БССР): "Точно также было у Дубовки: там тоже было два героя".

т. Гикало: "И, как будто, Дубовка с ними не соглашался. Что же скажете?"

— Что я скажу? Я еще раз повторю, что я говорил. Я прошу, чтобы ЦК меня испытал еще.

т. Гикало: "У нас впечатление создается, что исключить Вас надо".

— Я считаю, что правильна та квалификация, которая дается моим действиям. Это правильно, иначе нельзя толковать. Но говорю, что это не говорит о том, что я протаскивал, сознательно это делал. Ведь я же выступал против еврейского шовинизма. Я выступал против троцкизма, я выступал против правого оппортунизма. Значит, у меня это — прорывы, прокол в моей работе. И я прошу, чтобы ЦК дал мне возможность это выправить. Я все-таки думаю, что не совсем уж я такой неспособный, негодный для большевистского дела, для партии.

Пусть мне создадут такие условия, при которых каждый момент я был бы под контролем рабочей организации. Пусть меня пошлют на предприятие...

т. Гикало: "Вы знаете, что т. Сталин говорил, что нужно воспитывать, нужно исключительно внимательно, бережно относиться к людям, но все-таки 14 лет Вы были в партии и кончили таким контрреволюционным выступлением".

— Испытайте меня на каком хотите участке, на самом маленьком. Потребуйте от меня, чтобы я сейчас перед рабочими, перед писателями, перед всеми вышел бы с развернутой самокритикой тех ошибок, которые являются ошибками контрреволюционного характера, чтобы я это разоблачил".

**Па выніках абмеркавання бюро ЦК КП(б)Б прыняло дзве пастановы: "Аб працягванні Дунцом контррэвалюцыйнай трацкісцка-зіноўеўскай кантрабанды" і "Аб тав. Дунцу". Першай зацвярджалася рашэнне бюро Мінгаркама КП(б)Б і пацвярджалася выключэнне Х. Дунца з партыі; члены партыі з Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, асабліва тыя, якія працавалі ў галіне яўрэйскай літаратуры, абавязваліся яшчэ больш узмацніць рэвалюцыйную пільнасць, рашуча ачышчаючыся ад пралезлых у літаратуру класава-варожых элементаў, апартуністаў і нацыяналістаў усіх масцей. Другой пастановай яму давалася права праз год, пры наяўнасці станоўчай характарыстыкі ад нізавой партыйнай арганізацыі, паставіць пытанне аб прыёме ў партыю.**

*(Працяг на стар. 22)*

## "Галасы свету" і лепшае сваё

**Магчыма, не ўсе ведаюць, што ў перадваенныя гады часопіс "Полымя" немалую ўвагу ўдзяляў перакладной літаратуры, а вядомы нямецкі пісьменнік І. Р. Бехер нават уваходзіў у яго рэдкалегію. Вядома, і цяпер "Полымя" не забывае пра добрую традыцыю, але, як можна было прыкмеціць, гэта рабілася ад выпадку да выпадку. Сёлета ж — часопіс адкрыў новую рубрыку — "Галасы свету".**

**Першая публікацыя прысвечана літаратуры Германіі. Прадстаўлены ў ёй не толькі сучасныя аўтары, а і класікі. Атрымалася свайго роду візітка нямецкай літаратуры ўвогуле. М. Сяднёў пераўвасобіў творы І. В. Гётэ, Г. Гейнэ, Э. Мёрыка, Р. М. Рыльке. Н. Мацяш дае магчымасць далучыцца да творчасці Р. Бальцара. Не чулі пра гэта імя? Сапраўды, для нас, беларусаў, яно новае. Надзіва сучасна гучыць сёння творчасць лаўрэата Нобелеўскай прэміі Г. Бёля. І не ў апошнюю чаргу яго раман "Дом без гаспадара" з антымілітарысцкай, антыфашысцкай скіраванасцю. Раздзелы з гэтага твора прапануюцца ў перакладзе Л. Дарашкевіч.**

**У невялікім уступе да гэтых і іншых публікацый галоўны рэдактар часопіса С. Законнікаў выказвае ўпэўненасць: "Спадзяюся, што рубрыка "Галасы свету" знойдзе сваіх прыхільнікаў і доўга будзе жыць на старонках "Полымя". У добры час!".**

**Ды, як кажуць, — чужое шануй, а пра сваё не забывай. Па няпісанай завядзёнцы "Полымя", як у рэшце рэшт і іншыя часопісы, у першым нумары дае месца самаму лепшаму, што ёсць на гэты час у рэдакцыйным партфелі.**

**Вершы К. Камейшы, што адкрываюць нумар, выклікаюць менавіта той настрой, які ўзнікае ад сустрэчы з сапраўднай паэзіяй. Паэзіяй зямной, пяшчотна шчырай, што так характэрна для беларускай паэтычнай традыцыі. У К. Камейшы — матывы вечныя: любасць да бацькоўскага кута і да людзей, якія там жывуць, імкненне зразумець сутнасць душ, што прагнуць узаемаразумення і не заўсёды знаходзяць яго, адчуванне складанасці свету праз рэаліі паўсядзённасці. Зрэшты, паэзію цяжка пераказаць, яе трэба чытаць. Вершы Я. Хвалея — глыбокае адчуванне сучаснага жыцця ў яго складанасці, а таксама вяртанне да спаконвечнага — "Пад небам высокім...", "Грамніцы-стрэчанне...". Напісанае паэтам — для душы неабыякавай, для сэрца чуйнага...**

**У аповесці А. Жука "Сны пра маму" — роспач аб незваротнасці страты, у яго згадках — сыноўні боль і туга, якія ў кожнага свае. Але ў творы, дзякуючы майстэрству аўтара, праз лёс маці паўстае і лёс пакалення, да якога належала яна. Праз асобныя ўспаміны-навелы (яны найчасцей падаюцца ад імя той, каго няма ўжо ў жывых, а ў выніку прысутнасць маці ў гэтым свеце, у гэтым жыцці асабліва адчувальная) бачыцца жыццё вёскі на значным гістарычным прамежку. Тут і пасляваенны час, і блакада ў вайну, і не менеш горка-галодныя і халодныя гады пасля вайны. Не кожнаму, далёка не кожнаму па сіле вось так псіхалагічна чуйна схапіць (і перадаць!) праз лёс чалавека пражытае людзьмі старэйшага веку.**

**У нумары таксама друкуюцца аповесць А. Кірвеля "Кветачка", артыкул У. Гніламёдава "Ці ёсць будучыня ў літаратуразнаўства", развагі пра жыццё і творчасць А. Адамовіча "Я ведаў яго зблізку" В. Каваленкі, пачатак артыкула Р. Гарэцкага "Арышт другі" — пра лёс Г. Гарэцкага, працяг "Дзённікаў" М. Танка, рэцэнзіі на новыя кнігі...**

**А. М.**

## "Крыж на зямлі і поўня ў небе"

**28 лютага ў 17 гадзін 30 хвілін у мінскім кінатэатры "Змена" пачнецца прагляд тэлефільма "Крыж на зямлі і поўня ў небе" паводле аднайменнай аповесці В. Карамазава з удзелам аўтара. Мерапрыемства прысвячаецца 125-годдзю з дня нараджэння слыннага мастака, героя пісьменніцкай аповесці і фільма В. Бялыніцкага-Бірулі.**

**2 сакавіка а 12-ай гадзіне гледачоў збірае кінапраграма, прысвечаная 930-ым угодкам заснавання Мінска. Дэманструюцца фільмы "Ёсць у горада душа", "Па дарогах "Слова пра паход Ігаравы". Адбудзецца сустрэча з доктарам гістарычных навук Г. Штыхавым, народным паэтам Беларусі Р. Барадуліным, кінарэжысёрам М. Ждано ўскім.**

# Сур'ёзнае і кур'ёзнае

### ЗГАДКІ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

Павел МІСЬКО

У аўтабіяграфічных нататках падчас свайго пяцідзесяціgоддзя "На покліч душы" ("Маладосць" N 3, 1981 г.) я пісаў: "З 1967 па 1971 год працаваў я ў газеце "Літаратура і мастацтва". Галоўным рэдактарам тады быў Нічыпар Пашкевіч. Я і па сённяшні дзень памятаю яго жорсткія ўрокі стылю і логікі ў выкладанні матэрыялу, удзячны за яго патрабавальнасць. І падтрымку: у "ЛіМе" друкаваліся мае празаічныя творы". У тых жа маіх нататках згадваецца і той час, калі я працаваў карэспандэнтам "Звязды" па Гродзенскай вобласці (1959—1964 гг.): "Неяк у Гродна завітаў у камандзіроўку У. Мехаў, які тады працаваў у газеце "Літаратура і мастацтва". Я даў яму паглядзець апавяданне "Вераб'іная ноч". Ён прабег старонкі вачыма і сказаў: "Мне падабаецца... Дамо". А праз нейкі час з Мінска прыходзіць пісьмо ад А. Вярцінскага, які тады ўжо атабарыўся ў "ЛіМе" ў аддзеле літаратуры: "Здароў, аўтар "Цёткі Броні"! (Ці не лепш будзе гэты загаловак? Не прэтэнцыёзны, не гучны, больш просты і чалавечны!). Дык віншую, браце! Проста-такі віншую! Ёсць апавяданне, атрымалася **добрае** апавяданне. Дальбог! Уяўляю цётку Броню як жывую. І такое спалучэнне, такі сплаў сур'ёзных рэчаў з гумарам, з добрай усмешкай!.."

Былі ў мяне і да таго публікацыі апавяданняў — у розных выданнях. Але нейкую акрыленасць і ўзлёт я адчуў у сабе іменна пасля гэтай лімаўскай падтрымкі. Мяне прызнала не якое-небудзь выданне, а пісьменніцкая газета. Мэтры ад літаратуры падалі руку, памаглі пераадолець нейкі Рубікон.

І ці толькі мяне перавёў "ЛіМ" праз такую мяжу за ўвесь час свайго існавання? Сотні і сотні пісьменнікаў!

І пасля "Цёткі Броні" былі ў "ЛіМе" мае апавяданні, і нават аповесць "Чырвонае неба" (ажно ў чатырох нумарах) — тады ўжо, калі залічыў мяне ў лімаўскі штат Н. Пашкевіч. І не толькі чыста літаратурныя творы, а і вялікія артыкулы, і на цэлыя палосы нарысы. Тыя мае чатыры лімаўскія гады ўспамінаюцца са светлым сумам. Добры тады быў калектыў, хораша, ад душы працавалася.

Але ж газета ёсць газета, і, як у кожнай рэдакцыі, здараліся выпадкі, што трэба было падаваць матэрыял, як той казаў, з плеч ды ў печ.



На гэтым здымку У. Крука (вялікі лімаўскі працаўнік і фотамастак, а яшчэ — чалавек добры і з гумаркам) якраз і падлоўлены такі момант. Трэба было тэрмінова прыняць па тэлефоне, на хаду дадаткова нешта выпытваючы, матэрыял з перыферыі — адразу на машынку, мінуючы машыністак. Дзве рукі патрэбны былі для друкавання, а дзе было ўзяць трэцюю? Як кажуць, голь на выдумкі...

## З лімаўскага архіва У. КРУКА





*Квартэт. Віктар Казько і Сяргей Законнікаў. 1987 г.*

*К. Кірэнка, І. Гурскі, М. Ткачоў. На рыбалку ў Бялынічы. 1957 г.*

# Як жытнёвае зярнятка

### ЗГАДКІ БЫЛОГА ЛІМАЎЦА

Аркадзь МАРЦІНОВІЧ



Мая работа ў "ЛіМе" (1957—1964) успамінаецца мне светлай старонкай. Не скажу, што мне было лёгка, тым больш, што я быў адказным сакратаром, а гэтая работа ў рэдакцыі ці не самая клапатлівая і нагружаная. Асабліва нялёгка мне было спачатку. Але я апынуўся ў цудоўным калектыве і поруч з цудоўнымі кіраўнікамі. Галоўным рэдактарам быў Мікола Ткачоў, а ягоным намеснікам — Раман Сабаленка. Вельмі важны і яшчэ адзін момант: работа ў "ЛіМе" — гэта знаёмства і таварышаванне з творцамі, гэта вучоба ў іх. У той час мы маглі толькі нясмела марыць аб свабодзе слова, свабодзе друку. Калі газета апублікавала артыкул "Шануйце родную мову" Б. Сачанкі, тады яшчэ студэнта БДУ, нашага галоўнага рэдактара адразу паклікалі ў ЦК КПБ, дзе яму давялося выслухаць нямала суровых папрокаў; папярэдзілі, каб больш такіх артыкулаў не з'яўлялася. А ў гэтым артыкуле ўзнімалася самае натуральнае пытанне — вучыцца на беларускай мове. Мусілі прайсці тры дзесяткі доўгіх гадоў, каб настаў новы час. Гарбачоўская перабудова, распад СССР, абвяшчэнне незалежнасці Беларусі... І я шчыра радуюся, калі прыкідваю ў думках, як многа апублікавала газета матэрыялаў, змагаючыся за тое, каб расла нацыянальная свядомасць людзей, каб жыла і квітнела родная мова, каб жыла і мацнела незалежная Беларусь. Разумнае, праўдзівае, шчырае слова на старонках газеты — гэта як жытнёвае зярнятка, кінутае ў глебу, з якога ўзгадуецца колас.

# Першы рэдактар "ЛіМа" быў расстраляны

(Працяг. Пачатак на стар. 21)

### "ВЫКЛЮЧЭННЕ ПАЦВЕРДЗІЦЬ..."

15 лютага 1935 г. Х. Дунец накіраваў на імя першага сакратара ЦК КП(б)Б М. Гікалы вялікі ліст, у якім пісаў, што яшчэ раз асэнсаваў карані сваіх памылак і поўнасцю згаджаецца з усімі партыйнымі рашэннямі.

Адказу не атрымаў. Тады ён апеляваў у парткалегію пры ЦК ВКП(б). Адмовілі. У верасні 1935 г. зноў вярнуўся ў КПК. На разгляд сваёй "справы" быў запрошаны разам з прадстаўніком парткалегіі па БССР. Рашэнне падпісаў Я. Яраслаўскі: пацвярджалася выключэнне з партыі, але давалася магчымасць перагляду "пытання аб партстановішчы" па хадайніцтве агульнага сходу нізавой партарганізацыі, зацверджаным райкамам партыі. Х. Дунец у гэты час працаваў культработнікам на Мінскім заводзе імя Кірава. На выпісцы з рашэння партыйнай калегіі, прысланай у ЦК КП(б)Б, стаіць рэзалюцыя М. Гікалы: "Даведацца, хто яго рэкамендаваў на завод Кірава і ў якасці каго?"

Летам 1936 г. Х. Дунец быў арыштаваны і 27 жніўня асобай нарадай пры НКУС СССР асуджаны на 5 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў з фармулёўкаю "за правядзенне контррэвалюцыйнай агітацыі". Зняволенне адбываў ва ўхтпячорскіх лагерах. У красавіку 1937 г. у час адбыцця пакарання ў лагеры зноў арыштаваны і Ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР 28 кастрычніка таго ж года асуджаны да вышэйшай меры пакарання, цяпер ужо "за ўдзел у контррэвалюцыйнай арганізацыі". Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г. у Мінску. Рэабілітаваны па абодвух прысудах 24 студзеня і 2 сакавіка 1967 г. за адсутнасцю складу злачынства. У 1989 г. прыйшла палітычная рэабілітацыя. Газета "Звязда" 19 верасня 1989 г. паведаміла аб рашэнні бюро ЦК КПБ: "Аднавіць (пасмяротна) у КПСС Дунца Хацкеля Майсеевіча, былога культработніка завода імя Кірава".

**Расціслаў ПЛАТОНАЎ,**

**доктар гістарычных навук**

